Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№45 (4589) 12 лістапада 2010 г.

## У нумары:





# Камедыя з сакрэтам

**Сёння, 12 лістапада, споўнілася 90 гадоў з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі, драматурга Андрэя Макаёнка. Наш слынны драматург не спраектаваў праз свае п'есы ўласнае даўгалецце, як гэта атрымалася ў Бернарда Шоў і Кандрата Крапівы. Брама неўміручасці адчынілася перад ягонымі камедыямі. Бо іх аўтар распрацаваў тып "камеды з сакрэтам" або "з падвойным дном". Яна, бы хітрая валізка кантрабандыста, не адразу выяўляе ўсё сваё змесціва.**



Камедыя "Лявоніха на арбіце" (1961) тварылася ў дужа аптымістычны перыяд савецкай гісторыі, калі была прынятая Праграма пабудовы камунізму, у адпаведнасці з якой поўнае шчасце павінна было прыйсці ўжо пры нашым жыцці. Першы чалавек пабываў у космасе. Лявоніха — праўобраз беларускай феміністкі — выраклася каровы як "перажытку мінулага", даручала мужыку прасці сваю спадніцу, чытала ўголас "Мадам Бавары" Флабэра ды імкнулася калі не ў космас, дык хоць на дэпутацкую пасаду. Чаму было б не заспяваць ад радасці ды тую самую "Лявоніху" не прытупнуць?

Ды нешта не рвецца ў гэты самы камунізм Лявон, хаваючыся за сваім "рагатым бастыёнам". Ён з тых памяркоўных кансерватараў, якія не церпяць паспешнасці і кідаюцца на злом галавы да ўсяго новага: "Што вы за людзі? Ну чаго спяшаецеся? Што вы мяне гоніце? Дайце агледзецца! А то што ні дзень, то ўсё (разгублена) новае... (з абурэннем) новае... (са злосцю) новае!!! Жыву, як на палубе караблля: то туды гайдане, то сюды. Няўстойліва на нагах стаю. Дайце мне прыспасобіцца".

Макаёнак паспяшаўся развянчаць свайго героя, прымусіўшы яго красці калгаснае сена. Але падвойнае дно камедыі засталося нераспячатаным і чакала сваёй часіны.

Як гэта было і з першай паўнавартаснай камедыяй майстра — "Выбачайце, калі ласка!" (1953), што выкрывала не толькі чалавечыя, але і сацыяльныя заганы таго часу. Між іншым, напісана яна была ў тыя часы, калі панавала тэорыя бесканфліктнасці, у адпаведнасці з якой драматургам рэкамендавалася паказваць супярэчнасці "паміж добрым і яшчэ лепшым".

Рызыкоўнай была ўжо ідэя напісаць на тэму вайны "народны лубок" у тыя часы, калі ў ваеннай літаратуры дамінавалі сур'ёзнасць і героіка. Не менш рызыкоўна было цэнтральным героем абраць такога вось Цярэшку Калабка.

Перажываюць свой час і макаёнкаўскія героі, бо ў іх характарах таксама можна выявіць "падвойнае дно" — у добрым разуменні гэтых слоў.

Такі Цярэшка Калабок з трагікамедыі "Трыбунал" (1970). Рызыкоўнай была ўжо ідэя напісаць на тэму вайны "народны лубок" у тыя часы, калі ў ваеннай літаратуры дамінавалі сур'ёзнасць і героіка. Не менш рызыкоўна было цэнтральным героем абраць такога вось Цярэшку Калабка. Што як агню баіцца сваю бабу, з якой, аднак, "настругаў" дванаццаць дзяцей, прывык за Савецкаю ўладаю пугаю страляць ды каровам хвасты круціць, а тут пашыўся ў старасты і — "Кандзібоберам буду хадзіць!".

"Ты есць дзікі чалавек. Ты есць джунглі чалавек", — чуе Калабок ад Каменданта. І адказвае: "Абы чалавек, а ета ўсё... хай сабе дзікі". Вось яна, здаецца, слынная беларуская талерацыя, даведзеная да скрайнасці.

Ды толькі не пакідае гледача цьмянае прадчуванне, што не ўсё так проста з гэтым экс-пастухом, які вядзе падвойную-патройную гульню, не давяраючы сваю партызанскую таямніцу нават сямейнікам. Макаёнак раздумвае пра таямніцы беларускай душы, беларускія спосабы змагання, пра абавязак і давер, і гэты роздум не пакідае сённяшняга чытача або гледача "Трыбунала" нават пасля гучнага "піянерскага" фіналу п'есы.

Перачытваць і пераглядаць сёння творы Макаёнка — занятак павучальны, бо прымушае быць асцярожным у ацэнцы і пераацэнцы мінулага, засцерагае ад спакусы быць мудрэйшым за кошт часу. Няцяжка быць мудрым, заглядаючы ў мінулае з пазіцый сённяшняга дня. Макаёнак выяўляў мудрасць, калі з пазіцыі свайго дня спрабаваў зазірнуць у будучыню, нешта прадбачыць, спрагназаваць. І так з'явіліся камедыі з прагнастычна-прарочым зместам, такія, як "Святая прастата" (1976), "Зацюканы апостал" (1969), "Дыхайце ашчадна" (1982).

Перачытваць і пераглядаць сёння творы Макаёнка — занятак павучальны, бо прымушае быць асцярожным у ацэнцы і пераацэнцы мінулага, засцерагае ад спакусы быць мудрэйшым за кошт часу. Няцяжка быць мудрым, заглядаючы ў мінулае з пазіцый сённяшняга дня. Макаёнак выяўляў мудрасць, калі з пазіцыі свайго дня спрабаваў зазірнуць у будучыню, нешта прадбачыць, спрагназаваць.

У творах "з падвойным дном" сатырычныя рэаліі часта пераносіліся на капіталістычны Захад, як гэта сталася і з трагікамедыяй "Зацюканы апостал". Адзюльтэр, няшчырасць у сямейных адносінах, канфлікт пакаленняў ("дужа разумных дзяцей" і "дужа адсталых" дзядоў) — усё гэта магло адбыцца толькі "там". Але на "падвойным дне" чакала нас непрыемная праўда, што гэта — праблемы глабальныя, не вырашаныя і ў XXI стагоддзі.

А вось праблема, пастаўленая ў п'есе "Дыхайце ашчадна" (1982), яшчэ і сёння не дасягнула свайго апагею. У выніку глабальнай ядзернай катастрофы гіне чалавецтва, але ў бункеры хаваецца "эліта" — мультымільярдэры, манапалісты, алігархі. У варунках Апакаліпсісу яны застаюцца тымі ж, бо не могуць займацца ні чым іншым, апроч сваёй улюбёнай справы — бізнесу. І вось гандлююць самым неабходным — ежай, пітной вадой, паветрам. Можна канстатаваць, што драматург прагназаваў такую з'яву, як глабалізацыя і яе наступствы, але ж ён яшчэ шукаў і спосабы прадухілення катастрофы. Адзін з іх — чалавецтва павінна памудрэць.

Камерцыялізацыя быцця ў наш час набывае глабальны і пагрозлівы размах, а звычка да зараблення грошай для многіх сталася базавым інстынктам. А крызіс — калі не ядзерны, дык экалагічны або энергетычны — ніхто не адмяняў. Часу на тое, каб чалавецтва памудрэла, усё меней...

Прадбачанне пісьменніка забяспечваецца яго талентам, самабытнасцю. Макаёнак мог бачыць скрозь час таму, што быў асобай квазінеардынарнай.

Аматар жартаў, розыгрышаў, ён і ў драматургіі знаходзіў не толькі рамяство, але і гульню.

Літаратуразнаўцы называюць яго творы камедыямі, трагікамедыямі. А ён вынаходзіў для іх такія жанравыя вызначэнні, як "камедыя-рэпартаж", "сентыментальны фельетон", "небяспечная камедыя", "пралог і эпілог адной прыватнай трагікамічнай гісторыі", "Калі гэта фарс, дык што ж тады рэальнасць?" Творы кожнага з такіх "жанраў" у нас існуюць у адзіным паасобніку — макаёнкаўскім. Драматург праграмаваў сябе на эксклюзіў ды ўнікальнасць.

Любіў ствараць вакол сябе міфы. Дзіва што гэтым пачалі займацца і яго калегі, сябры.

Любіў жыццё з ягонымі радасцямі — і гэты віталізм, у спалучэнні з крамяным, часам рызыкоўным народным смехам, перадаўся ягоным камедыям.

Прыкмета жывучасці драматургічнага твора не толькі ў яго прысутнасці на сцэне, але і тут трэба пашкадаваць, што п'есы Макаёнка ідуць сёння на беларускай сцэне недаравальна мала. Віна ў гэтым не ў камедыях майстра, якія маюць усе падставы лічыцца жывой класікай.

Пятро ВАСЮЧЭНКА

# Мастак-эпоха, майстар Традыцыі...

## Міхаіл Андрэевіч Савіцкі

8 лістапада на 89-м годзе жыцця перастала біцца сэрца Героя Беларусі, народнага мастака СССР, народнага мастака Беларусі, лаўрэата Дзяржаўных прэмій СССР і Рэспублікі Беларусь, акадэміка, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны, ганаровага грамадзяніна г. Мінска Міхаіла Андрэевіча Савіцкага.

М.А.Савіцкі нарадзіўся 18 лютага 1922 года ў вёсцы Звянячы Талачынскага раёна Віцебскай вобласці. Пасля заканчэння сярэдняй школы ў 1940 годзе быў прызваны ў рады Чырвонай Арміі. Дваццацігадовы юнак, салдат Чырвонай Арміі, які змагаўся ў баях за горад Севастопаль і быў паранены на Херсанесе, апынуўся ў канцлагерах Бухенвальд, Дахау, Мітэльбау, Дора, дзе цалкам падзяліў трагедыю народаў Еўропы, але ж цудам застаўся ў жывых.

Пасля вайны М.А.Савіцкі скончыў Мінскае мастацкае вучылішча, у 1957 годзе — Маскоўскі мастацкі інстытут імя Сурыкава з адзнакай, пасля чаго жыў і працаваў у Мінску. З 1981 года з'яўляўся кіраўніком Творчых акадэмічных майстэрань жывапісу, графікі і скульптуры.

М.А.Савіцкім было створана больш за 200 тэматычных работ, у якіх ён развіваў традыцыі рэалістычнага мастацтва. Вызначальным стрыжнем творчых пошукаў М.А.Савіцкага з'яўляўся Чалавек, яго светаразуменне, маральная сутнасць, характар у складаным дыялектычным развіцці. Аптыміст і жыццялюб, М.А.Савіцкі на працягу ўсёй сваёй творчасці самаадданa адстойваў сваім майстэрствам гуманістычныя ідэалы.

Творчасць М.А.Савіцкага вызначаецца глыбокім пранікненнем у сутнасць з'яў мінулага і сучаснага, філасофскім іх асэнсаваннем, сцвярджэннем вечных духоўных каштоўнасцей чалавецтва. М.А.Савіцкі з'яўляецца аўтарам шырока вядомых жывапісных твораў, прысвечаных гераічнай партызанскай барацьбе супраць гітлераўскіх захопнікаў: «Партызаны», «Партызанская мадонна», «Віцебскія вароты», «Поле», «Плач па загінуўшых героях», а таксама цыкла з 16 карцін «Лічбы на сэрцы» і трыпціха «Агрэсія», прасякнутых антыфашысцкім пафасам і публіцыстычнасцю. Шмат карцін прысвечана тэме гісторыі станаўлення беларускай нацыянальнай культуры: «Сейбіты», «Віленскія сустрэчы»; цыкл палотнаў для Дзяржаўнага літаратурнага музея Я.Купалы ў Мінску.

М.А.Савіцкі быў узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны» (1967), ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга (1972), ордэнам Леніна (1982), ордэнам Францыска Скарыны (1997).

М.А.Савіцкі быў выбраны правадзейным членам Акадэміі мастацтваў СССР (1982), Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (1995), Міжнароднай Славянскай Акадэміі (1996), Міжнароднай Акадэміі навук (2002).

Светлае імя Міхаіла Андрэевіча Савіцкага назаўсёды захаваецца ў гісторыі беларускага мастацтва, сэрцах яго вучняў, калег па працы, родных і блізкіх, памяці ўсяго беларускага народа.

ЛУКАШЭНКА А.Р., СІДОРСКІ С.С., РУБІНАЎ А.М., АНДРЭЙЧАНКА У.П., МАКЕЙ У.У., ПАТУПЧЫК У.М., ЛАТУШКА П.П., ЛАДУЦЬКА М.А., МЯСНІКОВІЧ М.У., НОВІКАЎ А.М., БАРАЗНА М.Р., ВАШЧАНКА Г.Х., ГУМІЛЕЎСКІ Л.М., ПАПЛАЎСКІ Г.Г., СТАЛЬМАШОНАК У.І., САВІЧ У.П., МІСКО І.Я., ПРАКАПЦОЎ У.І.



У сераду краіна развіталася з Героем Беларусі, народным мастаком СССР і Беларусі, акадэмікам, лаўрэатам шматлікіх прэмій Міхаілам Савіцкім. Ён пакінуў зямны свет у ноч з 7 на 8 лістапада. Гэтаму легендарнаму чалавеку было 88 гадоў...

"Цяпер няма ні традыцый, ні сучаснасці. У эпоху бесчасоўя ўсё абясцэньваецца і толькі ў душах адзінак сапраўды адданых мастацтву людзей захоўваецца вера ў тое, што традыцыя жывая. І калі традыцыя адродзіцца, тады і з'явіцца сучаснасць". Міхаіл Савіцкі, якому належаць гэтыя суровыя бескампрамісныя словы, верыў у жывую традыцыю, спавядаў яе, ахоўваў — і не на словах, а праз суровы пафас сваіх бескампрамісных палотнаў.

Адышоў у Вечнасць выдатны і мужны сын беларускай зямлі, які разам са сваёй шматпакутнай радзімай, з народам, перажыў трагічныя старонкі гісторыі XX стагоддзя, пабываў у самым пекле вайны і, мабыць, як ніхто іншы з нашых сучаснікаў, меў маральнае права на грамадзянскі і творчы максімалізм. Разам з Міхаілам Савіцкім адышоў і яго час... Але засталіся яго палотны. Жывапісныя вобразы, натхнёныя філасофіяй чалавечага быцця, мудрасцю біблейскіх ісцін. Напоўненыя думкаю мастака пра духоўны свет знакавых асоб свайго часу; пра мужнасць салдата Вялікай Айчыннай і някідкую веліч партызанскага подзвігу, пра незлічоных "лічбы на сэрцы" вязняў Бухенвальда і Дахау; пра тых, чые мірныя жыцці апынуліся пад несупынным кантролем "чарнобыльскага лічыльніка". А яшчэ — адчуваннем паэзіі беларускіх краявідаў і маўклівым спадзевам на добры новы дзень... Творчасць Міхаіла Савіцкага — жывая гісторыя, што пакуль яшчэ сілкуе надзею на годны працяг лепшых акадэмічных традыцый у нашым заўтрашнім мастацтве.

## Яго імя — у нашых сэрцах

Слова майстра — высокае, ёмкае слова. І гучыць яно на прасторах усяго Сусвету.

І ў асобных палотнах, і ў цыклах карцін народны мастак СССР і Беларусі Міхаіл Савіцкі вёў доўгую, шчырую, прасякнутую клопатам пра лёс чалавека і чалавецтва, размову. Гаварыў ён у сваіх работах надзвычай эмацыянальна і прачула. Лёс не песціў Міхаіла Андрэевіча: выпрабаванні ваенных гадоў назаўсёды засталіся ў памяці і ў сэрцы. І — гучалі напамінам жывым: зрабіць так, каб ніколі не паўтараліся трагедыі на Зямлі. Напэўна, гэта быў галоўны клопат яго жыцця. Надзелены асаблівым талентам выяўляць глыбінную сутнасць усяго існага, як нямногія з нас, разумеў не толькі прычыны, а і наступствы войнаў, катастроф, безадказнасці і непрафесіяналізму. Творчай майстэрняй народнага мастака стала наша шматпакутная зямля, і ведалі яго ў многіх краінах. На адной з міжнародных выставак Міхаіла Савіцкага назвалі каралём беларускага жывапісу. Трэба прызнаць — такі прафесіянал не пакідае людзей раўнадушнымі. Яго работы ўпрыгожваюць многія ўстановы, выставачныя залы і музеі краіны: Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, Нацыянальнага мастацкага музея, Музея сучаснага мастацтва, музея гісторыі горада Мінска...

У Савіцкім-мастаку спалучаліся высокае майстэрства і кранальная эмацыянальная насычанасць. І нават пачатак творчай дзейнасці пазначаны такімі палотнамі, як "Песня", "Каля пераезду", "Размова"… Бясконцая размова пра нашыя каштоўнасці, пра мінулае і будучае, былі неабходныя: яго карціны ведалі, ішлі на выстаўкі, марылі пра знаёмства з аўтарам. "Лічбы на сэрцы", "Чорная быль", "Куст руж", "Галгофа" — кожны глядач згадваў нешта сваё, што ўскалыхнула душу і не змагло забыцца.

Яго творы сталі сапраўднай класікай эпохі. Аўтарытэтны чалавек, выдатны настаўнік, выбітны, неардынарны творца. Правадзейны член Акадэміі мастацтваў Расіі, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР і БССР. Узнагароджаны ордэнам Францыска Скарыны, у 2006 годзе яму прысвоена званне Герой Беларусі.

Яго імя залатымі літарамі ўпісана ў летапіс беларускай культуры і назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

Мікалай ЧАРПІНЕЦ,
старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі

## Летапісец людскіх лёсаў

Лёс наканаваў Міхаілу Савіцкаму доўгі і нялёгкі жыццёвы шлях. І яго карціны складаліся ў своеасаблівы эмацыянальна-вобразны летапіс, жывапісную сагу пра падзеі, выпрабаванні, перажыванні, якія спадарожнічалі чалавецтву ад драматычных часоў XX стагоддзя да перыпетый пачатку 2000-х.

Галоўным для Міхаіла Андрэевіча было — падтрымаць, захаваць гістарычную памяць народа, не дапусціць забыцця самай жорсткай трагедыі мінулага стагоддзя. І ён, безумоўна, вылучыўся як найярчэйшы мастак, адданы тэме вайны: пратэставаў супраць яе антычалавечай сутнасці, выкрываў яе страшную філасофію, заклікаў задумацца над яе згубнымі наступствамі. У самім жа мастакоўскім рамястве М. Савіцкі сцвердзіў сябе як паслядоўнік традыцый рэалістычный школы жывапісу. Таму ён і ўваходзіў і ў творчую суполку "Традыцыя", і ў актыў Студыі вайсковых мастакоў. А яшчэ — больш як чвэрць стагоддзя ўзначальваў Творчыя акадэмічныя майстэрні, дзе, з'яўляючыся кіраўніком жывапіснага аддзялення, шчодра дзяліўся досведам з маладымі мастакамі.

Міхаіл Савіцкі вызначаўся проста фантастычнай працавітасцю. Слова "працаголік" у дачыненні да яго гучыць надта прымітыўна. У яго была ненатольная прага да справы, і працаваў ён заўсёды: насуперак гадам і хваробам, тады нават, калі можна было б і адпачыць. Я памятаю, як гэты нястомны чалавек кожную раніцу ішоў у майстэрню і працаваў там з сямі гадзін да васямнаццаці. Дасягнуўшы паважнага 85-гадовага ўзросту, мастак з'яўляўся ў майстэрні а 10-й раніцы і знаходзіўся там да 5-й гадзіны вечара: штодня стаяў ля мальберта і працаваў! Нават калі не было каму падвезці на машыне, няспешна ішоў сам, абапіраючыся на кіёк. Адпрацаваўшы ў майстэрні, знаходзіў сілы займацца сваім невялічкім садам... У неверагоднай працавітасці, мабыць, і заключаўся сакрэт яго творчага даўгалецця. Рука жывапісца доўга захоўвала сілу дзякуючы нястомнасці яго думкі: М.Савіцкі ўвесь час прадумваў сюжэты новых кампазіцый, увасабляў у эскізах ідэі наступных карцін. Мноства работ засталося ў яго майстэрні! Думаецца, вялікая творчая спадчына знойдзе годнае месца ў нядаўна заснаваным сталічным музеі М.Савіцкага і стане адкрыццём для гледачоў.

Міхаіл Андрэевіч быў чалавек па-сапраўднаму яркі і неадназначны. І даўно ўжо наспеў час сабраць і выдаць фаліянт пра створанае ім. Думаю, калі ўсё зробленае Міхаілам Савіцкім сабраць у адно, дык нават відавочцы яго творчай дзейнасці могуць усумніцца: няўжо ўсё гэта адолеў адзін чалавек? Трэба даследаваць уплыў яго на беларускую культуру, на творчасць нашых мастакоў і скласці добрую хрэстаматыю таго, як трэба жыць і працаваць у мастацтве...

Георгій ПАПЛАЎСКІ,
народны мастак Беларусі

Мікола МЯТЛІЦКІ

## Памяці Міхаіла Андрэевіча Савіцкага

Ахінае лістапад журбой
Майстра шлях астатні незваротны
І гаворыць: — Геній не смяротны,
Вечны, як і гэты лістабой,
Як і неба над бацькоўскім краем,
Што дажджы абложныя нясе.
Мы пад ім на лёсу паласе
Да астачы сэрцамі згараем.
Памяць, як канцлагерная варта,
Узяла, нясходная, ў палон.
Воблікам жывых яго мадонн
Выплывае з печаў Бухенвальда.
Высякае лічбамі на сэрцы
Сутнасць першаісную сваю…
Перад Вамі, Майстра, я стаю
У журбе, ды ўсё ж не ў паняверцы.
Вы прыйшлі пад неба на вякі
І разбілі чалавечым духам
Свету пекла…
Хай жа лёгкім пухам
Будуць Вам зямліцы сыпчакі.

8 лістапада 2010 года

Саюз пісьменнікаў Беларусі глыбока смуткуе з прычыны смерці народнага мастака СССР і Беларусі, Героя Беларусі Міхаіла САВІЦКАГА і выказвае шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

## Літ-абсягі

Адказы на гэтыя пытанні атрымалі госці "Кніжнага салона", якія прыйшлі на сустрэчу з вядомымі і пачынаючымі пісьменнікамі. Аўтары кніжак казак, якія ўбачылі свет у РВУ "Літаратура і Мастацтва", пазнаёмілі са сваімі творамі, ахвотна адказалі на пытанні дзяцей.

Ад вялікага выбару рознакаляровых вокладак разбягаліся вочы. Ды і самі назвы кніг абяцалі цікавыя прыгоды — "Карона на дне віра, альбо Казкі з хутара Юстыны" Людмілы Рублеўскай запрашала ў госці да мудрай бабулі-траўніцы, "Гимназия номер 13" Андрэй Жвалеўскага і Яўгеніі Пастэрнак папярэджвала, што застаццца на ноч у зачыненай гімназіі небяспечна, і расказвала, што можа з гэтага атрымацца, "Казачныя аповесці пра мікпланетнага Пажарніка і іншых мамурыкаў" Раісы Баравіковай вучылі лавіць знічкі і ўтрымлівалі падрабязныя чарцяжы зоркалёта.

Па-рознаму з'явіліся на свет героі гэтых кніжак. "Сказки в лукошке" Валерыя Кастручына "выраслі" з караценькіх гісторый пра звяроў і птушак. Людміла Рублеўская атрымала заказ напісаць казкі пра расліны з Чырвонай кнігі і апрабавала іх на самых строгіх крытыках — уласных дзецях. Іншым часам яны катэгарычна адмаўляліся засынаць, калі казка была над-

# Падарожжа пад ветразямі

**У дні восеньскіх канікул дзяцей і бацькоў на сустрэчу з аўтарамі казак запрасіў "Кніжны салон". Раіса Баравікова, Таццяна Мушынская, Людміла Рублеўская, Арцём Кавалеўскі, Андрэй Жвалеўскі, Яўгенія Пастэрнак, Дар'я Клюйко і Валерый Кастручын не толькі прадставілі свае новыя кнігі, але і правялі своеасаблівы майстар-клас. Адкуль прыходзяць сюжэты чароўных казак? Як атрымліваецца ў іх аўтараў прыдумляць такое, што не дае адарвацца ад яркай кніжнай старонкі? І, галоўнае, ці можна навучыцца пісаць казкі?**



та жудасная ці сумная — і даводзілася перарабляць сюжэт на хаду.

Арцёма Кавалеўскага папрасіла скласці гісторыі пра анёлаў сястра, і атрымалася цэлая вершаваная галерэя партрэтаў "Мой сябра анёлак". Дар'я Клюйко, аўтар кнігі "Приключения Рапабенирапа и Заскорузла", сцвярджае, што няўрымслівы казачны персанаж Заскарузл проста выглянуў аднекуль з-за кампутара, за якім яна працавала над сур'ёзнай тэмай, і патрабаваў: "Ану, адкладзі ўсё і напішы пра мяне!".

З аўтарамі казак сталі адбывацца цікавыя гісторыі. У Таццяны Мушынскай, аўтара кнігі вершаў "Вожыкі ў футбол гулялі", узялі інтэрв'ю... спартыўная газета.

Калі Яўгенія Пастэрнак і Андрэй Жвалеўскі разам працуюць над кнігай, кавалкі тэксту дасылаюць адзін аднаму электроннай поштай. Расказвае Яўгенія: "Паколькі гэта не першая наша сумесная кніжка, тэхналогія адпрацавана. Пачыналі мы з рамана "М + Ж", дзе гаворка ідзе пра адное і тое ж, але з пункта гледжання прадстаўнікоў рознага полу. Мы знаёмыя шмат гадоў, таму нам лёгка настроіцца на агульную хвалю. Тэмы даволі аб'ёмныя, і кожны з нас можа знайсці для сябе цікавае. Даклада не ведаем завязку і чым павінна скончыцца дзеянне, а сярэдзіна складаецца падчас зусім непрадказальна". Менавіта так адбылося з сюжэтам "Гимназия номер 13". Нечакана для саміх аўтараў разгарнуліся падзеі, але ўрэшце скляліся ў суцэльны малюнак, нібыта гэта было запланавана з самага пачатку.

Маленькія ўдзельнікі мерапрыемства малявалі Пажарніка-мамурыка, які ловіць знічкі, спрабавалі расказаць, як выглядалі старажытныя славянскія міфалагічныя персанажы Зюзя, Вілы, Кікімара. І пакідалі кнігарню з аўтографамі пісьменнікаў на кніжках, якія, нібыта рознакаляровыя ветразі, запрашалі ў падарожжа па краіне казак.

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**

На здымку: Таццяна Мушынская прадстаўляе кніжку "Вожыкі ў футбол гулялі".

Фота Кастуся Дробава

## Арт-лінія

# Міфічнае царства

**Апошнім часам Літаратурны музей Максіма Багдановіча, акрамя сваёй традыцыйнай дзейнасці, ладзіць разнастайныя выстаўкі, прэзентацыі, імпрэзы, актыўна працуе з моладдзю. Днямі супрацоўнікі ўстановы культуры запрасілі вучняў, іх бацькоў і настаўнікаў на адкрыццё выстаўкі мастацкіх работ пераможцаў і ўдзельнікаў конкурсу "У зачараваным царстве". Ён прысвячаўся 115-годдзю выхаду кнігі "Перажыткі старажытнага светасузірання ў беларусаў" Адама Багдановіча, бацькі паэта.**



Беларускія міфічныя персанажы з кнігі Адама Ягоравіча (Лясун, Вадзянік, Русалка ды іншыя) сталі героямі вершаў Максіма Багдановіча, а цяпер увасобіліся ў мастацкіх работах удзельнікаў конкурсу, гуртакоўцаў цэнтраў пазашкольнага выхавання дзяцей і моладзі горада Мінска. Журы конкурсу ўзначаліў знаны айчынны мастак, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Уладзімір Кожух. Таксама ў складзе журы — мастачка Аксана Аракчаева і супрацоўніца музея Кацярына Кандраценка.

Літаральна на парозе наведвальнікаў сустракалі Нячысцік з Русалкамі. Чорт увогуле не кіраваў усёй дзеяй: быў галоўным забаўляльнікам дзятвы і вядучым свята. Задаваў навучэнцам адмысловыя загадкі па беларускай міфалогіі, праводзіў гульні ды конкурсы, чытаў вершы Максіма Багдановіча і распавядаў пра яго жыццёвы і творчы лёс.

Са слоў Уладзіміра Кожуха, міфалогія — гэта дзяцінства чалавецтва. Ну а хто ж, як не дзеці, здольныя з уласцівымі ім багатай фантазіяй, уяўленнем адлюстраваць у сваіх работах казачных, загадкавых істот, надаючы ім міфічна-чалавечыя рысы. Навучэнцы на выдатна справіліся з заданнем, пра што сведчылі іх цудоўныя малюнкі. Прыкладам, Каміла Фралянкова (11 год) — "Лясная фея", Аксана Ліпунова (12 год) — "Міф пра русалку", Алена Казлова (10 год) — "У гасцях у дамавіка Кузі", Кацярына Ярмакова (12 год) "Хлеўнік", Павел Клышэвіч (13 год) "Сварог"…

Журы конкурсу вырашыла заахвоціць усіх без выключэння ўдзельнікаў. Знаныя мастакі ўзнагародзілі канкурсантаў падзякамі, ганаровымі граматамі, каляндарыкамі і кнігамі твораў Максіма Багдановіча і яго бацькі.

**Віктар КАВАЛЁЎ**

На здымку: работа Алены Казловай "У гасцях у дамавіка Кузі".

Фота аўтара

## Повязі

# Помнік Аксакаву

**У Башкартастане некалькі дзён доўжыліся XX міжнародныя Аксакаўскія святы, прысвечаныя вядомаму рускаму пісьменніку, аўтару казкі "Пунсовая кветачка", аўтабіяграфічных кніг "Сямейная хроніка" і "Дзіцячыя гады Багрова-ўнука", "Песняру сям'і і Айчыны". Сяргею Цімафеевічу Аксакаву, які нарадзіўся ва Уфе, правёў дзіцячыя гады ў родавай сядзібе Надзеждзіна (Белебееўскі раён, Башкартастан). Другі раз у святкаванні ўдзельнічаў народны мастак Рэспублікі Беларусь скульптар Іван Міско.**



Ён быў не проста ўдзельнікам, але і адным з самых ганаровых гасцей. 25 верасня ва ўрачыстай абстаноўцы ў сядзібе Надзеждзіна быў адкрыты створаны ім помнік Аксакаву. Там захаваўся маёнтак, дзе цяпер разгорнута экспазіцыя філіяла музея пісьменніка, працуе Аксакаўскі гісторыка-культурны цэнтр.

На свята прыехалі прадстаўнікі роду Аксакавых, дэлегацыі з Масквы, Самары, Арэнбургскай вобласці, з Балгарыі, Германіі. Пад гул царкоўных званоў башкірскія прыгажуні знялі белае палатно, і ўсім гасцям свята адкрылася постаць Аксакава, які сядзіць у сваім любімым крэсле і жэстам рукі запрашае ў родавую сядзібу. У другой руцэ ў яго папка з рукапісам толькі што завершанай кнігі. Каля ног — любімы сабака-ганчак, спадарожнік вандровак пісьменніка, які быў яшчэ і заўзятым паляўнічым, рыбаловам.

Але як надарылася, што помнік рускаму пісьменніку для далёкай Башкірыі стварыў беларускі скульптар?

Іван Міско яшчэ ў сямідзясятыя гады зрабіў надмагільны помнік пляменніку і цёзку славутага пісьменніка — кампазітару Сяргею Аксакаву, які пражыў у Мінску 14 гадоў і пахаваны на Усходніх могілках. У Мінску жыве яго ўнучка, прадстаўніца роду Аксакавых — Наталля Валер'еўна Аксакава. Міско быў запрошаны ў 2008 годзе на XVIII Аксакаўскае свята, і прыехаў туды не з пустымі рукамі — на ўрачыстым вечары ён разам з другім госцем свята з Беларусі — паэтам Фёдарам Баравым — уручыў прэзідэнту Башкартастана Муртазу Рахімаву партытуры музычных твораў кампазітара Сяргея Аксакава. Тады ж Іван Міско прапанаваў стварыць помнік пісьменніку Аксакаву. Прапанова была ўхвалена. Неўзабаве прыехаў у Мінск і завітаў у майстэрню Івана Міско дырэктар Уфімскага мемарыяльнага дома-музея Сяргея Аксакава, старшыня Аксакаўскага фонду, рускі пісьменнік Міхаіл Чванаў, чыя энергія і настойлівасць спрыяла ўшанаванню памяці пра Аксакава. Ён паведаміў, што рашэнне пра ўстаноўку скульптуры прынята, на помнік Аксакаву будуць адпушчаны сродкі. Іван Якімавіч паказаў яму ўжо гатовы эскіз помніка.

У жніўні 2010 года скульптура была пераведзена ў гліну і адфармавана ў скульптурным камбінаце ў Мінску. У працэсе работы яе першапачатковая вышыня — два з паловай метры — павялічылася да трох метраў пятнаццаці сантыметраў. А бронзы, як потым аказалася, спатрэбілася каля дзвюх тон. Бронзавую адліўку па прапанове землякства беларусаў у сталіцы суседняга Татарстана Казані было вырашана зрабіць у іх горадзе. Таму гатовыя формы былі адвезены ў Казань, дзе помнік быў адліты ў бронзе. Выступаючы каля помніка на адкрыцці, Іван Якімавіч сказаў: "Свой шлях у гэтым годзе Сяргей Аксакаў пачаў у Мінску, праехаў па Беларусі, па Расіі, палюбаваўся яе прыгажосцю і багаццем, даехаў да Казані, забранзавеў і вось прызямліўся тут, у Надзеждзіне, на гранітным п'едэстале. Я сказаў, што зраблю помнік, і зрабіў. Мой абавязак спаўнены…"!

Беларускаму скульптару была ўручана ганаровая грамата міністэрствам культуры Рэспублікі Башкартастан за шматгадовую актыўную плённую творчую работу па адраджэнні і развіцці рускай культуры і Аксакаўскага руху, а таксама дыплом Міжнароднага фонду славянскага пісьменства і культуры.

**Міхась КЕНЬКА**

На здымку: Іван Міско за працай над помнікам С. Аксакаву.

Фота аўтара

## З-пад пяра

Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны падвёў вынікі конкурсу мультымедыйных прэзентацый сярод дзяцей і падлеткаў "Война, вошедшая в мою семью". У конкурсе прынялі ўдзел больш як 30 школьнікаў і навучэнцаў. Журы аднагалосна вылучыла пераможцу, ім стаў Міхаіл Зыз, навучэнец Наваполацкага дзяржаўнага політэхнічнага каледжа, які расказаў пра сваіх прабабулю — партызанскую сувязную і прадзядулю — адважнага савецкага воіна. Другое месца атрымала работа вучня 9 "В" класа сярэдняй школы № 41 г. Мінска Паўла Шафтэлевіча, а трэцяе — вучаніцы 10 "Б" класа гімназіі № 75 г. Мінска Альбіны Варановіч.

**Вячаслаў КАЗАЧОНАК**

У інфармацыйна-выставачным цэнтры Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі да 100-годдзя з дня нараджэння Ларысы Геніюш адбылася прэзентацыя збору твораў паэтэсы ў двух тамах, біяграфічнага альманаха "Асоба і час" (абодва выданні захоўваюць новыя, нідзе раней не друкаваныя творы) і аўдыёдыска "Пасланне сябрам" — унікальнага паўгадзіннага запісу голасу Ларысы Геніюш. У прэзентацыі прынялі ўдзел навукоўцы і літаратары. У межах прэзентацыі была падрыхтавана выстаўка "Я пакіну вам маю любоў…", на якой упершыню прадстаўлена частка дакументаў з асабістага архіва паэтэсы.

**Таццяна ЖУК**

Сапраўдным святам студэнцкай мастацкай самадзейнасці стала ўрачыстае закрыццё трэцяга працоўнага семестра "Студэнцкае лета-2010". Мерапрыемства прайшло ў актавай зале другога вучэбнага корпуса Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі. Прадстаўнікі БДУіР, БНТУ, іншых навучальных устаноў сталіцы прэзентавалі музычныя і танцавальныя нумары. Былі адзначаны лепшыя будатрадаўцы. На "Студэнцкім леце-2010" прысутнічалі актывісты БРСМ, афіцыйныя асобы.

**Уладзімір СТАРАСЦЕНКА**

Пабачыў свет зборнік вершаў "Золотое просо" Міхаіла Буткевіча. У вытворчым аб'яднанні "Гомсельмаш" добра ведаюць паэта са свайго, рабочага, асяроддзя. Амаль усе вершы М. Буткевіча прысвечаны роднаму прадпрыемству, якому ён аддаў 55 год працы, і мікрараёну, у якім жыве. Таму не дзіўна, што сярод камбайнабудаўнікоў ён носіць неафіцыйнае, але ганаровае, пагадзіцеся, званне "народны паэт Гомсельмаша". На творчым рахунку Міхаіла Буткевіча — чатыры зборнікі: "Новиковская роща", "Улица аистов", "Любовин" і "Золотое просо". Аўтары прадмовы да апошняга — пісьменнік Васіль Ткачоў і журналіст Мікола Гулевіч.

**Васіль БАРХАНАЎ**

Адзіннаццацікласніца чашніцкай гімназіі № 1 Анастасія Барадайка стала першай сярод удзельнікаў праекта маладых выканаўцаў эстраднай песні "Школа зорак" у Віцебску. Прырода надзяліла дзяўчыну незвычайным голасам, а спяваць на конкурсах яе навучылі ў вакальнай студыі "ДоМіСолька", што працуе ў мясцовым цэнтры дзіцячай творчасці. Сем год кіруе калектывам юных талентаў Юлія Млявая, шэсць яна займаецца з Насцяй. Студыя замяніла выхаванцы музычную школу. Толькі ў гэтым годзе гімназістка тройчы брала ўдзел у прэстыжных маладзёжных спаборніцтвах, і заўсёды ёй спадарожнічаў поспех. Двойчы атрымала Гран-пры ў конкурсе "Ратнаму подвигу славу пяём", прысвечанаму 65-й гадавіне Вялікай Перамогі.

**Ірына ТОРБІНА**

15 лістапада спаўняецца 85 гадоў Беларускаму радыё. Пра ролю радыё ва ўласным жыцці і жыцці краіны, пра калег па працы расказвае пісьменнік і публіцыст, галоўны дырэктар замежнага вяшчання Беларускага радыё Навум Гальпяровіч.

# Мой адрас — Чырвоная, 4

"Мінск, Чырвоная, 4, Дом радыё". Здаецца, гэтыя словы я памятаю ледзь не з самага нараджэння. Іх вымаўляў прыемны барытон з вялізнай чорнай талеркі, якая вісела на сцяне нашай хаты ў прыгарадным полацкім пасёлку.

Мінск, Чырвоная, 4... "Шукаем усоды Мічыка, шукаем усоды Флічыка", — спявалі дзіцячыя галасы з гэтай талеркі ў час чарговага спектакля для юных слухачоў.

Я так да гэтага часу не ўцяміў, дзе ж хаваўся гэты таямнічы і загадкавы Мічык-Флічык, затое пра пісьменніка Васіля Вітку даведаўся таксама з радыёпастаноўкі, бо пранiклівыя радкі "разбалеліся ў вавёрачкі зубкі, не можа раскусіць яна арэхавай шкарлупкі", як казаў дыктар, належалі яму. І яшчэ запомніўся адметны голас Уладзіміра Юрэвіча і яго "Жывое слова", такое сакавітае, такое прыгожае, якое стала пачаткам майго захаплення ўсім беларускім.

Чырвоная, 4... Цяжка тады было сабе ўявіць сённяшні дзень, калі для мяне гэты адрас — звыклы канчатковы пункт майго ранішняга пешага маршруту на працу. У будзённыя дні і нават, часам, у выхадныя, калі так хораша думаецца і пішацца ў засяроджанай цішыні рабочага кабінета.

Вось ужо колькі год — гэта мой другі дом, мой, напоўнены самымі рознымі падзеямі, свет, мае сябры, мае планы і здзяйсненні, мае радасці і засмучэнні...

Памятаю сакавік 1981 года, калі ўпершыню ў якасці штатнага супрацоўніка адчыніў гэтыя масіўныя дзверы. Тады я, полацкі журналіст і пачынаючы паэт, пасля дастаткова складаных і працяглых выпрабаванняў быў прыняты на пасаду ўласнага карэспандэнта ў Віцебскай вобласці. І хоць я працягваў жыць у родных мясцінах, месца працы стала значыцца — Беларускае радыё, і Дом радыё станавіўся месцам, куды я штодзённа павінен быў перадаваць інфармацыі, рэпартажы і інтэрв'ю, выконваць заданні рэдакцыі, калясіць па адзінаццаці замацаваных за мной раёнах Прыдзвінскага краю.

Спачатку была стажыроўка ў тагачаснай рэдакцыі інфармацыі, якую ўзначальвала Эра Васільеўна Аўраменка. Знешне строгая і прынцыповая, яна была дабрэйшай душы чалавекам.

Уладзімір Яфімавіч Столін, яе намеснік, наадварот, быў знешне мяккі і рахманы, але, як чалавек з вялікім вопытам, — незаменны пры вырашэнні розных далікатных пытанняў, якія стараўся вырашаць усё ж на карысць журналіста, дзе праяўляў нечаканую цвёрдасць і прынцыповасць.

А непасрэдным маім начальнікам лічыўся загадчык карэспандэнцкай сеткі Георгій Васільевіч Моўчан, жвавы, нават крыху мітуслівы, але прыязны да тых, хто вызначаўся ў працы. З імі ён хутка пераходзіў на сяброўства, ведаў усіх сямейнікаў і блізкіх, дапамагаў у вырашэнні бытавых пытанняў.

Пытанні культуры ў рэдакцыі інфармацыі курыравала Ніна Леанідаўна Саламахіна. Высокая, з гордай паставай, яна ганарылася сваім блізкім знаёмствам з вядомымі мастакамі, пісьменнікамі, артыстамі.

Самы першы свой мінскі рэпартаж я рабіў пад яе пільным кіраўніцтвам з выстаўкі твораў народнага мастака Віталя Цвіркі. Калі яна задавала пытанні маэстра, я толькі трымаў мікрафон. Мне ж было даверана запісаць вітальнае слова тагачаснага міністра культуры і некалькі водгукаў гледачоў. У выніку разам з нашымі словамі ўвесь рэпартаж не павінен быў выйсці за межы трох хвілін.

"Пачысціць", або давесці стужку да патрэбнай кандыцыі Ніна Леанідаўна даручыла мне. У маім распараджэнні быў стацыянарны магнітафон, нажніцы і спецыяльны клей для магнітафоннай стужкі. Да выхаду навін заставалася крыху больш як дзве гадзіны.

Праз гадзіну дзверы апаратнай расчыніліся і сваім глыбокім пастаўленым голасам Ніна Леанідаўна запыталася:

— Як, у вас яшчэ не гатова? Так мы з вамі не спрацуемся.

Дзякуй Богу, усё ўрэшце скончылася добра, і гэты дзень стаў пачаткам маёй доўгай радыйнай дарогі, якая на даволі кароткі час была перапынена працай у "Вожыку" і Саюзе пісьменнікаў.

Чырвоная, 4... Падняўшыся на другі паверх, праходжу ў кабінет, на якім напісана "Галоўны дырэктар замежнага вяшчання Беларускага радыё", распранаюся, уключаю камп'ютар, саджуся за рабочы стол. Без камп'ютара сёння нікуды. Ён — і агляд газет, і пошук навін, і нататнік, і пішучая машынка, і пошта, у тым ліку і крыніца дзелавой перапіскі паміж кіраўніцтвам і службамі Белтэлерадыёкампаніі...

Першы ранішні тэлефонны званок:

— Добры дзень! Ты не заняты? Зайдзі, калі ласка.

Гэта мой шэф — першы намеснік старшыні Белтэлерадыёкампаніі Аляксандр Саламаха. Вопытнейшы журналіст, які глыбока ведае не толькі спецыфіку прафесіі, але і сучасную тэхналогію радыё, выдатна арыентуецца ў складаных варунках сённяшняй сусветнай інфармацыйнай прасторы, мае глыбокі мастацкі густ, праяўляе цудоўнае веданне беларускай мовы. Ён працаваў у папулярных маладзёжных газетах "Знамя юности" і "Чырвоная змена", у дзяржаўных структурах, дзе набыў неацэнны вопыт кіраўніка. Гэта пры яго падтрымцы і пад яго кіраўніцтвам мы здолелі стварыць паўнацэннае вяшчанне на замежжа на сямі мовах — гонар сённяшняга Беларускага радыё.

У кабінеце шэфа ўжо сядзіць галоўны дырэктар першага нацыянальнага канала радыё Антон Васюкевіч.

Абмяркоўваем апошнія навіны, вызначаем прыярытэтныя задачы на дзень.

Радыёстанцыі "Беларусь" аддзел падрыхтоўкі праграм на замежных мовах і пад яго кіраўніцтвам больш як дваццаць маладых хлопцаў і дзяўчат будуць кругласутачна на міжнародных хвалях расказваць пра нашу краіну на англійскай, нямецкай, французскай, іспанскай і польскай мовах.

Чырвоная, 4... Вось у студыі чарговы хіт-парад вядзе Таццяна Якушава. Праз яе шчырыя клопаты прайшлі амаль усе зоркі айчыннай эстрады. Інтэрв'ю, запісы на радыё для многіх з іх былі пачаткам узыходжання на музычны Алімп.

А каб дастойна прадставіць у эфіры артыста, не абысціся без майстэрства гукарэжысёра. А яны ў нас сапраўдныя майстры сваёй справы. Ларыса Гаршунова, Ніна Райская, Віктар Шулешка, Валерый Бяляеў, Людміла Латушкіна, Наталля Кузняцова, Таіса Таскіна... Гэта яны могуць перадаць для радыёслухача шолах асенняй лістоты, шум ветру, рокат марскіх хваляў...



Алег Вінярскі, Галіна Шаблінская і гукарэжысёр Валерый Бяляеў абмяркоўваюць дэталі новага праекта.

У калідоры сустракаю дзвюх Ален — Давідовіч і Швайко, якія пра нешта ажыўлена гутараць. Іх я ведаю з самых першых дзён сваёй работы на радыё. Энергіі і працаздольнасці гэтых сімпатычных жанчын можна толькі пазайздросціць. Нездарма нядаўна з рук старшыні Савета Міністраў яны атрымалі высокія ўзнагароды — медаль "За працоўныя заслугі" і Падзяку Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Цяпер на радыё прыйшло працаваць шмат моладзі. Але па-ранейшаму твар калектыву — вопытныя вядомыя журналісты. Галіна Шаблінская, бадай, адна з найлепшых зорак у літаратурнай журналістыцы. Не пералічыць усе цікавыя гутаркі з майстрамі прыгожага пісьменства. Цяпер пры яе непасрэдным удзеле ствараецца шэраг цікавых радыёспектакляў, пастановак паводле твораў беларускіх пісьменнікаў. Як на першым нацыянальным канале, так і на канале "Культура".

Радыйныя калідоры... Нібы на чырвонай дывановай дарожцы дзе-небудзь на кінафестывалі ў Каннах, тут можна сустрэць любую айчынную ці нават замежную зорку. Вось на перадачу спяшаецца сам Анатоль Ярмоленка, на чарговы спектакль прыйшоў запісвацца народны артыст Генадзь Аўсяннікаў, а паэт Алесь Бадак не проста госць, ён аўтар і вядучы папулярных на радыёстанцыі "Беларусь" праграм "Магія слова" і "Скарбы беларускай літаратуры".

Чырвоная, 4... Тут паўнапраўна і ўзнёсла гучыць беларуская мова. З вуснаў дыктараў і артыстаў Маргарыты Захарыі, Святланы Шушаковай, Алега Вінярскага, Аляксандра Аўчыннікава, журналістаў Валянціны Стэльмах, Таццяны Песнякевіч, Маргарыты Прохар, Вольгі Сямашкі, Таццяны Сівец.

З 1998 года працуе на радыё Вячаслаў Лакцюшын. Не думаў, пэўна, выпускнік мінскага лінгвістычнага ўніверсітэта, што праз некалькі год узначаліць на радыёстанцыі ... Іх бездакорны слых не прапусціць у эфір ніводнай фальшывай ноты.

Пазалетась на радыё прыйшоў працаваць асістэнтам гукарэжысёра выпускнік Мінскага каледжа мастацтваў Жэня Калечыц. За гэты час ён паступіў завочна на аддзяленне гукарэжысуры Акадэміі мастацтваў.

Чырвоная, 4... Не ўсе, магчыма, ведаюць, што на нашым радыё працуе вялікі сімфанічны аркестр і хор, якім доўгі час кіраваў народны артыст Беларусі Віктар Роўда. Сёння за дырыжорскім пультам аркестра стаіць вядомы ва ўсім свеце польскі дырыжор Чэслаў Грабоўскі. З нядаўняга часу ён — штатны супрацоўнік Беларускага радыё.

Сярод тых, хто штодня ідзе праз прахадную Дома радыё на працу, — вядомыя кампазітары Аляксандр Літвіноўскі і Сяргей Бельцюкоў. Сяргей Бельцюкоў, дарэчы, адначасова і першы сакратар Беларускага саюза кампазітараў. З ім мы напісалі шэраг лірычных рамансаў.

Пішу гэтыя словы і нібы адчуваю цеплыню людскіх сэрцаў, подых высокіх светлых пачуццяў, поціск сяброўскіх далоняў. Гэта мой свет, мая душа, мая радасць і адхланне, гэта мае радкі:

Я пачынаю новы рэпартаж,
Ён вызваліць з маўклівага палону.
Я чую: сэрца шэпча мікрафону
Пра перагрузкі, пра круты віраж...
Мільгаюць думкі, стрэсы, бы віры,
Пагрозна зеўраць бездання суровай.
Патрэбна вера і патрэбна слова,
Патрэбна праўду свету гаварыць.
Які няпросты гэты рэпартаж...
Мой сябра, сувязь хай не перарвецца
Паміж звычайным голасам і сэрцам.
І вечнасць хай сюжэт запіша наш.
Гэта Дом радыё — Чырвоная, 4.

Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

Фота Кастуся Дробава

Анкета пісьменніка

## Несці святло



1. Існуе меркаванне: калі раней пісьменнік быў настаўнікам, вяшчальнікам ісціны, то цяпер стаў прыватнай асобай, якая рэдка з'яўляецца нават на ТБ. І яшчэ радзей — у газетах. Чаму?

2. Падзенне нораваў — міф ці рэальнасць? Ці павінны кнігі "вучыць жыць"?

3. Як грамадская актыўнасць пісьменніка ўплывае на яго літаратурную працу?

4. Як вы думаеце, чаму знікае са старонак літаратурных выданняў публіцыстыка?

Міхась ПАЗНЯКОЎ, сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі, паэт, празаік, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ:

1. Як і раней, так і цяпер сапраўдны пісьменнік у пэўнай ступені — і настаўнік, і вяшчальнік ісціны. Але такім можа быць толькі той творца, які ведае і разумее людзей, жыве іх болем і марай. Народ наш самадастатковы, трывалы, працавіты, мудры, дальнабачны. Менавіта спалучэнне літаратурнага таленту і грамадзянскай спеласці і робіць творцу сапраўдным, запатрабаваным, слухаючым. Такому заўсёды ёсць месца і на старонках газет і часопісаў, і на радыё, і на тэлебачанні, і ў любой аўдыторыі. Калі ж літаратар не бачыць больш нічога, акрамя ўласнага дабрабыту, калі яго "хата з краю", калі ён будзе адмоўчвацца там, дзе нельга маўчаць, не зойме выразнай грамадзянскай пазіцыі, то і застанецца "прыватнай асобай", аўтарам, пісакам.

Настойлівая, удумлівая, катаржная праца, адчуванне сваёй адказнасці, сціпласць у самаацэнцы, вернасць праўдзе, дабрыня, сумленнасць і шчырасць перад чытачом — вось шлях да паспяховасці і прызнання.

2. Пасля развалу савецкай краіны, у час дэідэалагізацыі, дэгераізацыі, фальшывай дэмакратызацыі, наступстваў заганных узораў заходняй маралі, калі на няўстойлівыя душы (асабліва маладыя) вылілася неверагодна шмат бруду, хлусні, калі было разбурана духоўнае апірышча чалавека, мы атрымалі нямала падманнага, бесчалавечнага, дзікунскага... На шчасце, у Беларусі (дзякуючы асаблівай скіраванасці ўлады на пабудову сацыяльна справядлівага грамадства) падзенне нораваў зменшана. Дзяржаўныя і грамадскія інстытуты, царква актыўна працуюць на пераадоленне наступстваў развалу, духоўнага чарнобыля. Аздараўленне грамадства ідзе прыкметна, хоць і няпроста нам супрацьстаяць знешнім уплывам: не на ізаляваным востраве, а ў цэнтры Еўропы знаходзімся.

3. З аднаго боку, грамадская актыўнасць пісьменніка як асобы, як педагога, як асветніка вымагае шмат высілкаў і часу, адрывае ад рабочага стала, творчай працы. А, з другога боку, дае яму каласальную энергію, адчуванне і веданне жыцця, сувязь з чытачом, новыя тэмы, сацыяльную спеласць. Згадаем, напрыклад, нашых славутых папярэднікаў: Якуба Коласа, Янку Купалу, К. Крапіву, І. Мележа, М. Танка, І. Шамякіна, А. Макаёнка, І. Навуменку, В. Быкава... Усе яны былі актыўнымі дзяржаўнымі і грамадскімі дзеячамі.

4. І празаік, і паэт, і драматург павінны валодаць таксама і публіцыстычнымі жанрамі. Але публіцыстыка якраз і патрабуе пісьменніцкай спеласці, грамадзянскасці, сацыяльнай дасведчанасці, выразнасці пазіцыі. Многія ж нашы літаратары нібы ў чаканні, калі час расставіць усё па месцах, па палічках.

Але я не лічу, што нарыс як жанр забыты ці занядбаны. У Саюзе пісьменнікаў Беларусі нямала публіцыстаў. Штогод выходзіць да 20 кніг нарысаў, артыкулаў. Радуе гісторычны нарыс, які актыўна развіваюць Алесь Марціновіч, Анатоль Мяснікоў, Адам Мальдзіс, Эдуард Карніловіч, Мікалай Кузняцоў. Актыўна працуюць у публіцыстыцы Васіль Шырко, Пятро Сабіна, Зіновій Прыгодзіч, Вадзім Ялфімаў... Набірае сілу і рост краязнаўчы нарыс. Невыпадкова ў СПБ створана нават секцыя краязнаўства.

Зусім нядаўна часопісы "Нёман" і "Полымя" ажыццявілі на сваіх старонках выдатны нарысавы праект "Вечны агонь Перамогі", расказаўшы пра жывых Герояў Савецкага Саюза — жыхароў Беларусі. Варта было б распачаць літаратурна-мастацкім выданням на сваіх старонках публікацыі пад рубрыкамі "Герой нашага часу", "Чалавек XXI стагоддзя", якія б паказалі чытачам і сучасныя духоўныя арыенціры, і асоб…

# Месяца масквічам не хапіла…

Немагчыма ўявіць без Янкі Купалы беларускую літаратуру, беларускую культуру, беларускае мастацтва. Менавіта таму выхаванне дзяцей нашых як патрыётаў роднага слова пачынаецца з наведвання Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы ў Мінску і яго філіялаў "Вязынка", "Ляўкі", "Акопы", "Яхімоўшчына". Гэты год — юбілейны для музея. Як і чым жыве музей сёння? Пра гэта мы вырашылі спытацца ў яго дырэктара Алены Мацевасян.

— Алена Раманаўна, роўна 65 гадоў таму Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы ўпершыню расчыніў дзверы перад наведвальнікамі. Мы ведаем, што з гэтай нагоды была вялікая юбілейная вечарына. А што яшчэ было падрыхтавана музеем да свята?

— Дваццатага верасня, у дзень юбілею, мы прэзентавалі наведвальнікам выстаўку "Глянуць будучыні ў вочы…". Паказваем гісторыю музея праз гісторыю жыцця Янкі Купалы ў чатырох гарадах — Вільні, Пецярбургу, Маскве і Мінску, праз гісторыю людзей, хто быў побач з ім у гэтых месцах. А гісторыю камплектавання фондаў — праз асобныя музейныя прадметы, якія звязаны з гэтымі гарадамі.

— Літаратурныя музеі новымі экспанатамі папаўняюцца нячаста. Трэба думаць, музей Янкі Купалы не выключэнне. Але тым не менш ідуць гутаркі пра змену экспазіцыі. Сапраўды гэтак будзе?

— Тая экспазіцыя нашага музея, якая маецца сёння, стваралася ў 1976 годзе. Пэўная мадэрнізацыя, безумоўна, праводзілася і ў 1990-я, і да 125-годдзя песняра ў 2007 годзе. Наша стацыянарная экспазіцыя да сённяшняга часу не страціла сваёй навуковай і мастацкай вартасці і запатрабавана рознымі катэгорыямі наведвальнікаў, але наспела патрэба стварэння новай экспазіцыі з выкарыстаннем новых інфармацыйных і інтэрактыўных тэхналогій, зон "жывой камунікацыі".

Акрамя таго, з цягам часу адкрыўся допуск да сакрэтных архіваў, і мы атрымалі найкаштоўнейшую інфармацыю, якую цяпер трэба асэнсаваць і правільна прадставіць. Канцэпцыю новай экспазіцыі, над якой працуюць цяпер нашы навуковыя супрацоўнікі, мы абмяркуем на Рэспубліканскім навукова-метадычным савеце па пытаннях музейнай дзейнасці. І, пэўна, ужо ў студзені прыступім да стварэння новай экспазіцыі.

— Статыстыка сцвярджае, што літаратурныя музеі ў рэйтынгу папулярнасці ў іншаземных турыстаў займаюць далёка не першыя месцы сярод аб'ектаў гісторыі і культуры. Але ж, пэўна, Янка Купала — гэта такое імя, якое павінна прыцягваць іншаземцаў?

— Безумоўна, галоўныя наведвальнікі нашы — айчынныя школьнікі. Дарослыя ходзяць радзей, але таксама ходзяць — і беларусы, і замежныя госці. А яшчэ нас ахвотна прымаюць з выстаўкамі ў іншых краінах. У Вільню выязджалі з выстаўкай "Янка Купала і тэатр" — два месяцы яна экспанавалася ў Музеі тэатра, музыкі і кіно Літвы. У чэрвені гэтага года выстаўку, прысвечаную сцэнічнаму увасабленню купалаўскіх твораў, ладзілі ў Татарстане. Там, у сяле Пячышчы дзейнічае музей-кватэра Янкі Купалы. І пры ім ёсць тэатральны гурток, "Паўлінку" ставіў. У гэты музей з'язджаюцца беларусы з усяго Татарстана. І таму наша выстаўка, якая праходзіла пад назвай "Малюся я небу, зямлі і прастору…", была запатрабавана.

— А якія экспанаты складалі яе?

— Копіі дэкарацый да спектакляў паводле твораў Янкі Купалы, копіі тэатральных касцюмаў, афіш, дакументаў. Такія выстаўкі прынята называць муляжнымі. Аднак і яны выклікаюць пэўныя пачуцці ў зацікаўленага чалавека.

— Расійскія журналісты распавядалі таксама пра вашу выстаўку ў Дзяржаўным музеі Пушкіна ў Маскве. Вельмі прыхільна распавядалі.

— У Маскве мы планавалі спачатку "пагасцяваць" месяц. Але было так шмат наведвальнікаў, што расіяне папрасілі падоўжыць тэрмін выстаўкі яшчэ на месяц.

— Міжнародныя сувязі — гэта заўжды прэстыжна. Ці не падзеліцеся планамі ў гэтым кірунку?

— У наступным годзе мы плануем арганізаваць выстаўку сумесна з літоўскімі калегамі. Будзе яна прысвечана добраму сябру Янкі Купалы, мастаку Анатолю Тычыну — ён ілюстраваў некалі купалаўскую паэму "Над ракой Арэсай", прымаў удзел у стварэнні першай экспазіцыі музея. У фондах нашага музея ёсць яго работы. Мастак, беларус па паходжанні, нарадзіўся недалёка ад Шаўляя. І таму ў Шаўляйскім музеі "Аўшрос" захоўваецца цікавая калекцыя яго твораў — карціны, экслібрысы, лісты — усяго каля ста адзінак…



Яшчэ пра адну выстаўку, якая, пэўна, пройдзе на нашай базе. Ёсць дамова з "Саюзам беларусаў Дона". Некалі ў Татарстане яны ўразілі ўсіх, прадставіўшы дзіцячыя малюнкі на тэму твораў Янкі Купалы. Вось мы хочам, каб гэтую выстаўку пабачылі і мінчане.

— Святкуючы юбілей — няважна, чалавека ці то ўстановы — заўжды хочацца распавядаць толькі пра ўдачы і дасягненні. Што вы лічыце самай вялікай удачай музея за апошнія гады?

— Добрага было шмат. Але музейных работнікаў больш за ўсё радуе, калі папаўняюцца фонды. У дачыненні да нашага музея і асобы Янкі Купалы гэта даволі цяжка. Вы ж ведаеце, дом песняра згарэў у першыя дні вайны, а разам з ім загінулі багацейшы пісьменніцкі архіў і бібліятэка. Быў страчаны і другі архіў паэта, які ён перадаў Нацыянальнай бібліятэцы — яго вывезлі ў Германію. Але такія знаходкі здараюцца — у мінулым годзе мы набылі кнігу з аўтографам Янкі Купалы. Кніга гэтая — "Пад новым сонцам" — была падпісана паэтам Канстанцыі Буйло. Ці ж гэта не радасць!

— Музей Янкі Купалы вядомы не толькі як сховішча каштоўных экспанатаў, але і як установа, якая ставіць сваёй задачай падтрымку творчай моладзі. Як вы ставіцеся да тых, хто кажа, што моладзь літаральна "прапіталася" бездухоўнасцю?

— Яны не маюць рацыі. Наша моладзь вельмі добрая, таленавітая. Як вядома, Янка Купала заўсёды падтрымліваў і дапамагаў моладзі, асабліва творчай. Пры музеі дзейнічаюць два музейныя клубы — суполка маладых літаратараў "Літаратурнае прадмесце", якую вядзе пісьменніца Людміла Рублеўская, і музычны клуб "Спроба актавы". Ствараючы гэтыя аб'яднанні, мы ставілі перад сабой задачу звярнуць увагу таленавітай моладзі на купалаўскі музей, зрабіць яго эксперыментальнай пляцоўкай для творчай моладзі.

А якія цудоўныя вечарыны разам з удзельнікамі гэтых клубаў ладзім! "Купальская ноч у Купалавым Доме" на дзень нараджэння Янкі Купалы — гэтае свята мастацтва ўжо стала традыцыйным. У гэтым годзе ўпершыню прайшоў конкурс аўтарскай песні "Купалаўскія вакацыі" ў філіяле "Акопы". Прыгадаем і акцыю "Ноч у музеі" — у Міжнародны Дзень музеяў і ў Дзень горада. Маладыя жадаюць ствараць — вершы, музыку, карціны. Яны з павагай і любоўю ставяцца да гісторыі і культуры сваёй краіны. І гэта значыць, музей Янкі Купалы без наведвальнікаў не застанецца.

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

На здымку: дырэктар музея Алена Мацевасян.

Фота Кастуся Дробава

# Духоўнае ў Сеціве: рэканструкцыя скарбаў

VI Міжнародныя кнігазнаўчыя чытанні на тэму "Бібліятэкі ў фарміраванні інавацыйнага асяродку для развіцця навукі, адукацыі і бізнесу" мелі галоўнай сваёй мэтай выпрацоўку тых шляхоў, якімі найлепш ісці ўслед за тэхнапрагрэсам. А менавіта — у карпаратыўным партнёрстве з шэрагам нацыянальных бібліятэк замежных краін.



### Сучасныя сродкі камунікацыі

Пра ўдзел у мерапрыемстве заявілі спецыялісты буйнейшых бібліятэчных, навуковых, навукова-даследчых устаноў, прадстаўнікі заканадаўчай і выканаўчай улад, грамадскіх аб'яднанняў з 12 краін. Былі дэлегаты ад сусветнай і еўрапейскай электронных бібліятэк, бібліятэчнай асацыяцыі Еўразіі.

З самага пачатку ў кнігазнаўчых чытаннях пазначыліся два асноўныя кірункі: аспекты, датычныя тэхнічнага і тэхналагічнага боку ўкаранення інавацый; магчымасці збірання і перадачы назапашаных ведаў, і на іх аснове — сцвярджэнне сістэмы духоўных каштоўнасцей.

Прагучалі даклады з вельмі змястоўнай інфармацыяй пра назапашанае ў бібліятэчных архівах. Да прыкладу: "Кутеінская мінея са збораў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі: да праблемы ўдакладнення атрыбуцыі", "Выданні беларускіх друкарняў XVI — XVIII стст. у фондах ЦНБ імя Якуба Коласа НАН Беларусі", "Беларускія выданні канца XIX — пачатку XX ст. у фондах Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка" ды іншыя.

### Інавацыі ў духоўнасці — рэальнасць?

Праца канферэнцыі яскрава прадэманстравала: два амаль супрацьлеглыя па значэнні словы — інавацыі і духоўнасць — у час глабалізацыі могуць зблізіцца. "Інавацыі мы ўкараняем у імя чалавека, — зазначыў карэспандэнту "ЛіМа" ў перапынку паміж пасяджэннямі дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, прэзідэнт Бібліятэчнай асамблеі Еўразіі прафесар Раман Матульскі. — Для нашай краіны, як сацыяльна арыентаванай, інавацыі самі па сабе, якія ідуць не на карысць чалавеку, а наадварот, могуць нанесці шкоду, непатрэбныя. А вось інавацыі, якія працуюць на будучыню нашага народа, мы вітаем. Бібліятэкі ў першую чаргу дапамагаюць усім нам быць духоўна здаровымі. І гэтую справу — стварэнне электроннай бібліятэкі — мы павінны зрабіць хутка і лёгка. Яна павінна быць незаўважнай, як паветра, якім мы дыхаем. Але насычанае яно будзе духоўнасцю".

### Рэканструкцыя бібліятэкі Сапегаў

Перад пленарным пасяджэннем быў знакавы пралог — пасяджэнне Міжнароднага савета па развіцці праекта віртуальнай рэканструкцыі бібліятэкі роду Сапегаў.

Першапачатковы праект "Сапегіяны" стваралі ў Брэсцкай абласной бібліятэцы, пра яго ведалі абласныя ўлады, але рэальная праца пачалася, калі ініцыятары звярнуліся да Уладзіміра Шчаснага і Камітэта па справах ЮНЕСКА, тады ж падключылася да працы Нацыянальная бібліятэка Беларусі і спецыялісты выйшлі на міжнародны ўзровень.

Будзе апісана цалкам калекцыя знанага роду і тое, што напісана пра Сапегаў. У каталог увойдзе толькі самае цікавае з таго, што напісана пра Сапегаў у Польшчы, ва Украіне і Літве. Але самае важнае — нарэшце асэнсаваць, што ж мы маем у сваёй спадчыне. Нацыянальная бібліятэка Беларусі будзе ўсё зводзіць у адзін рэсурс. Да канца гэтага года будзе апісана расійская калекцыя і алічбавана пэўная колькасць кніг, Брэсцкай абласной бібліятэкай робіцца бібліяграфічны спіс таго, што напісана пра Сапегаў. "Як аказалася, няма дысертацый пра Сапегаў, навуковага даследавання мецэнацкай, эканамічнай, дыпламатычнай, гістарычнай ролі Сапегаў таксама амаль няма", — распавядае адзін з ініцыятараў "Сапегіяны", намеснік дырэктара Брэсцкай абласной бібліятэкі Ала Мяснянкіна.

### Падарунак з Вільнюскага ўніверсітэта

Варта зазначыць: Літва ўжо выпусціла каталог бібліятэкі Сапегаў. Яго падарыла Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі падчас наведвання нашай краіны Прэзідэнт Літвы Даля Грыбаўскайтэ. Удзельнікі кнігазнаўчых чытанняў мелі магчымасць з ім азнаёміцца. Каталог складаўся на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў.

"Штуршком да складання каталога стала старадаўняя інфармацыя пра тое, што Сапега сваім тэстаментам завяшчаў кнігі Вільнюскай акадэміі, — распавяла карэспандэнту "ЛіМа" ўдзельніца кнігазнаўчых чытанняў, дацэнт Вільнюскага ўніверсітэта Альма Бразюнене. Яна пісала артыкул у "Каталог" і рэдагавала вопіс… — З-за гістарычных катаклізмаў кнігі губляліся, работнікам бібліятэкі трэба было кожны экзэмпляр патрымаць у руках і паглядзець па знаках: які там пазначаны суперэкслібрыс".

Складальнікі каталога таксама звярталіся па інфармацыю да іншых дзяржаў. У Нацыянальнай бібліятэцы Украіны імя Вернадскага знайшлося каля 30 кніг, штосьці выявілі ў бібліятэцы Акадэміі навук у Санкт-Пецярбургу. Матэрыялы ў каталог таксама ўключаны. Але пазначана, што выданні — не з Вільнюскага збору.

"У Сапегаў было шмат адгалінаванняў, і мы не можам гаварыць пра бібліятэку Сапегаў – бібліятэк было шмат. А ў гэтым выпадку пад імем "Сапегіяна" маецца на ўвазе тое, што адсавана было Вільнюскаму ўніверсітэту. Калісьці зрабілі нават рэестр — там было каля 3 тысяч кніг. У "Каталогу" — толькі дзясятая частка былой "тэстаментнай" бібліятэкі. Гэта мала, але калі зірнуць на бібліятэкі таго часу — а гэта сярэдзіна XVII стагоддзя, — то з іншых буйных збораў вядомы толькі дзясяткі кніг", — рэзюмавала спадарыня Альма.

Ірына ТУЛУПАВА

На здымку: намеснік дырэктара Брэсцкай абласной бібліятэкі Ала Мяснянкіна і намеснік дырэктара УП "Эўрыка-М" Вольга Мажароўская знаёміцца з "Каталогам Сапегаў" Вільнюскага ўніверсітэта.

Фота аўтара

№ 45 12 лістапада 2010 г. Ліm

# Песня і малітва

Згаданыя ў загалоўку анталагічна-паэтычныя паняцці, што вызначаюць код быцця беларуса, з'яўляюцца сэнсаўтваральнымі ў творчасці таленавітага паэта Алеся Барскага. Творчасці адметнай, арыгінальнай, шчырай, не прачытанай яшчэ на належным узроўні, а таму і не ацэненай як след, у поўнай адпаведнасці з яе вартасцямі і значнасцю. Мажліва, прычынай гэтаму стаўся, як ні дзіўна, аўтарытэт таленавітага вучонага, даследчыка, прафесара Аляксандра Баршчэўскага, які супернічае з аўтарытэтам паэта.

Беларуская песенная лірыка — гэта выключная з'ява ў мастацкім бытаванні беларусаў у свеце. Тое сталася заканамерным вынікам працяглага, шматвяковага працэсу развіцця мастацкага слова і музыкі, якія ўвабралі ў сябе адметныя асаблівасці беларускага мыслення, светапогляду, маральна-этычнага ўспрымання рэчаіснасці. Гэта ўнікальнае дасягненне нацыянальнай культуры. У ёй схаваны няўлоўны ход гісторыі і духу народа, непаўторныя рысы адметнага нацыянальнага характару. Каб зразумець да канца сутнасць гэтай мастацкай з'явы, неабходна яе разглядаць у непарыўнай сувязі з такімі катэгорыямі, як музыка, паэзія, мова, мелодыка, вобразна-выяўленчая сістэма, бо станаўленне нацыянальнай літаратуры непарыўна звязана са станаўленнем айчыннай песеннай лірыкі. Невыпадкова літаральна ўсе беларускія паэты называлі сябе музыкамі, гуслярамі, песнярамі, зборнікі сваіх твораў лічылі спеўнікамі, а самі вершы называлі песнямі, што падкрэслівала адметную цесную сувязь з музыкай, сведчыла аб надзвычайнай нагляднасці і разам з тым надзвычайнай метафарызацыі, схільнасці да тонкага выяўлення пачуццяў і перажыванняў.

Купалаўскія традыцыі песеннасці мастацкага вобраза найбольш яскрава ўвасобіў у сваёй творчасці Алесь Барскі. Як ніхто з беларускіх паэтаў ён стварыў уласную краіну-браначку, якая сталася ўвасабленнем мараў усіх беларускіх песняроў усіх эпох — бо тут зямля спявае. У паэтычным сусвеце Алеся Барскага бязмежна пануе ПЕСНЯ, якой, у поўнай адпаведнасці з арфічнымі законамі, падпарадкавана ўсё жывое. Купала ўсклікаў, што ён песні беларускай уладар. Песня Барскага — валадар сусвету. Бо ўсё ёй падуладна: яна можа разам з касою "зваліць распаленае лета"; спеў луга данесці ў знямозе, ускалыхнуць зямлю і неба, узварушыць лес. Паэт чуе песню ў трысці рэчкі, у душы чалавека, у марскіх хвалях: "вясна спявае вішнёвую песню"; "спявае пушча хваляй воннай"; "і вынырнуў вечар з даспелага збожжа — жніўную песню прынёс з Беларусі". Нават салавей для паэта — гэта Паганіні, што спявае. І для песні ёсць усе падставы: "На ўсіх лістах бярозавай сукенкі салаўі адспявалі рапсодыі". Або яшчэ прыгажэй: "У брычцы месяца рассеўся салавей, пяе ў залатой карэце". "І колькі песняў у вясны за пазухай", — усклікае паэт, які так шчыра дзеліцца радасцю ўспрыняцця быцця. Вось чаму ён "элегічна спявае", а вербы ў яго — "літаніі".

Паэт упэўнены, што рука ягоная бярэцца за пяро толькі таму, што ў сэрцы ёсць і "песня", і "сляза". Буйнае маёвае квітненне зможа змяніць у песню нават камень. Лясныя ж песні складаюцца з многіх, многіх ціхіх слоў. Яны складваюцца ў сэрцы, таму такія бясконцыя і ніколі-ніколі не завершацца, бо ў іх сардэчнай аснове пошум травы, палёт матылькоў, спакой святочнай ночы пасля цяжкай працы.

Песенную аснову паэт падкрэслівае ў кожным вершы: "І сонцам, бэзам, песняй стаўся я"; "Каб яно спявала песню прыгажосці свету, Пасадзім дрэва"; "я не магу пачатую песню кончыць"; "што ў сэрца ўлівалася добраю песняй".

Песня А. Барскага прысвечана ў першую чаргу Айчыне, якой ён імкнецца праспяваць сапраўдны гімн. Ён неаднойчы заявіць, падчас нават пафасна, паводле ўласных слоў, што хаця і "не стаў Бетховенам ці Лістам, як мог табе (Айчыне) спяваў". Ён будзе згадваць слынных кампазітараў, прычым у надзвычай адметнай, як заўсёды ў сусвеце Барскага, асацыятыўнасці: "Мы павіслі над светам, як Бах над арганамі", або "Звінім, як Бетховены, цалкам глухія".

Родная песня, "такая далёкая, шчырая-шчырая", гукае лірычнага героя, абуджае ў сне, кліча да сябе, яна становіцца сімвалам-увасабленнем Радзімы, яе голасам, які, трывожыцца паэт, так лёгка можа пакінуць душу.

А. Барскі надзвычай метафарызуе свой свет, ягоныя асацыяцыі адметныя і спецыфічныя, непаўторныя, наватарскія. Асабліва калі гэта датычыць песні, якой надаецца магутная і неспазнаная сіла. Знешняя апратка паэзіі — слова — гэта другараднасць, сапраўдная ейная сутнасць — у шчырай песні сэрца, бо менавіта ў ёй і журба, у ёй і радасць:

З рук сонца узялі мы песню
Такую шчырую-шчырую,
Яна нам рукі залагодзіла,
Яна нам сэрца расшырыла,
Яна нам пахне выраем.
Ёю жыццё ўквецім,
Ёю зямлю ўмаім
Мы песню цёплую, цёплую
З рук маткі-сонца маем.

Асабліва магутна гучыць песня ў душах закаханых:

Мы, як дзве песні,
Мы, як два гімны
У свеце ранішнім
І ў свеце сонным.

Паэт надзвычай метафарычна паказвае, "як расце кахання дрэва сярод нас і прыкрывае песню ўсю планету". Каханне расце і спее ў "вечна спеўнай душы", а сама каханая ўмее паклікаць "ціхай песеннай мовай".

Алесь Барскі настолькі ўлюбёны ў родную зямлю, што гатовы ёй маліцца, як некалі Янка Купала. І, працягваючы традыцыі песняра, які ўсклікаў: малюся я небу, зямлі і прастору, наш сучаснік моліцца да зямлі:

Другіх багоў даў лёс
І загадаў маліцца.
Але не выракайся
Песеннага бога.
Які ёсць лесам,
Цалаваным бліскавіцай.
Ідзі мяжой,
Цябе чакае нечаканасць,
Валошкавы прастор
Бязмежны і бязрамны,
Далёкія лясы,
Як велічная драма.
О, лесе, дзякуй —
Я патрапіў на след мапы.

Неаднойчы аўтар падкрэсліць, што не ўмее маліцца, "не знае "Верую" і слаба "Запаветы" або нават: "Бязбожнік я — малюся за жывёлы". Ён як старажытныя грэкі, адухаўляе прыроду. Кветкі асота нагадваюць яму крык "ці ў песні, ці ў малітве гордай"; "далоні дрэў зноў моляцца над рэчкай"; "ворагі вучылі нас маліцца богу-страху"; "малюся, каб ніколі ў жыцці нядоўгім не мець пытанняў менш"; "малюся яснаму голлю, п'янею ад песні трысця"; "і сняцца доўгія гады малітвы салаўя".

Малітва ў славянскай традыцыі — гэта сустрэча з жывым Богам, які чуе чалавека, дапамагае яму, любіць яго. Аднак святарная малітва і паэтычная вельмі адрозныя паміж сабою, бо і сам паэт у споведзі-малітве адрозны ад звычайнага хрысціяніна: упадабляецца хутчэй язычніку, невыпадкова параўноўваючы малітву з паганскай замовай, захоўваючы, аднак, яе сакральнасць і містычнасць. Існуюць малітвы велічныя, падзячныя і прашэнні. Алесь Барскі нічога для сябе асабіста ў сваіх малітвах не просіць. Ён толькі ўдзячны Сусвету, Богу, роднай зямлі за шчасце быць на свеце і спявае ўдзячную песню:

З гімнам,
З малітвай
Стаім і просім
Свет на каленях:
Гэй, веснавая добрая просінь,
Трымае нас у жмені.

Ён добра ведае суровы закон жыцця:

І песні, як багі,
Напоўнены дабрэчай;
Здаецца, маладосць —
Кранаю я рукой,
А гэта брама могілак,
Мой чалавеча.

Але ўсё роўна ён спявае Асанну быццю. Ён звяртаецца да неба і ўсклікае:

Прашу, каб падзялілася спакоем.
Трывогу вам —
Хто буру сее недзе;
А цішыню —
Маім валам і вершам.
Жменю зямлі бяру
З туманнай глебы —
Буду ляпіць свой верш і чалавека.

Плёну майстру — Паэту ў гэтай высакароднай справе.

Ірына БАРОЎСКАЯ

# Свет, дзе спраўджваюцца мары




Ці ведаеце вы, што такое нябесная рэчка? Калі не, прачытайце кнігу сербскай пісьменніцы Грозданы Олуіч з аднайменнай назвай. Яна пабачыла свет у выдавецтве "Літаратура і Мастацтва".

Героі казак Грозданы Олуіч — незвычайныя: перлавая ружа, дзьмухавец, нябесная рэчка і інш. На мой погляд, менавіта гэтая незвычайнасць і прыцягвае ўвагу чытачоў да твораў пісьменніцы, робіць іх папулярнымі не толькі на яе Радзіме, але і за мяжой. Пісьменніца, нібы цікаўнае да ўсяго дзіця, не перастае здзіўляцца прыгажосці прыроды, што акаляе нас. Менавіта таму ў яе казках адухаўляецца нежывое.

Творы сербскай пісьменніцы маюць глыбокі філасофскі сэнс. Дзеці не заўсёды здольны яго адчуць. Але дарослыя, прымерыўшы паводзіны герояў да тых сітуацый, што часам узнікаюць у нашым грамадстве, могуць зрабіць для сябе карысныя высновы. Так, амаль усіх персанажаў казак Грозданы Олуіч можна аднесці да так званых рамантычных герояў, яны вылучаюцца з натоўпу, які часцей за ўсё і асуджае іх за незвычайнасць. Кожны з герояў мае сваю запаветную мару, якая робіць яго моцным і мэтанакіраваным. Так, перлавая ружа, што жыла на дне мора, марыла падняцца на паверхню вады, убачыць сонца, неба, птушак. Мядузы і каралавая галінка смяяліся з такой летуценніцы. "Трэба ведаць сваё месца і не сыходзіць з яго!" — казала ружы каралавая галінка. Мара і боль ад безвыходнасці назапашваліся ўнутры ружы і паступова ператварыліся ў перліны. Потым нейкі чалавек падняў перлавую ружу з дна. Так яна пабачыла сонца і неба. "Па блакітным небе кацілася залатое сонца і плылі аблокі, лягчэйшыя за марскую пену; салёныя пахі мора змянілі салодкі водар размарыну. Усё зіхацела, усё трымцела і выглядала значна прыгажэй, лепш, чым уяўлялася паводле аповедаў рыбкі". Потым чалавек сціснуў ракавіну і дабраўся да нутра, "да схаванага там скарбу". Пустую ракавіну забірае маленькі хлопчык, прыкладаючы яе да вуха, ён слухае шум мора. Прыгожая жамчужына ж напрыканцы казкі аказваецца ў вітрыне раскошнай крамы. "Людзі натоўпамі хадзілі паглядзець на яе. Ды толькі адзін хлопчык і адзін паэт ведалі, што на вітрыне ззяе спраўджаная мара". Так здзяйсняюцца мары ўсіх герояў Грозданы Олуіч.

Дарэчы, мудрыя думкі рассыпаны, нібы каштоўныя камяні, па ўсёй кнізе казак. Напрыклад: "Яна шукала і знаходзіла свет у сабе". Гэта да таго, як важна клапаціцца і пра свой унутраны свет, выхоўваць у сабе найлепшыя якасці. "А чаму ўсе павінны рабіць адно і тое ж?" — пытаецца галоўны герой казкі "Дзьмухавец". Ён разумее: кожны з нас непаўторная асоба. "Чалавек можа ахвяраваць толькі сабою і сваёй уласнасцю. Але ніхто не дазваляў яму аддаваць у ахвяры тых істот, якія да яго выказваюць давер і любоў!" — адказвае герой казкі "Залатакосая" прыгажуні дзяўчыне. Яна просіць юнака ў абмен на яе прыхільнасць аддаць ёй сэрца яго сабакі. Дарэчы, у казцы "Залатакосая" прасочваюцца матывы некаторых рускіх народных казак. Мяркуйце самі. Самазакаханая дзяўчына адмаўляе ўсім жаніхам, бо не бачыць сярод іх вартага сваёй прыгажосці. І вось з'яўляецца смелы юнак, які гатовы змагацца за каханне дзяўчыны. Яна згаджаецца выйсці за яго замуж толькі тады, калі ён выканае тры яе жаданні. Аднак канцоўка ў казцы "Залатакосая" не казачная, а хутчэй павучальная. Два жаданні юнак выконвае, а вось адказ на трэці капрыз нявесты мы ўжо ведаем. Пасля таго, як дзяўчына просіць хлопца забіць яго сабаку, герой разумее, чаго вартая гэта прыгажуня, і адмаўляецца ад яе кахання. Дзяўчына ж, наадварот, толькі цяпер уцяміла, што яна страціла.

Відавочная павучальнасць, а таксама народныя матывы робяць сербскія казкі зразумелымі і цікавымі для нас, беларусаў. Дарэчы, у 1990 годзе Гроздана Олуіч наведвала нашу краіну. Пісьменніца зацікавілася беларускай рэчаіснасцю, але выказала шкадаванне, што паміж нашымі народамі няма моцных культурных і літаратурных сувязей. Хоць і са спазненнем, але пажаданне казачніцы ўсё ж было пачута. Доказ гэтаму — кніга "Нябесная рэчка". Пераклаў казкі з сербскай на беларускую мову літаратуразнаўца, прафесар Іван Чарота. Не менш, чым самі казкі, юных чытачоў звычайна вабяць і "карцінкі". Іх у кнізе шмат. Маладая мастачка з Брэста Марыя Міцкевіч зрабіла малюнкі яркімі, сучаснымі, а галоўнае, "жывымі", кожная ілюстрацыя нібыта ўрывак з мультыплікацыйнага фільма. Вось і атрымалася, што чытаючы кнігу, пераносішся ў цудадзейны, прыгожы свет, дзе вандруюць марскія ракавіны, размаўляюць паміж сабой кветкі, сябруюць людзі і птушкі, у той казачны свет, дзе заўсёды перамагаюць дабрыня і справядлівасць.

Дык ці ведаеце вы, што такое нябесная рэчка? Адказ вельмі просты, як і ўсё, што знаходзіцца ў казачным свеце Грозданы Олуіч. Неабходна толькі паспрабаваць зірнуць наўкола цікаўнымі вачыма дзіцяці. "Кожная рака цячэ па-свойму: адна кіруе на ўсход, другая — на захад, а некаторыя з гор, проста ў мора…". Але што гэта я? Лепш самі сядзьце і пачытайце казку разам са сваімі дзецьмі, каб даведацца, якім чынам маленькая храбрая рэчка ператварылася ў нябесную рэчку — вясёлку. Скажу толькі, што і ў гэтай казцы мара героіні спраўдзілася, бо ні на хвіліну маленькая рэчка не сумнявалася, што дасягне сваёй мэты. Хіба не так бывае і ў нашым з вамі жыцці?

Вольга НІКОЛЬСКАЯ

**Калі вас вабіць чытанка пра каханне, якое разгортваецца ў незвычайным антуражы, то вы прачытаеце гэтую кнігу з задавальненнем. Калі вас цікавяць творы, дзе прысутнічаюць элементы “альтэрнатыўнай гісторыі”, то гэта таксама кніга для вас.**

# Зубрэвіцкі хранатоп і міфалогія гісторыі

“Зубрэвіцкая сага” — зборнік навел, кожная з якіх мае свой сюжэт, незалежную ад іншых частак кампазіцыйную пабудову і галоўных герояў. У кожным творы дзеянне адбываецца ў новым гістарычным часе. Таму калі вы пачняце чытаць твор не спачатку, то адчуванне цэласнасці ўсе роўна застанецца. Хоць, вядома, лепей чытаць паслядоўна, каб вам натуральна адкрывалася і мастацкая рэчаіснасць, створаная Янкам Сіпаковым, і ягоная канцэпцыя кнігі.

Гістарычны час разгортваецца ў храналагічнай паслядоўнасці ад першабытнасці да нашых часоў. Адбываецца шмат вельмі розных падзей, але ўсе яны маюць адзіны цэнтр — Зубрэвічы. Гэта адначасова і рэальная вёска, і міфалагічны сусвет, пабудаваны творцам-мастаком. У анатацыі было заяўлена пра раман-містыфікацыю, але гэта дакладна не так. Тут трэба гаварыць пра міфалагізацыю гісторыі. Усе тыя падзеі і, на першы погляд, неверагодныя супадзенні ў аўтарскім сусвеце адбываліся сапраўды ці маглі адбыцца.

Так атрымліваецца ў мастацкай рэчаіснасці “Зубрэвіцкай сагі”, што польскія каралі пасля шлюбу Ягайлы і Сафіі — гэта таксама “зубрэвіцкія нашчадкі”. Нам здаецца верагодным і з’яўленне ў гэтых мясцінах пісьменніка Анры Бейля-Стэндаля, і яго ліст да Весяліны, які даходзіць у Зубрэвічы.

Аўтар быццам гаворыць: мы самі не ўяўляем, адкуль цягнуцца ніткі нашай памяці, але кожная падзея і ўчынак маюць сваю гісторыю. Час надае асабістую маштабнасць. Разуменне ці, дакладней, адчуванне гэтых нябачных сувязей, далучанасць да свайго родавага мінулага патрабуе парадаксальнага погляду мастака і паэта, а не гісторыка. Неабходна звязаць у адно цэлае сапраўднае і прыдуманае, легендарнае і гістарычнае. Вока мастака бачыць гэтыя вытанчаныя сувязі, падобныя да павуціння. Усё гэта стварае асабістую і непаўторную прастору кнігі — Зубрэвіцкі хранатоп.

“Сага” распавядае пра гісторыю рода паступова: з пакалення ў пакаленне, не парушаючы ўласнай храналогіі. Таму гэта і “сага”, якая мае амаль летапісны склад аповеда. Аўтар стварае суцэльную мастацкую рэчаіснасць: міфалогію роду, зямлі, чалавечага жыцця. Легендарны і гістарычны час трэба ўспрымаць у творы як адзінае цэлае. Чалавек з’яўляецца творцам гісторыі ўжо таму, што нарадзіўся.

Радавод у творы бярэ свой пачатак не ад Адама, а ад першабытнага чалавека. Хуткія Ногі, які пасяліўся са сваёй каханай у прыгожым месцы на ўзгорку, дзе потым узнікае і сама вёска Зубрэвічы. Калі ўявіць сабе, што Сіпакова перакладуць і прачытаюць у Лацінскай Амерыцы, то яны ўспрымуць яго, як мы — “Сто гадоў адзіноты”.

Аўтар імкнецца пазбегнуць жыццёвых крайнасцей. У легендарнай частцы паказваецца, што продкі, якія пакланяліся прыродным стыхіям, не адразу сталі хрысціянамі. Язычніцтва, якое надзяляла боскай сутнасцю прыродныя стыхіі, жывёл і расліны, застаецца таксама часткай нашай родавай памяці, займае сваё месца сярод архетыпаў калектыўнага бессвядомага: “Трава — гэта таксама людзі. Колькі ж пакаленняў травы за доўгі час зямлі прайшло нават тут. На гэтай купіне! Травінкі нараджаліся, зеленелі, цвілі, цешыліся жыццём і сонцам, а потым, калі прыходзіў час, засыхалі і ціха клаліся на сваё ж карэнне, — каб вясною даць магчымасць нарадзіцца новым зялёным каснічкам. Новым жыхарам зямлі”.

Пры агульным станоўчым уражанні ад твора “сагі” можна падзяліць на больш ці менш удалыя. Залежыць гэта ад напружанасці сюжэта альбо цікавага вобраза, наяўнасці аўтарскай знаходкі. Так, напрыклад, чытачу спадабаецца частка, дзе Вежа выратоўвае Купалінку ад пахавальнага вогнішча і адплывае з ёй у “Зялёны Сад”. Закране чытацкія пачуцці і



расповед пра каханне і неверагодную вандроўку ў Маскву звычайнай дзяўчыны Весяліны. Знешнія абставіны назаўсёды разлучаюць яе і Віктора Міле, які загінуў і не ўбачыў свайго сына. Але праз палову Еўропы да Весяліны вяртаецца сабачка Мсье.

Адзначым і тое, што навелістычная пабудова твора не дае Сіпакову магчымасць раскрыць эвалюцыю характараў: аўтарская сканцэнтраванасць на падзейнасці і адносінах паміж людзьмі не спрыяе псіхалагізму.

Жанр твора заяўлены як раман у апавяданнях, таму скажам некалькі слоў пра вобраз аўтара. Менавіта ён — носьбіт калектыўнай памяці і міфалагічная асоба, дакладней, персаніфікацыя Рода, які жыў на працягу тысячагоддзяў, усё бачыў і пра ўсё дакладна ведае: “Я назаўсёды запомніў гэтую зыркую кроплю, якая тады, у маім далёкім язычкім стагоддзі, так калола мне вочы” (“Сляза Перуна”, с. 79) ; “Чым далей я жыву, тым больш мне здаецца, што тым настойлівым хлапчуком, які тады адольваў цяжкія выпрабаванні, пасля якіх дзеці становяцца мужчынамі, быў якраз я сам” (“Цераз ваду”, с. 90); “Мне здаецца, што я сам бачыў, як усё гэта адбывалася” (“Паморак”, с. 118).

Аўтар — сапраўдны міфатворца. Рэальныя гістарычныя падзеі падпарадкоўваюцца менавіта яго задуме, пераствараюцца ў адносіны паміж людзьмі, якія належаць па сваіх родавых сувязях да адзінага месца. А гэтыя адносіны і ствараюць міфалогію гісторыі ў рамане.

У літаратуры ХХ стагоддзя ўжо сустракаліся прыклады, калі лакальнае мястэчка разрасталася да памераў асабістага Сусвету. Можна прыгадаць Маркеса ці Фолкнера. Але Сіпакоў лірык, а не эпік. Таму яго больш вабяць не манументальныя абагульненні, а чалавечыя пачуцці і іх нязменнасць на працягу часу. Галоўны мастацкі поспех Янкі Сіпакова ў тым, што ён падае падзеі жыцця, легендарныя і гістарычныя, праз лёсы канкрэтных людзей.

У жыцці шмат што паўтараецца, шмат што адбываецца выпадкова. Чалавек не вызначае свой лёс, але мае права на канкрэтны ўчынак. Ва ўсе эпохі герояў аповеда аб’ядноўваюць простыя, а таму адвечныя чалавечыя пачуцці: каханне мужчыны да жанчыны, любоў маці да дзіцяці. Так, чалавек мае права выбраць, якая пра яго застанецца памяць, ці гатовы ён ахвяраваць сабой дзеля жанчыны, якую кахае, дзеля сваёй радзімы ці, наадварот, пакінуць пра сябе памяць як пра злодзея. Здрада заўсёды заставалася здрадай, а каханне — каханнем. Сутнасць чалавека ў тым, што дабро ці зло знаходзіцца непасрэдна ў ім самім і застаецца нязменным з цягам часу.

Адна з галоўных тэм “Зубрэвіцкай сагі” — адносіны паміж мужчынам і жанчынай. Каханне як адно з вечных пачуццяў прысутнічае амаль у большасці частак і робіць фонам не

Радавод у творы бярэ свой пачатак не ад Адама, а ад першабытнага чалавека. Хуткія Ногі, які пасяліўся са сваёй каханай у прыгожым месцы на ўзгорку, дзе потым узнікае і сама вёска Зубрэвічы. Калі ўявіць сабе, што Сіпакова перакладуць і прачытаюць у Лацінскай Амерыцы, то яны ўспрымуць яго, як мы — “Сто гадоў адзіноты”.

толькі гісторыю, але і само жыццё. Войха, якая знаходзіць параненага паляўнічага на мамантаў, Вежа, які выратоўвае Купалінку ад вогнішча, Бус, зачараваны русалкай, стары Ягайла і яго апошняя жонка, друцкая князёўна Сафія, Весяліна, закаханая ў французскага інтэнданта. Усе гэтыя гісторыі ўспрымаюцца найперш як навелы пра каханне, хоць усе яны маюць прывязку да канкрэтнага месца. Зубрэвічы не мінула аніводная з больш-менш значных гістарычных падзей: Дубровенская бітва, Грунвальд, час рускай смуты, вайна з Напалеонам, паўстанне Каліноўскага супраць Расіі. Беларусь страціла самастойнасць, пераходзячы ад Польшчы да Расіі, нашчадкі зубрэвіцкіх родаў служылі ў розных войсках і розным гаспадарам, апыналіся ў Сібіры і Афрыцы. У вёску трапляюць нашчадкі розных народаў: напалову француз Віктор ці Сідока-афрыканец, чые дзеці і ўнукі Афрыку бачылі “толькі ў незразумелых і ім самім снах” (с. 304).

Кнігу вельмі цікава чытаць, разглядаючы карту. Становіцца бачна, што Друцк знаходзіцца не нашмат далей ад Зубрэвічаў, чым Орша. Аўтар знаходзіць словы, якія прывучаюць нас да ўнікальнасці, непаўторнасці мясцін, якія ён апісвае. У Зубрэвіцкім хранатопе няма недакладнасцей: у творы ўсплываюць назвы маленькіх мястэчак і рачулак, вядомыя толькі тым, хто там жыве. Усё гэта стварае адчуванне асаблівай жыццёвай дасканаласці і асаблівай далучанасці да мастацкай рэальнасці твора. Так, я проста бачу паварот на сваю Барань, што існуе і да гэтага часу (вёска Зубрэвічы знаходзіцца ад мястэчка Барань, дзе я нарадзіўся, недзе за 12 — 15 кіламетраў; калі мы з бацькамі ездзілі па выхадных на аўтобусе да сваякоў, то ў маім дзіцячым успрыманні Зубрэвічы маляваліся як нейкі край майго малога дзіцячага свету, куды можна дабрацца, толькі праехаўшы некалькі дадатковых прыпынкаў). Для таго, хто тут нарадзіўся, апісанне і пералік месцаў ствараюць асаблівую аўру чытацкага ўспрымання.

Аўтар прыходзіць да парадаксальных высноў: “А тая сцяжынка, якую, цягнучы ў стойбішча маманта, праклалі валакушамі першалюдзі і па якой прапоўз ён, Хуткія Ногі, стане праз стагоддзі ці то насыпным Кацярынінскім шляхам, ці то шашою Мінск — Масква” (“Хуткія Ногі”, с. 17). Мы бачым, што гістарычныя ўмовы і гістарычны час — гэта адносныя паняцці. Ствараючы сваю мастацкую рэчаіснасць, аўтар пераканаўча кажа: так было. І мы пачынаем верыць яму.

Але гэта вонкавае скрыжаванне, а ёсць і больш значнае — скрыжаванне чалавечых лёсаў. Таму ў легендарнай частцы галоўнае — гэта стварэнне зубрэвіцкага радавода. Мастак тут выконвае функцыю сапраўднага міфатворцы, падрабязна пералічвае родавыя калены і сваяцкія адносіны. У другой частцы Сіпакоў падкрэслівае развіццё радавода за кошт знешняга ўплыву. Прачытайце, як у мястэчку з’явіліся свае “французы” і “афрыканцы”.

Гэтая частка зноў нагадвае кола, але не міфалагічнае, а кола адвечных вяртанняў. Знаходжанне на скрыжаванні закідвала жыхароў мястэчка ў розны гістарычны час і ў Маскоўю, і ў Сібір, і ў Афрыку, але яны заўсёды марылі вярнуцца і вярталіся, калі атрымлівалася, дадому. А калі не атрымлівалася, дык заўжды памяталі, адкуль яны родам.

Легендарна-гістарычны хранатоп твора можна падзяліць на дзве часткі. Пры гэтым пабудова твора адлюстроўвае яго

Адна з галоўных тэм “Зубрэвіцкай сагі” — адносіны паміж мужчынам і жанчынай. Каханне як адно з вечных пачуццяў прысутнічае амаль у большасці частак і робіць фонам не толькі гісторыю, але і само жыццё. Войха, якая знаходзіць параненага паляўнічага на мамантаў, Вежа, які выратоўвае Купалінку ад вогнішча, Бус, зачараваны русалкай, стары Ягайла і яго апошняя жонка, друцкая князёўна Сафія, Весяліна, закаханая ў французскага інтэнданта.

ўнутранае адзінства. Міфалагічны час у рамане таксама ўяўляе сабой кола. Цэнтрам, безумоўна, з’яўляецца глава “Зубрэвіцкая сага”. Менавіта яна — вось кола тых быццам гістарычных падзей, якія адбываюцца на працягу тысячагоддзяў. У гэтай главе з’яўляецца канкрэтны гістарычны персанаж — князь Мітка Сякіра, Дзмітрый Зубрэвіцкі, пра якога захаваліся звесткі ў хроніках. Сем глаў увасабляюць час легендарны, сем — гістарычны. Назіраецца кольцавая кампазіцыя, паколькі ў першай главе першабытны чалавек Хуткія Ногі палюе маманта, а ва ўмоўна апошняй — у Афрыцы амаль першабытныя плямёны, якія жывуць на Гары, імкнуцца завальць слана. Прычым, для таго, каб стаць сапраўдным мужчынам, трэба забіць менавіта “свайго” слана. Растлумачым, чаму мы назвалі главу “Паляванне на сланоў” умоўна апошняй.

У апошняй главе “Партызаны” аўтар выступае ўжо не як апавядальнік, увасабленне роду, які ўсё ведае і ўсё бачыў, а непасрэдна як дзеючая асоба. Менавіта з ім адбываюцца трагічныя падзеі, галоўная з іх — страта маці, якую закатавалі ў гестапа. Мастацкая рэальнасць набывае рысы сапраўднага жыцця.

Апошняя глава вельмі важная для эмацыянальнага ўспрымання чытача. Яна — як выбух асабістага жыцця, боль памяці, які не забываецца. Такім чынам, калектыўная памяць ператвараецца ў асабістае ўспрыманне гісторыі, самы яркі ўспамін дзяцінства, звязаны з вайной. Аўтар, як і яго героі, пражывае свой лёс. Ён мог загінуць, але амаль выпадкова застаўся жывы.

Калі першая частка больш лірычная па сваёй інтанацыі, то другая — эпічная. У ёй больш значных падзей і гістарычных асоб. Разам з гэтым, становіцца менш станоўчых фіналаў. Больш жорсткасці, недаверу, ваенных падзей. Пачуцці адыходзяць на другі план. Гісторыя дыктуе свае правілы. Уражваюць старонкі, дзе апісваецца адступленне войска Напалеона: сотні і тысячы забітых французаў, якія ляжаць збоку ад дарогі. Мы адчуваем, як лёс чалавека становіцца прывязаным да лёсу яго краіны. І зноў аўтар аб’ядноўвае гісторыю канкрэтнага мястэчка з падзеямі ў Беларусі, ВКЛ, Еўропе. Уводзіць Зубрэвіцкі хранатоп у шырокі гістарычны кантэкст.

Міфалагема дарогі, якая займае ў творы больш значнае месца, чым вобраз дома, таксама набывае канкрэтныя рысы. Гэта дарога, якая вядзе дзяцей дадому і якую памятае нават конь. Дарога як уратаванне. Але і хата, якую марылі пабудаваць бацькі, — гэта гара бярвення, якое расцягнулі. Аўтар уплятае свае асабістыя перажыванні ў лёс свайго роду. Вобраз раскіданай хаты — гэта вобраз вайны. Амаль усе вобразы-сімвалы твора атрымалі сваё жудаснае жыццёвае ўвасабленне: гара становіцца танкавым ровам, яма — брацкай магілай, дзе знаходзяць косці закатаваных людзей. Апошнюю вайну можна ўспрымаць як хаос, які ледзь не загубіў Зубрэвіцкі хранатоп. І род аўтара таксама мог загінуць. Але жыццё перамагае. Нягледзячы на ўсё, у рамана лірычная канцоўка: у пісьменніка ёсць унучка, а таму зубрэвіцкі род будзе працягнуты.

Стварэнне рамана такога кшталту — гэта адметная падзея. У апошні час у сучаснай літаратуры адбываецца трансфармацыя жанраў. На першы план выходзяць метажанры — эсэ, вандроўныя нататкі. Менавіта таму вельмі важна, што Сіпакоў напісаў раман. Са сваёй асаблівай міфалогіяй, цэласнай аўтарскай канцэпцыяй. Твор у рэчышчы раманнай традыцыі ХХ стагоддзя. Я бачу гэты твор менавіта як вялікі раман пра жыццё, законы якога нельга спыніць, і пра чалавека, які мусіць пражыць жыццё і пакінуць па сабе след. Падзеі праходзяць, учынкі застаюцца.

Уладзімір КАПЦАЎ



Мікола АРОЧКА

## Ці ўскрэснем?

Ці ўскрэснем мы, душою звяўшы, ўпаўшы,
Каб выйсці ў свет, як нейкі здольны род?
Янка Купала

Ва мне смыліць адчайнае пытанне,
Што мучыла Купалаву душу.
Пытанне — як укрыжаванне,
Якое ўсё жыццё ў сабе нашу.

Я з ім жыву у згодзе і нязгодзе.
Пытанне — нібы з Дрэва свету ліст.
Яно ў маім народзе —
не адно стагоддзе
Для кожнага вятрыска нарасхліст.

Ці ўскрэсне люд душой, як ліст упаўшы
У міждарожжа гразкіх калян?
Хтось, можа, ахрысціў яго прапашчым,
Ды мы з адных разлапістых галін.

З глыбінь узгадаваныя карэннем,
Нясем загадку вечных таямніц,
Дзе і працяг і повязь пакаленняў,
З якімі жыць і падаць разам ніц.

Хоць люд мой не пад шатамі ў зацішку
Вядзе свой жыццядайны радавод,
Ды свежы ліст зялёную калыску
Рыхтуе зноў і туліць ад нягод
Спавітую, як немаўля, пупышку,
Каб выйсці ў свет з яе,
Пад родны небазвод,
Як, сапраўды трывушчы
І здольны, неадольны
Род!

## Вяшчунны покліч

Памяці А. Смоліча, слыннага аўтара "Геаграфіі Беларусі", старшыні ТБШ у Заходняй Беларусі

Я сцішана ўглядаюся ў Ваш твар,
Ідэяй запаветнай адухоўлены.
Ці прадчуваў удумны землядар,
Што ён з сябрамі ўжо бядой улоўлены?

Як многа вас за межамі ў выгнанні
Зманулася на покліч даравання
За вашу ў тым адзіную правіну,
Што любасцю ачольвалі Айчыну!

Ды вас ужо высочваў зрок жуды
Вярхоўнага ў пякеллі ліхадзея...
Зарана ў вас гняздо звіла надзея:
Навокал сцюжна ўзвылі халады!..

Не можа быць... Наплыў свінцовых хмар
Кідаў надзеі тыя ў бездарожжа...
Яшчэ ўсё жыў айчынны Гаспадар —
Разумна ўгрунтаваны і заможны!

Што спудзіла так карніцкую зграю?
Кліч волі?.. Суверэннасці душа?
Дзе нават плён урокаў ТБШ
Вёў немінуча да Адродзін краю!

"...Не пакідайце!.." — прагнуў развіцця
Вяшчунны покліч... Здзейсніцца у яве!
Прыспаны край забраны ўжо на справе
Прачнуўся нечакана у дзяржаве —
Для самастойнага жыцця!..

Як сына Геі, Вас землябудова
Захоплена ўзяла так у палон,
Што не ўяўляліся асобна — школа, мова,
Як першаўмова, каб адпрэчыць скон!

Час клікаў выхавання родным духам —
З застою розум вывесці ў абшар.
Штуршкі ён слухаў тэктанічных зрухаў:
Не выпусціць бы шанец — боскі дар!

І будучыня ўстане з анямення,
Ёй мова — жыватворны эліксір.
Духоўны твар наступных пакаленняў.
На вусны іх не сыпце немы жвір!

Над моваю не ўладныя загады,
Не трэба ёй даніна — як спагада,
Ёй жыць, як і здаўна, —
ў сваім народзе,
Пульсуючы ў адным кровазвароце, —
У полі, ў роднай хаце, пры варштаце,
А разам і ў палаце,
пры Вярхоўнай Радзе!

Украсці мову — век не будзе зладу,
Яна бароніць люд ад заняпаду
І думку разнявольвае, багаціць.
Найгоршае няшчасце — мову страціць!
Украсці ў людства мову — Божа, бронь!
Украсці мову — гэта куля ў скронь!..

І пасміхнуўся ў Омску з'едліва свінец:
Хай будзе так!
Разнёсся пошчак глуха...
Свінец, аднак, не ведаў, што для духу,
Нязломнага ў катоўнях, —
Гэта не канец!

## Балада пра няскошанае жыта

Зя сялом адстрэльвалася жыта.
Тое жыта ўсё было прашыта
Лютай незгаворлівасцю куль:
Сто — туды,
Адна — адтуль.

Хоць адна, але касіла чыста.
Стаў, як крэпасць, жытні астравок.
І да гэтай крэпасці фашысты
З хат павыганялі мацярок.

Косы — ў рукі!.. Гора ваша, маткі,
Тупае пракосам... Шнэль! Хутчэй!
Выглядалі хіжа аўтаматы
Упрытык з-за матчыных плячэй.

Не паспеўшы, сіняе, наліцца,
Жыта шоргала, як восенню трысцё.
І хавалася за бабскія спадніцы
Ворага нягоднае жыццё.

Спатыкалася каса ў матулі
І касільна млела у руцэ,
Калі біла ўзгневаная куля,
З-за плячэй выхопваючы цэль.

Асцярожна біла, бездакорна,
Колькі было вытрымкі ў байца,
Каб яшчэ з апошняга патрона
Не задзець і кофты у касца!

Выстаяла жыта — не здалося!
Ні стаптаць яго, ні зваяваць.
Праз вякі ўсе роднаму калоссю,
Як і Бацькаўшчыне —
Жыць, каласаваць!

## Начная балада салдаткі

Апоўначы...
Снег за акном
Так мякка садзіцца, кружыць.
А думка у спрэчцы са сном
Так тужыць па мужу, так тужыць!

Ды раптам нібыта штось
Кранулася шыбіны... Божа!
Асвечаны снегам... Антось!
Дрыготка схапілася з ложа.

Хіснулася ўся, а ў акне
З салдацкім мяшком за плячыма
Заснежаны ўвесь, не міргне...
Мой родны глядзіць мужчына!

Сняжынкі на вейкі, вусы
Пухната злятаюць, не таюць...
У зрэнках, ледзь-ледзь касых,
Дзве іскры мяне вітаюць.

Як паліць струменісты жар
Таго нематлівага зроку!
Прыкоўвае родны твар —
Ступіць не магу ні кроку.

Прачніся, сыночак, устань!
Спрасонку ці бачыш, дзіцятка...
Не, гэта — не бойся — не здань...
Вярнуўся дахаты наш татка!

У хату ж заходзь!.. А ён
Маўкліва, неварухліва
Глядзіць... Калі гэта сон —
То мне прабуджацца жахліва!

Спарола старога... Пазнаў.
Перажагнаў салдата.
Вярнуўся. Адваяваў.
Ну, сыне, заходзь у хату!

Ды бліснула дзіка ў вачах
Антосевых горкая скруха!
Пайшоў ён... мяшок на плячах.
Абмоткі... А ўслед — завіруха.

Мы выбеглі ў замець — туды,
Дзе постаць растала салдата.
Ля вокан глыбока сляды
Сінелі пад снегам пухнатым.

Мы ноч прахадзілі ў двары.
Завея ўзвывала, як жонка...
Назаўтра ж ліхія вятры
Прынеслі з вайны пахаронку.



Марыя КОБЕЦ

## Ранішні сон

Л'ецца песня сціпла,
Нібы калыханка,
І, чамусьці, пахне
Мне чабор!
Расхінуць бы крылы
Ціхім, цёплым ранкам,
Узляцець, пакінуць
Дзесь унізе бор!

У пунцовым свеце!
У лясную квецень!
У падмогу вецер!
У аблокаў ціш!
Стынуць, смагнуць вусны,
Цягне высь спакусна!
Сонейка з дакорам:
"Ты куды ляціш?"

Падхаплю аблокі,
Сабяру ў ахапак.
Чыстае, бы шкельца,
Неба без аблок!
Ў сне сваім глыбокім
У вясновы ранак
Зноў сасню ружовы
Мару-сон знарок!

* * *

Дзякуй табе, любы,
за хвіліны шчасця
І прабач за страчаны спакой.
Дзякуй, што адводзіў ты напасці
Моцнаю, пяшчотнаю рукой.
Дзякуй табе, любы, не цурайся,
Прэч маё каханне не адгонь.
У памылках колішніх не кайся,
Прыйдзе час — патухне і агонь.
Ўсё адносна у сучасным свеце,
Толькі ўсё ж надзею маю я:
Зразумееш, што ва ўсім сусвеце
Не кахаў цябе ніхто, як я.

* * *

Успышка... Памяць — цяжкі камень.
...Маёвы вечар ля ракі.
Як і калісь — цябе чакаю,
Чакаю дотыкаў рукі.

Мігціць суцішана вадзіца.
Адбіткі зор у люстры вод.
Вярнуць бы ўсё і наталіцца!
...Трымае повязь даўніх год.

Ружовы!.. Не… Ужо звычайны
Глядзіцца месяц у раку.
Твой позірк — іншы,
мой — адчайны.
...Шугае вецер асаку.

Гляджу, ўглядаюся да болю,
А цішыня — аж рэжа слых.
Лёс дараваў калісь з табою
Адно каханне на дваіх.

...Ўсё, як калісь, — рака, чакаю.
...Наўзбоч прайшлі за годам год!
І толькі памяць — цяжкі камень —
Нясе памылак карагод.

* * *

Смуткую... Нават плачу...
Шукаю... Не знаходжу...
Памылак не прадбачу...
Няма з сумленнем згоды...
Смуткую... Далей — болей...
Бяру сябе я ў рукі...
Сышла кудысьці воля,
А сіла — на паркі.
Спрабую ўсё нанова.
Дарэмны гэты спробы.
Даю сабе зноў слова
Забыцца пра хваробы.
Нікчэмны і дарэмны
І пошук, і дарога.
Засвоен мною дрэнна
Урок жыцця зямнога.

* * *

Абяссілелі крылы,
Няма моцы на ўзлёт!
Дасягнуць небасхілу,
Мая мара — палёт.
Дакрануцца аблокаў
У свабоднай цішы,
Без аглядкі навокал,
Без папрокаў душы.
Няма моцы у крылах,
Не пад сілу ўзлёт.
Я не птах шызакрылы,
А мне сніцца палёт!



Фота Кастуся Дробава

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі

КНІЖНЫ СВЕТ

12 лістапада 2010 г.

Выпуск 22

# Марыў стаць пісьменнікам

Госць “Кніжнага свету” — папулярны шведскі пісьменнік Мікаэль Ніемі, які завітаў у Беларусь на прэзентацыю свайго рамана “Папулярная музыка з Вітулы”. Гэтая кніга — сапраўдны сусветны бестселер, — што прынесла вядомасць і самую вялікую літаратурную прэмію Швецыі аўтару, не так даўно выйшла ў перакладзе на беларускую мову.



— Мікаэль, у чым сакрэт вашай папулярнасці і паспяховасці пісьменніцкай кар’еры?

— Для мяне быць пісьменнікам — гэта ў першую чаргу старанная, доўгая і цяжкая праца. Я стаў сур’ёзна пісаць, калі мне было 15 год. Пачынаў з паэзіі і апавяданняў. Тады я вучыўся ў тэхнічным каледжы, а ў вольны час пісаў, стараўся стаць пісьменнікам. З часу літаратурных спроб да публікацыі кнігі прайшло дзесяць год. Мне было 26, калі першы рукапіс прынялі да друку ў выдавецтве. Да гэтага — шмат кніг, рукапісаў, якія не прымаліся. Доўгі час я працаваў на тое, каб стаць пісьменнікам, і быў шчаслівы, калі дасягнуў першага поспеху ў гэтай галіне. Пошук натхнення, назіранне за тым, як пішуць іншыя, каб знайсці ўласны стыль, сваю мову, тэхніку, шмат чытання і практыкаванняў у пісьме — гэта доўгі працэс.

— Вы марылі стаць пісьменнікам?

— Так, гэта была сапраўды мара, я марыў пра гэта, ведаў, што павінен пісаць і ўкласці ў кнігі ўсё жыццё, а яшчэ ўсведамляў, што гэта складаная праца. Але я вельмі працавіты (што лічу сваёй лепшай якасцю), працую да таго часу, пакуль мара не стане рэальнасцю. Доўгі час займаўся староннімі ад пісьменніцтва рэчамі, нават у рок-гурце іграў. Я і да гэтага часу іграю на гітары, піяніна і акардэоне, але ўспрымаю гэтыя заняткі як хобі. Напісанне кніг — для мяне асноўны занятак, праца. Але нават стаўшы пісьменнікам, рабіў шмат розных рэчаў, каб зарабіць грошы.

— У Швецыі прэстыжна быць пісьменнікам?

— Я сказаў бы, што гэта высокапрэстыжны занятак, бо выконваючы гэтую ролю, здабываеш чытачоў, выходзіш на шырокую грамадскасць. Але ў той жа час вялікіх грошай ён не прыносіць, многія аўтары вельмі бедныя. Атрымліваецца, што пісьменнік мае прэстыж і вядомасць, але не мае грошай, бо ад продажу кніг вялікага прыбытку не атрымаеш, таму большасць пісьменнікаў мае іншыя заняткі.

— У цэлым жа, наколькі складана сёння выдаць кнігу ў Швецыі?

— Вельмі складана, асабліва калі хочаш выдаць раман у вялікіх выдавецкіх дамах. З усіх рукапісаў, што туды дасылаюцца аўтарамі, кнігамі становяцца толькі два — чатыры працэнты. Але можна выдаць кнігу самастойна. У нас існуе сістэма “print on the bond”: аўтар на камп’ютары сам рыхтуе кнігу да друку, затым збірае заказы людзей, гатовых купіць яе, і час ад часу друкуе кнігу ў той колькасці, у якой людзі выказваюць жаданне яе набываць. У такім выпадку сам друкуеш, але і плаціш сам. У пачатку кар’еры я за свой кошт апублікаваў дзве дакументальныя кнігі, у якіх выдаўцы не былі зацікаўленыя. У адной з іх пісаў пра сістэму школьнага навучання, у другой — пра становішча нацыянальных меншасцей на поўначы Швецыі. Я вельмі ганаруся тым, што кнігі апублікаваў сам і нават вярнуў усе затрачаныя грошы (нават атрымаў больш).

— Абдумваючы ідэі новых кніг і ажыццяўляючы іх, на якога чытача вы арыентуецеся?

— Я пішу кнігі для людзей, якія хочуць пачуць добры аповед. Не для вельмі інтэлектуальных чытачоў, якія, чытаючы, сочаць за граматыкай, стылем і лагічнасцю выкладання думкі, але для людзей, якія любяць прыгоды, умеюць і плакаць, і смяяцца разам з аўтарам.

— Ваш раман “Папулярная музыка з Вітулы” — сапраўдны бестселер у многіх краінах. Вы прадбачылі такі поспех, ці ўсё атрымалася зусім нечакана?

— Гэта было абсалютна непрадказальна. Першае выданне рамана выйшла накладам дзве тысячы асобнікаў. Гэта звычайны тыраж для Швецыі. Кніга нечакана пачала актыўна прадавацца, прытым, што не было ніякай рэкламы ні ў газетах, ні на тэлебачанні: проста людзі чыталі, ім падабалася, расказвалі сябрам… Першае выданне вельмі хутка разышлося, затым яшчэ дзве тысячы асобнікаў было надрукавана, потым яшчэ чатыры тысячы... За чатыры месяцы было прададзена больш як 15 тысяч копій рамана. Праз год у Швецыі, Фінляндыі і Нарвегіі людзі набылі 800 тысяч асобнікаў кнігі. Гэта, безумоўна, фантастычны поспех. Раман “Папулярная музыка з Вітулы” пачаў прадавацца ў іншых краінах, ён і зараз распаўсюджваецца па свеце. Ніхто не чакаў такога поспеху, я — тым больш. Пазней кнігу намінавалі на прэмію Аўгуста Стрындберга — найбольшую літаратурную прэмію Швецыі. І “Папулярная музыка…” выйграла гэтую прэстыжную ўзнагароду. Усё адбылося як у галівудскім фільме. Я атрымаў шмат грошай, шмат падарожнічаў... Але пасля было вельмі складана зноў пісаць. Цэлы год не пісаў, бо проста не меў вольнага часу.

— “Папулярная музыка з Вітулы” не так даўно выйшла ў перакладзе на беларускую мову. На вашую думку, яна спадабаецца беларускаму чытачу?

— Спадзяюся, што так. Падчас прэзентацыі я ўжо атрымаў шмат станоўчых водгукаў, але да канца быць упэўненым немагчыма. У многіх момантах Беларусь і Паяла (Паўночная Швецыя, дзе і адбываюцца дзеянні рамана) вельмі падобныя: прырода, клімат, лясы… Я шчаслівы, што кніга выйшла па-беларуску, мне прыемна мець тут новых чытачоў. Магчыма, пазней ад беларусаў я атрымаю больш водгукаў.

— Мікаэль, ці ёсць у вас кніга мары, тая, якую вы вельмі хацелі б напісаць?

— У мяне заўсёды шмат ідэй, маю ў думках доўгі спіс новых кніг. Але рэалізоўваць іх не спяшаюся, чакаю некалькі год да таго, як пачну пісаць. Працэс абдумвання можа заняць нават пяць год. У выпадку з “Папулярнай музыкай з Вітулы” дзесяць год прайшло ад ідэі да таго, як я напісаў яе. Хачу напісаць больш пра Турнедален, маю родную правінцыю, больш навуковай фантастыкі, больш міжнародных кніг, магчыма, калісьці напішу пра падарожжа ў Беларусь. Але я дакладна ведаю, што буду працягваць пісаць у розных стылях: для дарослых, падлеткаў, ствараць п’есы для тэатра. Мне падабаецца працаваць у розных жанрах. Бо калі пішу раман, вялікі празаічны тэкст 250 старонак, вельмі стамляюся, пасля некаторы час працую над п’есамі для тэатра, што весялей, потым зноў вяртаюся да прозы.

Гутарыла
Марына ВЕСЯЛУХА

Фота аўтара

Вітрына

# Некалькі аргументаў у абарону цэнтралізацыі

Бібліятэчны калектар знаходзіцца ў цэнтры Мінска на вуліцы Сурганава, 46. Створаная ў 1947 годзе з мэтай насычэння бібліятэчнага фонду літаратурнымі навінкамі, структура паспяхова працуе ў гэтым напрамку і сёння. З 1949 года — ужо ў сістэме кнігагандлю. Як рэспубліканская арганізацыя бібліятэчны калектар працаваў да 1957 года, пасля чаго сфера яго дзейнасці абмежавалася Мінскам і Мінскай вобласцю. Сёння гэта філіял кнігагандлёвага прадпрыемства “Белкніга”, які камплектуе яшчэ і хатнія, і офісныя бібліятэкі, інфармуе пра новыя паступленні, складае тэматычныя прайс-лісты, ажыццяўляе пошук кніг па замове, а таксама можа аказаць такую паслугу, як дастаўка кнігі поштай. Апошнія пяць гадоў бібліятэчны калектар наладжвае цесныя сувязі з бібліятэкамі ўсёй рэспублікі.

Не кожная кніга, якая ўбачыла свет, трапляе ў залу бібліятэчнага калектара. Па-за ўвагай бібліятэчных фондаў застаюцца зборнікі красвордаў, сканвордаў, размалёўкі і да т. п. Зялёнае святло дадуць найноўшым паступленням рознага жанру — слоўнікам і прыгодніцкім раманам, дэтэктывам і падручнікам. Да кожнай бібліятэкі ў супрацоўнікаў бібліятэчнага калектара індывідуальны падыход — навукова-тэхнічным нецікава тое, што зацікавіць, скажам, дзіцячую бібліятэку. Прапановы для іх камплектуюцца па-рознаму — бібкалектар прапануе менавіта тыя выданні, якія карыстаюцца попытам у чытачоў той ці іншай установы. Адзіны фактар, які стрымлівае павелічэнне заказаў, — тое, што кожная з бібліятэк мае дакладна вызначаны бюджэт на набыццё навінак. На пытанне, ці надоўга затрымліваюцца кнігі ў бібкалектары, дырэктар Алена Мянько адказвае: “Калі новая кніга трапляе ў бібкалектар, літаральна праз дзень-два інфармацыя аб ёй з’явіцца ў прайс-лісце і кожны тыдзень — на сайце bibkollektor.belkniga.by. Таваразнаўцы робяць адрасную рассылку прайсаў з улікам спецыфікі кожнай бібліятэкі. Таму ад нас кнігі разлятаюцца вельмі хутка. Бібліятэкам у першую чаргу патрэбны выданні бягучага года, і толькі ў тым выпадку, калі хтосьці прапусціў час камплектавання, можа заказаць кнігу мінулых гадоў. Мы дапаможам і ў дакамплектаванні старых фондаў, калі кнігі згубіліся ці сапсаваныя. Тады супрацоўнікі бібкалектара шукаюць у сетцы кнігарань “Белкніга” экзэмпляры, якія маглі захавацца. Нядаўна да нас звярнуліся сталічныя дзіцячыя бібліятэкі, яны склалі дакладны спіс кніг, якія хацелі б аднавіць у фондах, і нашы таваразнаўцы ахвотна дапамаглі выканаць заказ”.

Бібліятэчны калектар, як і ўсялякая гандлёвая арганізацыя, мае магчымасць устанаўліваць сістэму скідак, каб паспрыяць папаўненню бібліятэк. Алена Альфрэдаўна расказвае: “Пастаянна ўдзельнічаем у Мінскіх кніжных выстаўках. Таму маем магчымасць параўнаць нашы прапановы з маскоўскімі цэнамі — калі ў Расіі пэўныя кнігі ў пераліку на нашы грошы каштуюць у сярэднім 20 — 25 тысяч рублёў, то ў нас сярэдняя цана расійскіх выданняў, пастаўленых намі ў бібліятэкі, склала 13 — 15 тысяч. Трымаем сітуацыю за кошт таго, што ідзе пошук магчымых скідак. Вывучаем міжнародны вопыт кнігагандлю, калі прымаем удзел у “круглых сталах” кніжных кірмашоў. Падаўся цікавым вопыт Германіі: гандаль кнігай праз сістэму заказаў. У любым магазіне ці выдавецтве робіцца электронны заказ на патрэбную кнігу, выдавецтва “раскідвае” заказы па бліжэйшых да пакупніка выканаўцах, а ўжо яны непасрэдна дастаўляюць яе пакупніку. Паспяховасць гандлю залежыць ад вывучэння інтарэсаў патэнцыйных заказчыкаў”.

Бібліятэчны калектар трымае руку на пульсе часу. Вывучыўшы запыт бібліятэк на фармуляры чытачоў, карткі, журналы і да т. п., прааналізавалі: калі кожная бібліятэка будзе заказваць гэты асартымент, гэта будзе надта дарага. Цэнтралізавана зрабілі максімальна зручны тыраж і атрымалася ў чатыры разы танней.

Алена Альфрэдаўна падкрэслівае: “Гандаль праз бібліятэчны калектар выгадны для ўсіх – і для выдавецтваў, і для пакупнікоў. Зручна заключыць дагавор з намі, бо мы можам сабраць літаратуру і расійскіх, і беларускіх, і іншых выдавецтваў у адным месцы. Сістэма скідак дазволіць спрасціць насычэнне кніжнага фонду. Цэнтралізаваная прапанова пазбаўляе ад вялікай колькасці папер, якія трэба было б падпісаць, калі пакупнік вырашыць сам аб’ехаць кожнае выдавецтва і набываць кнігі менавіта там, дзе яны надрукаваны. А калі яшчэ падлічыць страты часу і транспартныя расходы, стане відавочна, наколькі лепей працаваць з намі”. Супрацоўнікі бібліятэчнага калектара рады ўсім пакупнікам, нават калі патрэбны ўсяго адзін экзэмпляр кнігі, цэнтралізаваная сістэма дастаўкі дае магчымасць далучыць яго да астатняй колькасці штодзённых заказаў. Можна нават звярнуцца сюды, як у звычайную краму, і набыць кніжку, калі дакладна ведаеш, што яна ёсць у наяўнасці.

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА



На здымку: дырэктар бібліятэчнага калектара Алена Мянько.

Фота Віктара Зайкоўскага

Прэзентацыя

# Творчым настаўнікам і дапытлівым вучням

Метадычная літаратура, выдадзеная апошнім часам, багатая (найперш у колькасным плане), але, на жаль, не заўсёды якасная. Намерыўшыся набыць дапаможнік для настаўніка або вучняў, часта трапляеш у "сіло" разгубленасці і расчараванасці — выбар вялікі, а, як ні парадаксальна, выбраць няма чаго. "Перлы" сучасных метадыстаў нярэдка здзіўляюць і ўражваюць.

Таму я і была асабліва ўзрадавана, убачыўшы на паліцах кнігарні дапаможнікі Л. К. Цітовай да факультатыўных заняткаў для настаўнікаў і вучняў "Браму скарбаў сваіх адчыняю…" (5 клас) і "Слова — радасць, слова — чары…" (6 клас). Папрацаваўшы колькі гадоў з Людмілай Канстанцінаўнай у Нацыянальным інстытуце адукацыі, аўтар рэцэнзіі з вялікай павагай і прыязнасцю ставіцца да вядомага ў Беларусі, вопытнага і адказнага метадыста, пад "патранатам" якога былі створаны, прайшлі экспертную ацэнку і апрабацыю на практыцы падручнікі па беларускай літаратуры для 5 і 6 класа адукацыйных устаноў.

Найперш кранулі душу назвы новых дапаможнікаў — лірычныя, узнёслыя, што адразу арыентуюць настаўнікаў і вучняў на творчы падыход да вывучэння мастацтва слова. Аднак за "лірыкай" загалоўкаў "хаваецца" глыбокі, метадычна і навукова выверены змест, грунтоўны падыход да прадмета навучання.

Так, дапаможнікі "Браму скарбаў сваіх адчыняю…" (для вучняў і настаўнікаў) несумненна паспрыяюць узнаўленню, паглыбленню і сістэматызацыі ведаў, уменняў і навыкаў, атрыманых пяцікласнікамі ў працэсе спасціжэння курса беларускай літаратуры, стануць штуршком для развіцця іх пазнавальнай актыўнасці і творчых здольнасцей, дапамогуць фарміраванню іх літаратурнай кампетэнцыі.

Асноўнае месца ў дапаможніках Л. К. Цітовай "Браму скарбаў сваіх адчыняю…" займае методыка навучання выразнаму чытанню на аснове творчага падыходу да работы з мастацкімі тэкстамі розных родаў і жанраў. На матэрыяле фальклорных і літаратурных твораў пяцікласнікі атрымаюць магчымасць не толькі паглыбіць веды, але і ўдасканаліць уменні выразнага чытання.

Факультатыўны курс для 5 класа складаецца з шасці тэм ("Роднае слова", "Вусная народная творчасць", "Казка — у жыцці падказка", "Прыроды вечная краса", "Жыццёвымі сцежкамі" і "Прыгоды"), у межах кожнай з іх змешчаны ўважліва адабраныя і дарэчныя творы, на матэрыяле якіх варта развіваць літаратурную і мастацкую творчасць вучняў (выразнае чытанне, творчы пераказ, інсцэніраванне, вуснае выказванне з абгрунтаваннем уласнай ацэнкі, вуснае сачыненне з элементамі разважання, ілюстраванне, калектыўнае складанне твораў і інш.). Тэматыка заняткаў распрацавана аўтарам паслядоўна, лагічна, дэталёва раскрыты змест кожнага раздзела і кожнай тэмы.

Дапаможнікі "Браму скарбаў сваіх адчыняю…" Л. К. Цітовай арыентуюць на комплекснае авалоданне літаратурным матэрыялам і выпрацоўку навыкаў выразнага чытання. Так, да прыкладу, вучням прапануюцца не толькі самі мастацкія тэксты, але і сістэма пытанняў і заданняў па іх аналізе. Настаўнікі-практыкі ведаюць, што навучанне выразнаму чытанню, асабліва паэтычных твораў, спалучаецца з іх аналізам і становіцца вынікам аналітычнай работы над творам, прыёмам, які на заключным этапе навучання спрыяе цэласнаму і больш глыбокаму пранікненню ў аўтарскую задуму.

Прапанаванае для ўвагі настаўнікаў выданне мае адначасова прапедэўтычны і апераджальны характар — вучні 7 класа ўжо будуць цалкам падрыхтаваны да работы на ўроках, прысвечаных выразнаму чытанню. Лагічным падсумаваннем факультатыўных заняткаў "Браму скарбаў сваіх адчыняю…" становіцца конкурс чытальнікаў, што можна прымеркаваць і да правядзення пазакласных мерапрыемстваў — да прыкладу, вечарын, сустрэч з пісьменнікамі.

Непасрэдным працягам факультатыўных заняткаў "Браму скарбаў сваіх адчыняю…" у 5 класе можа стаць вывучэнне наступнага тэматычнага блока — "Слова — радасць, слова — чары…" — у 6 класе. Новы факультатыўны курс таксама скіраваны на пашырэнне і сістэматызацыю ведаў, атрыманых шасцікласнікамі ў працэсе вывучэння асноўнага курса беларускай літаратуры, а таксама развіццё іх творчых здольнасцей, бо прадугледжвае комплекс спецыяльных заняткаў па развіцці эмацыянальнай сферы вучняў, аваладанню вопытам літаратурнай і мастацкай творчасці (праблемныя пытанні і заданні, вусныя паведамленні, замалёўкі і аповеды, пераказы розных відаў, сачыненні, водгукі, калектыўныя міні-даследаванні, літаратурна-музычныя кампазіцыі і сцэнарыі, вечарыны, інсцэніраванні і інш.).




У полі зроку аўтара ўжо знаходзіцца трошкі іншы аспект вывучэння слоўнага мастацтва — сістэма тэарэтычных паняццяў (вобразнасць, пластычнасць, эмацыянальная насычанасць мовы, гукавая інструментоўка вершаў, раскрыццё характараў герояў праз дыялогі, аўтарскія рэмаркі, лексіка-сінтаксічныя адметнасці мовы, алегарычная аснова твора і інш.), неабходных вучням для больш комплекснага спасціжэння мастацкіх твораў, і выкарыстанне іх на практыцы (!). Варта падкрэсліць, што ўвядзенне падобных паняццяў у змест вучэбнага матэрыялу з'яўляецца не аўтарскай самамэтай, а сродкам для развіцця і ўдасканалення вучнёўскіх навыкаў комплекснага аналізу твораў мастацтва слова, развіцця аналітычных, камунікатыўных і маўленчых здольнасцей.

Восем раздзелаў дапаможнікаў у лагічнай паслядоўнасці раскрываюць багацце і непаўторнасць роднага слова ("Слова прамаўляе…", "Слова заварожвае…", "Слова распавядае…", "Слова чаруе…", "Слова хвалюе…", "Слова ўражвае…", "Слова ўсміхаецца…"), яго ўсеабдымнасць, гнуткасць і бяздонную глыбіню ў перадачы розных фактаў і з'яў рэчаіснасці, аўтарскіх думак, перажыванняў. Як і ў папярэднім класе, вывучэнне факультатыўных заняткаў завяршаецца літаратурна-мастацкім праектам — конкурсам апавядальнікаў, які, безумоўна, дапаможа самавыявіцца вучням, раскрыць патэнцыйныя магчымасці і талент.

Несумненную дапамогу пяці- і шасцікласнікам у працэсе засваення праграмнага зместу факультатыўных заняткаў акажуць і кароткія слоўнікі літаратуразнаўчых тэрмінаў, змешчаныя ў дапаможніках для вучняў.

Яшчэ адным "плюсам" выданняў становіцца магчымасць іх выкарыстання непасрэдна на ўроках беларускай літаратуры ў 5 і 6 класах у якасці дадатковага матэрыялу (у плане супастаўлення і параўнання твораў слоўнага мастацтва) як умова больш глыбокага спасціжэння вучнямі таямніц творчасці.

Комплекснае выкарыстанне настаўнікамі падобных выданняў пры вывучэнні беларускай літаратуры вырашае дзве ўзаемазвязаныя задачы. З аднаго боку — спецыфічныя магчымасці мастацтва слова паспрыяюць паглыбленню цікавасці пяці- і шасцікласнікаў да літаратуры, шматбаковаму літаратурна-творчаму развіццю асобы школьніка, пашырэнню сферы яго духоўных патрабаванняў. З другога — адбудзецца пашырэнне на гэтай аснове агульных эстэтычных уяўленняў, ведаў вучняў, неабходных для фарміравання ў іх ідэйна-эстэтычных поглядаў, густаў, светаўспрымання.

Факт з'яўлення (нарэшце!) вучэбна-метадычнага комплексу для правядзення і арганізацыі факультатыўных заняткаў не можа не ўзрадаваць як вопытных, так і маладых настаўнікаў, бо ва ўмовах катастрафічнага часавага недахопу асабліва актуалізуецца неабходнасць у выданнях падобнага характару.

Ірына ГОЎЗІЧ

## Азбука Морзэ

● У выдавецтве "Беларусь" пабачыў свет фотаальбом "Полоцк. Из пепла столетий", што змяшчае тэкст на рускай і англійскай мовах. У альбоме сабраны здымкі, на якіх прадстаўлены ўсе значныя мясціны гэтага старажытнага горада.

— 18-19 лістапада ў Маскве пройдуць дзве ўсерасійскія канферэнцыі па праблемах падтрымкі і развіцця чытання: II Усерасійская навукова-практычная канферэнцыя "Бібліятэкі, выдавецтвы, кніжны гандаль і СМІ: уплыў на кола чытання" і IV Усерасійская канферэнцыя "Нацыянальная праграма падтрымкі і развіцця чытання: вынікі і перспектывы".

● У Ерэване прайшоў IV Форум перакладчыкаў і выдаўцоў краін СНД і Балтыі, удзельнікамі якога сталі больш як 130 спецыялістаў з 22 краін. У яго межах перакладчыкі і выдаўцы з розных краін вялі дыскусіі на тэму "Рычагі фінансавання і распаўсюджвання перакладной літаратуры". Форум праводзіўся пад эгідай Міністэрства культуры Арменіі, пры падтрымцы Бюро ЮНЕСКА ў Маскве і Міждзяржаўнага фонду гуманітарнага супрацоўніцтва дзяржаў-удзельніц СНД. У шматлікіх сустрэчах прымалі ўдзел паэт і перакладчык Юрый Сапажкоў і дырэктар выдавецтва "Мастацкая літаратура" Уладзіслаў Мачульскі.

— Прэзентацыя кнігі паэзіі "Наедине" кандыдата эканамічных навук Святланы Гаравенкі прайшла ў мінскім магазіне "Кніжны салон". На творчую вечарыну, густоўна аздобленую жывой музыкай, сабраліся калегі-навукоўцы, студэнты, аматары творчасці паэта і эканаміста.

● Пабачыў свет новы выпуск часопіса "Книжная индустрия". Тэма нумара — "Кнігагандлёвая лагістыка: стан і навацыі ў кіраванні транспартам, складам і продажамі ў розніцу". У лістападаўскім нумары "КИ", апроч інфармацыйна насычаных матэрыялаў традыцыйных рубрык, апублікаваны рэйтынгі продажаў за перыяд з 16 верасня да 15 кастрычніка па чатырох кірунках: забаўляльная літаратура для дарослых, дзелавая літаратура, адукацыя і навука.

— Сфарміраваны "доўгі спіс" прэміі "Общественная мысль", заснаванай Інстытутам грамадскага праектавання. Гэтая прэмія — першая ў Расіі літаратурная ўзнагарода, што прысуджаецца за кнігі, створаныя ў галіне грамадскіх навук. У 2010 годзе Інстытут грамадскага праектавання разгледзеў кнігі больш як дзвюх соцень аўтараў у якасці прэтэндэнтаў на атрыманне прэміі. Урачыстая цырымонія ўзнагароджання пераможцаў пройдзе 2 снежня ў межах міжнароднага кніжнага кірмашу "non/fiction№12".

● Па выніках апытання, што нядаўна было праведзена ў Вялікабрытаніі, асноўным фактарам, які натхняе дзяцей браць у рукі кнігу, з'яўляецца прыклад аднагодкаў, 46 працэнтаў апытаных хацелі б, каб бацькі чыталі разам з імі. У ходзе апытання стала таксама вядома, што кожны пяты з дзяцей не чытае кніг "амаль ніколі", а кожны трэці робіць гэта "час ад часу". Кожны дваццаты апытаны ніколі ў жыцці не чытаў кніг.

— 13 лістапада інфармацыйна-прававое агенцтва "Рэгістр", якое зараз пасяхова працуе ў галіне выдання дзелавой і мастацкай літаратуры, адзначае 20-годдзе дзейнасці. Віншуем калег з юбілеем і жадаем творчага плёну.

Падрыхтавала Чэслава ПАЛУЯН

# Ад першых крокаў у краіну літар

Відаць, няма ў Беларусі такога чалавека, які б не быў удзячны выдавецтву "Народная асвета". Бо яго выданні — падручнікі, дапаможнікі, зборнікі задач, вучэбна-метадычныя комплексы па навучанні граматыцы, рускай мове, гісторыі, грамадазнаўству, геаграфіі, матэматыцы, інфарматыцы, фізіцы, хіміі, біялогіі і іншых прадметах, што ўваходзяць у школьную праграму, траплялі ў рукі кожнаму беларускаму вучню. А яшчэ на рахунку выдавецтва — неабходныя для арганізацыі вучэбнага працэсу дыдактычныя матэрыялы, тэсты, алімпіядныя заданні, рабочыя сшыткі. І, безумоўна, слоўнікі, якімі ахвотна карыстаюцца не толькі школьнікі, але і абітурыенты, — "Экалагічны слоўнік", "Літаратуразнаўчы слоўнік: тэрміны і паняцці", "Биология: термины и понятия" ды іншыя. "Слоўнік сучаснай беларускай мовы", выдадзены ў 2010 годзе, адлюстроўвае істотныя змены, што адбыліся ў лексічным складзе і сістэме слова- і формаўтварэння на мяжы другога і трэцяга тысячагоддзяў, і закліканы спрасціць пераход вучняў да правапісу згодна з новымі правіламі беларускай арфаграфіі і пунктуацыі.

Шматгадовы вопыт працы ("Народная асвета" створана ў 1951 годзе) з такога кшталту літаратурай дазваляе выдавецтву пастаянна займаць прызавыя месцы ў Нацыянальным конкурсе "Мастацтва кнігі". Напрыклад, у гэтым годзе ў намінацыі "Лепшы падручнік" адзначана "Фізіка. 7 клас".

Выдавецтва "Народная асвета" цесна супрацоўнічае з Нацыянальным інстытутам адукацыі. Многія вучэбна-метадычныя комплексы распрацаваны аўтарамі гэтай установы. Супрацоўніцтва ідзе і ў міжнародным маштабе: так, у выдавецтве ўбачыў свет падручнік "Биология", створаны вядучымі нямецкімі спецыялістамі ў галіне школьнай адукацыі К. Пеўз-Хоке і Э. Цабель. Падручнік адаптаваны для нашых школ кандыдатам біялагічных навук Н. Д. Лісавым, складаецца з трох частак і разлічаны на тры гады навучання.

Штогод пад маркай выдавецтва ствараецца каля 200 кніг. Мэта дзейнасці — насычэнне вучэбнага працэсу патрэбнай літаратурай, вектар прыкладання сіл — ад першых крокаў у краіну літар да грунтоўных ведаў.

Для настаўнікаў, якія працуюць у агульнаадукацыйных установах з беларускай мовай навучання, Анатоль Клышка напісаў кнігу "Буквар: старонкі і ўрокі", для рускамоўных — "Букварь: страницы и уроки", Аляксей Якімовіч — "Алфавіт ад А да Я" і склаў "Творческую азбуку" (зборнік загадак, казак-гульняў, вершаў).

Паруплівіся супрацоўнікі выдавецтва і пра самых маленькіх чытачоў. Для дашкольнікаў і малодшых школьнікаў прапанавалі такія кніжкі, як зборнік загадак "Сіні матылёк", зборнік вершаў, лічылак, скорагаворак "Першае падарожжа". У літаратурнай апрацоўцы Анатоля Клышкі выйшлі "Беларускія народныя казкі: Расказваў неяк Міхалка з Данеяк".




Не абмінуў сваёй увагай калектыў выдавецтва і такія істотныя моманты, як выхаванне экалагічнай свядомасці. Распрацаваная некалькі гадоў таму серыя "Рассказы Деда Природоведа" для малодшых школьнікаў карыстаецца асаблівай папулярнасцю ў беларускіх пакупнікоў. Сяргей і Галіна Трафімавы — аўтары, якія пашчыравалі над яе стварэннем, у "Народнай асвеце" выдалі таксама аповеды пра расліны і жывёл, якія занесены ў Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь — "Они не должны исчезнуть". У сааўтарстве з Вольгай Скрабцовай імі створаны яшчэ адзін не менш важны дапаможнік — "Азбука юного пешехода".

Хочацца адзначыць серыю дапаможнікаў для факультатыўных заняткаў па рускай мове, заснаваную ў гэтым годзе. Яна прызначана аднавіць у грамадстве веды па культуры маўлення і сучаснай рыторыцы, стварыць базу для далейшай паспяховай дзейнасці моладзі — грамадскай, навуковай, творчай. Кнігі "Современная риторика: основы речевого общения", "Функциональная стилистика русского языка", "Культура речи" для вучняў і настаўнікаў зацікавяць многіх, хто з пашанай ставіцца да слова.

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

# Следить за здоровьем — модно

ООО "Харвест", кроме огромного количества художественной литературы, книг по истории, философии, альбомов по искусству, предлагает широкий выбор как профессиональной, так и "просветительской" (для неспециалистов) профильной литературы: по экономике, компьютерам и программированию, юриспруденции. Сегодня вниманию читателей "Кніжнага свету" мы представляем пособия и справочники по медицине, предназначенные для практикующих врачей и медработников, а также для тех, кто следит за своим здоровьем.




## Сорок лет против кариеса

По данным Всемирной организации здравоохранения, почти 90 процентов населения земного шара страдает кариесом зубов, чреватым различными осложнениями, — пульпитами, воспалительными процессами в периодонте, которые могут распространиться на костную ткань челюсти, костный мозг, мягкие ткани полости рта, лица, шеи.

И хотя причина заболевания до сих пор не выявлена, разработано много успешных методов его лечения. О методах лечения околоверхушечных воспалительных явлений в книге "Стоматология. Как лечить зубы" рассказывает доктор Иван Беляев, имеющий сорокалетний опыт работы в поликлинических условиях.

За время работы в терапевтической стоматологии кандидат медицинских наук И.Б. Беляев впервые в мире успешно начал неоперативное лечение радикулярных кист многокорневых зубов, одонтогенной интоксикации, одонтогенного гайморита, остеомиелита зубного происхождения и одонтогенной гранулёмы мягких тканей.

Подробно анализируя различные случаи осложнённых заболеваний, автор приводит весомые аргументы в пользу лечения данных патологий с помощью жидкого фосфатцемента при использовании каналонаполнителя без предварительного раскрытия верхушечных отверстий.




## Будущее нации с точки зрения детских неврологов

В сборник "Проблемы детской неврологии" (Международный рецензируемый сборник научных трудов, посвящённый 75-летию Белорусской медицинской академии последипломного образования и 25-летию кафедры детской неврологии / под ред. Г. Я. Хулупа, Г. Г. Шанько) вошли труды врачей Беларуси, Украины, России, посвятивших свою жизнь детской неврологии: неврологов, нейроинфекционистов, реабилитологов, генетиков, вирусологов, иглотерапевтов и патоморфологов. Детская неврология — раздел медицины, охватывающий самый важный период формирования подрастающего поколения, — от рождения до совершеннолетия. И качество оказанной медицинской помощи непосредственно влияет не только на его здоровье, но и на способность овладевать знаниями. Основными целями совершенствования неврологической помощи являются: сохранение и улучшение здоровья детей и подростков, имеющих неврологические отклонения, сокращение прямых и косвенных потерь общества путём снижения заболеваемости и инвалидности неврологического профиля у данной категории, повышение эффективности диагностики и лечения за счёт использования ресурсов здравоохранения.

В сборнике подробно анализируются различные аспекты лечения и диагностики, рассматриваются вопросы генетики и т.п.




## Здоровье женщины — здоровье общества

Практическим врачам — акушерам-гинекологам, перинатологам, анестезиологам, а также студентам старших курсов медицинских вузов рекомендована книга "Гинекология. Современный справочник" (под общ. ред. доктора медицинских наук Л. А. Суслопарова). Справочник написан ведущими специалистами Санкт-Петербурга в данной области. Его авторы — сотрудники Санкт-Петербургской государственной медицинской академии им. И. И. Мечникова: зав. кафедрой акушерства, гинекологии и перинатологии Н. А. Татарова (основные направления научно-практической деятельности посвящены эндокринологии, невынашиванию беременности, вспомогательным репродуктивным технологиям в гинекологии), доктор медицинских наук В. В. Ветров (автор раздела по эфферентной терапии и аутодонорству), доценты Л. П. Жибура, Н. В. Даргомай, В. А. Лукин и многие другие.

Задача, которую поставили перед собой создатели данной книги, — не только дать основные представления по этиологии и патогенезу заболеваний, но и вооружить врачей общей практики достаточными знаниями по клинике, диагностике, профилактике гинекологических заболеваний, а также сведениями об основных, наиболее доступных в амбулаторных и госпитальных условиях методах лечения.




## Для успешной рентгенодиагностики

Рентгенологический метод диагностики широко применяется в медицинской практике. Успех рентгенодиагностики в первую очередь зависит от профессионализма рентгенолаборанта и врача-рентгенолога. Для правильной ориентировки врача и рентгенолаборанта, а также для быстрейшего решения поставленных перед ними задач важно всегда иметь под рукой справочное пособие. Такие справочники были выпущены в 1980, 1989, 1996 гг. Они были быстро реализованы и стали библиографической редкостью, что свидетельствует о потребности в литературе такого рода.

В новом "Справочнике врача-рентгенолога и рентгенолаборанта" профессора, доктора медицинских наук Анатолия Михайлова обобщены отечественные и зарубежные литературные данные за последнее десятилетие, в него включены и результаты собственных исследований автора. В "Справочнике" освещаются вопросы рентгенотехники, фотолабораторного процесса, основных укладок, радиационной защиты, а также рентгеносемиотики и рентгенодиагностики наиболее распространённых заболеваний человека.

Несомненным достоинством справочника является и то, что он построен с учётом Международной классификации болезней 10-го пересмотра (МКБ-10), которая была принята в 1990 г. 43-й сессией Всемирной ассамблеи здравоохранения.

В отличие от прошлых изданий, в данной книге введена алфавитно-цифровая кодовая система, что облегчает единый подход врачей всех специальностей к основному диагнозу. В нём учтены и изменения, прошедшие после прошлых изданий в рентгеновском аппаратостроении, пожелания учёных и врачей-практиков.




## Действия в ургентных ситуациях

Книга, посвящённая оказанию неотложной медицинской помощи, актуальна для любого медицинского работника. В ургентных ситуациях требуются немедленные и точные действия, предпринимать которые приходится в любых условиях: в квартире больного, в транспроте, на улице. Зачастую от этих решений зависят успех дальнейшего лечения, здоровье и жизнь больного. Задача "Справочника по неотложной медицинской помощи" — вооружить медицинского работника необходимым минимумом знаний по основным патологическим состояниям, требующим неотложной помощи.

Как и всякое руководство справочного характера, книга не претендует на исчерпывающее изложение этиологии, патогенеза и особенностей клинического течения рассматриваемых заболеваний. Авторы стремились в первую очередь выделить основные диагностические признаки, которые позволяют заподозрить патологическое состояние, имеющее черты "неотложности", отличить его от сходных по клинической картине заболеваний и определить необходимую тактику ведения больного.

В каждой главе указаны не только все применяемые методы неотложной терапии, но и рациональная последовательность действий медицинского персонала. Приведённый полный объём необходимых терапевтических мероприятий рассчитан и на врачебный, и на средний медицинский персонал.




## Домашние энциклопедии здоровья

Читатели книги Т. Б. Фадеевой "Медицинская энциклопедия: Профилактика, лечение самых распространённых заболеваний" получили в своё распоряжение своего рода домашнюю энциклопедию здоровья. В ней можно найти ответы на множество вопросов, которые часто волнуют людей: что такое аллергия и как ей противостоять, какие лекарства должны быть в домашней аптечке, как лучше справиться с бессонницей?..

Справочник поможет вовремя распознать опасную болезнь, грамотно оказать первую помощь, своевременно обратиться к нужному специалисту, научит правильно принимать лекарства. Кроме традиционных методов, в нём даны и общие характеристики альтернативных методик лечения (натуропатия, гомеопатия, акупунктура, остеопатия), которые в последнее время завоёвывают всё больше и больше сторонников.

В книге подробно описано, как поставить компресс и банки, правильно наложить повязку, сделать укол, измерить пульс и давление, сменить бельё тяжелобольному и осуществить множество лечебных процедур в домашних условиях. При этом автор сборника предупреждает, что книга не может заменить консультацию квалифицированного врача и не предназначена для того, чтобы в его отсутствие ставить диагноз и назначать лечение. В то же время понимание своего состояния, осведомлённость о болезни (которое можно почерпнуть из справочника) будут способствовать мобилизации духовных и физических сил для противостояния недугу, а обширные сведения по профилактике помогут избежать многих болезней.




Ещё одна книга для тех, кто заботится о своём здоровье, кто хочет лучше понять и правильно выполнять рекомендации лечащего врача — "Домашняя медицинская энциклопедия". Она содержит описание симптомов наиболее распространённых заболеваний, современных методов лечения и профилактики, советы по правильному питанию и организации занятий лечебной физкультурой, рецепты народной медицины.

Материал в "Энциклопедии" излагается простым, понятным языком, в ней даётся не только информация о болезнях, но и основные сведения об устройстве и функционировании человеческого организма, органах и системах органов. Особенно полезным для читателя может стать приложение "Как понять результаты анализов", которое поможет немного понять значение цифр, написанных на бланках результатов анализов. В нём авторы дают основную информацию о том, из чего состоит кровь, в чём разница между клиническим, биохимическим и анализами крови на антигены и антитела, приведены нормы содержания форменных элементов в крови.

Ольга ПАВЛЮЧЕНКО,
Юзефа ВОЛК

Белыя плямы гісторыі

# Годна прадставіць мінуўшчыну



Мастацкую канцэпцыю значных гістарычных кніг, што цягам апошніх год пабачылі свет у беларускіх выдавецтвах (трохтомная "Энцыклапедыя ВКЛ" (БелЭН, 2005 — 2010), манаграфія Юрыя Бохана "Вааяры Грунвальдскай бітвы" (Беларусь, 2010) і іншыя выданні), распрацаваў дызайнер Зміцер Герасімовіч. У гутарцы з карэспандэнтам "Кніжнага свету" спадар Зміцер разважае пра асаблівасці працы з гістарычнай іканаграфіяй, расказвае пра свае творчыя здабыткі і дзеліцца планамі, задумкамі выданняў, якія рыхтуюцца да друку.



## Шлях да гістарычнай кнігі

— Мая адукацыя дазваляе працаваць як канструктарам, так і ілюстратарам кнігі. Яшчэ ў час вучобы і першых год працы дакладна не ведаў, у якім кірунку хацеў бы развівацца. У Львоўскім паліграфічным інстытуце (цяпер паліграфічная акадэмія) нас вучылі працаваць з рознымі кнігамі, з выкарыстаннем розных падыходаў, прыкладамі ж былі выданні са складаной структурай. Акрамя гэтага мы сур'ёзна вывучалі гісторыю матэрыяльнай культуры: кнігі, архітэктуру, касцюмы, транспарт. Падчас вучобы я маральна рыхтаваўся да стварэння ўласных ілюстрацый — па сутнасці станковых твораў, але звязаных з тэмай выдання. У такой ілюстрацыі можна паказаць сваю філасофію, самому сфармуляваць гістарычную канцэпцыю. Так атрымалася, што ў Беларусі, калі я сюды вярнуўся пасля працы ў Польшчы і Германіі, гістарычная кніга была ў дастаткова складаным становішчы. У той жа час менавіта гістарычная кніга мне цікавая. Складана сказаць чаму, бо пачынаў я з іншых кніжак. Першымі працамі былі буклеты, каталогі, часопісы, рэкламная прадукцыя, імі я нават сур'ёзна не займаўся. Але неяк справіўшыся з адной гістарычнай кнігай, рабіў другую, трэцюю… І ўсё добра атрымлівалася. Напэўна, гістарычная кніжка мяне перш за ўсё прываблівае складанасцю, цяжкасцямі, абумоўленымі тэмай.

## Цяжкасці працы

— Не ўсе мастакі бачаць неабходнасць глыбокага валодання гістарычным матэрыялам, фактурай, інфармацыяй, іканаграфіяй, якая павінна быць прадстаўлена ў прадукце. Вядомая кніга "Краіна Беларусь" рабілася даволі лёгка. Да яе я ўжо стварыў значную колькасць прац на гістарычную тэму. З цягам часу стаў больш адказна ставіцца да праектаў, бо ўжо маю вялікія напрацоўкі, валодаю інфармацыяй, а яна не так проста здабываецца, таму і бяруся за складаныя гістарычныя кнігі. У думках — шмат праектаў, але не маю магчымасці рэалізаваць вялікую іх колькасць: такія кнігі патрабуюць шмат энергіі і часу, таму, на жаль, раблю іх марудна.



Новы ілюстратыўны матэрыял, які так хочацца ўводзіць у гістарычныя кнігі, вымагае верыфікацыі і ўдакладнення. Я ўжо ведаю немалую частку гістарычнай іканаграфіі і часам заўважаю, што не ўсе ілюстрацыі інтэрпрэтуюцца аднолькава граматна, карэкт-



на падпісваюцца, і, здараецца, нават фальсіфікуюцца з мэтай стварэння сенсацый. Таму я мушу вывучаць тэму, і кожную кнігу, якую афармляю, абавязкова чытаю. Нароўні з аўтарам, з'яўляюся стваральнікам кнігі, але любым выпадку працую не адзін. У працы дапамагаюць гісторыкі, супрацоўнікі музеяў, прыватныя калекцыянеры (за што ім вялікі дзякуй). Часам у прыватных калекцыях можна знайсці лепшую і цікавейшую іканаграфію, артэфакты, чым у музеях.

## Адбор ілюстрацыі: прынцыпы і падыходы

— Я літаральна з'яўляюся ілюстратарам, але карыстаюся не пэндзлем ці іншым інструментам, а ўжо гатовай выявай. Яна неабавязкова павінна дакладна ілюстраваць тэкст, але мусіць перш за ўсё адпавядаць кантэксту. Кожная выява, змешчаная ў кнізе — для мяне не проста малюнак, якім можна яе аздобіць, але самастойная ілюстрацыя, якая і сама па сабе павінна быць цікавай. Заўсёды выбіраю найлепшы па якасці і найцікавейшы з пункта гледжання суаднесенасці з тэкстам матэрыял. У гістарычных кнігах стараюся падаваць ілюстрацыю (фота, мастацкі твор), зробленую непасрэдна з арыгінала: каб быў бачны колер аркадак, друк, алей, атрамант, для таго, каб адчувалася эпоха.

Вялікай увагі патрабуе якасць выявы, яе спалучэнне з фарматам кнігі, канцэпцыяй. Важна, каб усё было вырашана ў кантэксце пастаўленай мэты, каб канцэптуальнасць прысутнічала ў любой з задумак. Ілюстрацыі ж для гістарычных, асабліва новых гістарычных кніг, у якіх хочацца прадставіць сенсацыйны матэрыял, праходзяць доўгія стадыі пошуку, праверкі, і гэты працэс немагчыма ацаніць часам або грашыма.

## Канцэпт кнігі

— Гэта — важны складнік. Хай кніга будзе проста тэкставай, але нават у адлюстраванні тэксту яна павінна быць канцэптуальнай, створаной так, каб і гэтае на першы погляд "сумнае" выданне было цікава чытаць. Рабіць не проста кнігу дзеля кнігі, а каб яна, яшчэ стоячы на паліцы ў кнігарні, канкуравала з іншымі выданнямі, якія могуць быць не менш прывабнымі. Але тэмаю, сваёй ідэяй, наша кніга мусіць ад іх адрозніваца і добра прадавацца.

Кнігі бываюць розныя: ілюстратыўныя, альбомныя, тэкставыя і нават кнігі-цацкі. Калі ж у свядомасці мастака не сфармулявана гэтае ад-

розненне, то і на кнізе гэта таксама адбіваецца. У нашай жа сітуацыі даводзіцца часам бачыць сінтэз часопіса ці рэкламнага буклета з кнігай, што даволі непрыгожа. Без дакладнай пастаноўкі мэты немагчымая яе рэалізацыя.

## Беларусь ці ВКЛ?

— Ужо завяршаецца праца над кнігай "Краіна Беларусь — Вялікае Княства Літоўскае". Над гэтым выданнем я працую ўжо пяты год: тут пададзена нямала новых ілюстрацый, якія даводзілася здабываць у розных дзяржавах. У кнізе мы разам з Уладзімірам Арловым, аўтарам тэксту, уздымаем аспект ВКЛ на беларускіх землях крыху па-іншаму. Мы пішам і пра падзеі, што адбываліся пасля падзелаў Рэчы Паспалітай, нават да Другой сусветнай вайны.

Ідэал для такой кнігі — багата ілюстраванае выданне, без жорсткага модуля, але складана структураванае. Галоўнае, каб кожны разгорт быў цікавы, таму нават візуальны спосаб яго падачы можа быць розным. У іншых гістарычных кніжках, магчыма, такі падыход не варта выкарыстоўваць.

Гутарыла
Марына ВЕСЯЛУХА

На здымках: вокладкі кніг, над дызайнам якіх працаваў Зміцер Герасімовіч.

Пад вокладкай











1. Танк, М. Збор твораў у 13 т. Т. 10. Дзённікі (1960-1994) / Максім Танк. — Мінск: Беларуская навука, 2010. — 919 с.

10-ы том збору твораў Максіма Танка склалі дзённікі паэта, напісаныя ў 1960-1994 гг. Над падрыхтоўкай тэксту (на аснове іх машынапіснага і рукапіснага варыянтаў) і каментарамі працавалі знаныя беларускія навукоўцы: У. Казбярук, А. Бразгуноў, А. Шакун. Ва ўступным артыкуле Святланы Калядкі прыводзяцца неапублікаваныя ў часопісе "Полымя" дзённікавыя запісы паэта, якія ён рабіў у чарнавых сшытках з вершамі.

2. Мятліцкі, М.М. На беразе маім / Мікола Мятліцкі; прадм. У. Гніламёдава. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2010. — 294 с.

"Паэзія Міколы Мятліцкага — вельмі прыкметная і арыгінальная з'ява сучаснай беларускай літаратуры, якая ў лепшай сваёй частцы не парвала з нацыянальнымі традыцыямі, не кінулася ў бесшабашны авангардызм, не ўсумнілася ў чалавечай дабрыні, у высокіх маральных каштоўнасцях і духоўных ісцінах", — піша ў прадмове да кнігі акадэмік НАН Беларусі Уладзімір Гніламёдаў. Новы зборнік вершаў Міколы Міхайлавіча — аб тым духоўным апірышчы, якое ўраўнаважыла боль і смутак душы, дало магчымасць спатоліць сэрца фарбамі дзівоснай прыроды, памяццю значных гістарычных падзей і паўсядзённасцю жыццёвых чалавечых турбот.

3. Логінава, Т.У. Таямніца паэзіі і загадка прозы: 7-ы клас: дапаможнік для настаўнікаў / Т. У. Логінава, Т.І. Мароз. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2010 — 72 с.

Асаблівасцю арганізацыі матэрыялу для вывучэння на ўроках літаратуры ў 7-м класе з'яўляецца паралельны разгляд двух асноўных відаў мастацкай творчасці — паэзіі і прозы. Праз яго павінна адбывацца спасцікэнне законаў функцыянавання мастацкага твора. Прапанаваны факультатыўны курс, пры цесным узаемадзеянні з урокамі беларускай літаратуры, зможа пашырыць матэрыял падручніка займальнай інфармацыяй, скіруе навучэнцаў на творчую, пошукавую дзейнасць, а настаўніка ўзброіць новымі падыходамі да разгляду вучэбных твораў і метадамі працы на ўроку.

4. Чаропко, В. Великий князь Витовт / Виктор Чаропко. — Минск: ФУАинформ, 2010. — 80 с.

У чарговай кнізе серыі "Слаўнае імя", што выйшла да 600-годдзя Грунвальдскай бітвы, расказваецца пра вялікага князя Вітаўта. Багата ілюстраванае выданне змяшчае нарыс жыцця гэтага выдатнага кіраўніка Літоўскай дзяржавы, а таксама энцыклапедычную інфармацыю па гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Кніга адрасуецца ўсім зацікаўленым у вывучэнні беларускай мінуўшчыны.

5. Бегбедер, Ф. Французский роман / Фредерик Бегбедер; пер. с фр. Е. Головиной. — Москва: Иностранка, 2010. — 320 с.

У аснову рамана лягла рэальная гісторыя з жыцця аўтара, які, трапіўшы на некаторы час у турму, аказаўся ў роспачы. І раптам, выплываючы з глыбіняў памяці, перад ім узнікаюць успаміны дзяцінства і юнацтва, зрочныя сцэны камеры становяцца незаўважнымі, а перад вачыма адна за другой з'яўляюцца карціны мінулага, эпізоды з гісторыі сям'і… "Французскі раман" Ф. Бегбедэра, непадобны да іншых твораў пісьменніка, выклікаў шырокую дыскусію ў прэсе, а яго несумненныя літаратурныя вартасці былі адзначаны прэстыжнай прэміяй Рэнадо ў 2009 годзе.

З кнігамі знаёміла
Марына ВЕСЯЛУХА

Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by

Кнігі для агляду прадастаўлены магазінам "Кніжны салон". Тэл. 385-60-89

# Спакуса і расплата



Васіль ГІГЕВІЧ

## Урывак з міфа «Страчанае шчасце»

У міфе “Страчанае шчасце” на аснове гістарычнага матэрыялу пра жыццё першабытнага чалавека мне хацелася паказаць праблему дуалізму мышлення чалавека сучаснага. З аднаго боку, сённяшняе грамадства мае матэрыялістычныя погляды на свет, а з другога — мы назіраем рост веруючых… Парадаксальнасць сітуацыі выклікае не толькі навуковыя спрэчкі, але, як думаецца, і ўносіць некаторы разлад у наш акрэслены светапогляд і адладжаную сістэму духоўных каштоўнасцей.

Цалкам твор будзе надрукаваны ў бліжэйшых нумарах часопіса “Полымя”.

Аўтар

З разбегу, нічога не ўцяміўшы, вепр наляцеў на крэмніевы канец дзіды. У спробе разарваць блізкую белую істоту ён нават прыпадняўся на заднія ногі і гэтым яшчэ глыбей загнаў у цела востры канец. І толькі адчуўшы пякучы боль, які пранізаў цела, вепр пра ўсё здагадаўся, ды, як гэта часта бывае, здагадка ягоная не прынесла паратунку... Вепр заваліўся на бок і, спрабуючы вызваліцца ад пякучага болю, задрыгаў нагамі...

— Бі яго... Бі па галаве, — закрычаў Ран сябрам.

Тыя падскочылі да вепра. Удары пасыпаліся на яго — дубінаю, каменнай сякерай.

Вяпрыха, угледзеўшы пабоішча, тут жа павярнулася і панеслася ўглыб балота. Следам за ёю шухнулі паласатыя вепручкі.

Ран выцягнуў дзіду з цела вепра і зноўку ўваткнуў вастрыём у тое ж самае месца. Па словах бывалых паляўнічых, Ран ведаў, што вепр надта жывучы, бывалі выпадкі, калі, здавалася, забіты звер нечакана ўскокваў на ногі і, скалечыўшы паляўнічых, збягаў ад іх.

Як і звычайна падчас палявання, паляўнічых прабіралі дрыжыкі, бо яны кожны міг адчувалі тую няўлоўную жахлівую мяжу, апынуўшыся за якой, не маглі вярнуцца назад...

Папрасіўшы ў вепра прабачэння за тое, што яны забілі яго, паляўнічыя пачалі рыхтавацца да вячэры.

Тушу вепра яны не маглі падняць і аднесці на сухое месца. Але заставацца ў балоце паляўнічыя таксама не маглі, — куслівыя камары ўжо цяпер з дзумканнем віліся над іх мокрымі ад поту целамі.

Сонца схавалася.

Узяўшы лепшыя і смачнейшыя кавалкі мяса, паляўнічыя пайшлі назад, на ўзвышша, дзе раслі сосны і елкі.

Яны не шкадавалі пакінутага мяса, — ведалі, што яно не прападзе. Ужо ноччу, бліскаючы белымі агністымі вачыма, да мяса прыбягуць згаладнелыя ваўкі, якія тонкім нюхам учуюць спажыву. Следам за імі паявяцца рыжыя хітрыя лісіцы, якія, кружачы ля ваўкоў, будуць цярпліва чакаць пачастунку. Але ўсіх можа разагнаць мядзведзь, — валюхаючыся з задніх ног на пярэднія, ён, унюхаўшы салодкі пах, прыбяжыць здалёку і рашуча адгоніць ад мяса і ваўкоў, і лісіц. Толькі ён ніяк не зможа справіцца з мурашамі і казюркамі, якім гэтаксама захочацца паласавацца слодыччу. А раніцаю да белых костак з хрыплаватым карканнем злятуцца шэрыя вароны. Яны тут жа пачнуць выдзёўбваць кавалачкі мяса з костак і, падскокваючы, налятаючы адна на адну, будуць крыкліва сварыцца між сабою. І трашчотка-сарока заявіцца тут як тут, — гаротніца, засакоча, зачачэкае, што спазнілася: “Чачэ-чачэ.... Чачэ-чачэ...”

І ўсе яны — і звяры, і птушкі, і мурашы будуць удзячныя адважным паляўнічым за салодкую спажыву. Нічога тут, на зямлі, не знікала і не прападала, бо Той, які жыў наверсе і які назіраў за парадкам, пра ўсіх аднолькава клапаціўся і ўсіх пароўну апекаваў.

Нядаўна чыстае неба, усеянае рэдкімі аблачынамі, усё больш і больш гусцела, наліваючыся сінечаю. Вось-вось павінны былі паказацца вочы Таго ўсемагутнага, які жыў наверсе. Унізе між дрэвамі было ўжо зусім змрочна, і пагэтаму Ран наважыўся вызваліць з сухіх палачак агонь, які, як і заўсягды, мог суцішыць і развесяліць людзей.

Пад высокай разлапістай елкаю было суха, як у будане. Тут паляўнічыя вырашылі начаваць.

Ран усё зрабіў, як вучыла Вая: цёр палачкі, асцярожна перадаваў жарынкам свой дух. Нарэшце агонь ухапіўся за сухі мох, пераскочыў на гліцу і, паядаючы яе, адразу ж пачаў радасна патрэскваць: трэсь-трэсь, трэсь-трэсь...

Крэмніевым скрабком паляўнічыя нарэзалі невялікія кавалачкі мяса і, насадзіўшы іх на бярозавыя пруткі, падсунулі агню новую спажыву. Агонь сквапна аблізваў мяса. Калі ж яно пачынала шыпець і сквірчэць, паляўнічыя адхоплівалі яго ад агню.

Яны елі мяккае салодкае мяса і, як гэта часта бывае пасля жахлівых перажытых прыгод, паляўнічыя чамусьці гучна смяяліся. Цяпер многае з таго, што нядаўна было жахлівым, здавалася смешным. І той жа мамант, які нядаўна ледзьве не раздушыў іх сваім гнуткім носам, цяпер быў смешны — чамусьці паляўнічых смяшыў кароткі валасаты хвост, яны часта ўспаміналі тыя імгненні, калі мамант, падцяўшы хвост, хістаючыся, ішоў ад іх да лесу. І той жа вепр здаваўся смешным, калі ні пра што не думаючы, у злосці сваёй спадзяваўся лёгка загубіць чалавека і зусім не заўважыў дзіды...

Кожны паляўнічы цяпер, калі весела смяяўся, адчуваў сябе ўладаром нечага. І не свету навакольнага, не ўладаром звяроў, — не, яны цяпер уладарылі нечым іншым, імі да канца не спазнаным і не асэнсаваным...

Удосталь насмяяўшыся, Му і Галу хутка заснулі. Ран пачаў глядзець у вочы Таго, які жыў наверсе.

Зусім сцямнела. Як часта бывае з людзьмі ў цемені, цела Рана поўнілася незразумелай сцішанасцю.

Кугукнула ўдалечыні нябачная сава. Асветлены агнём, блізка ля елкі матлянуў у паветры кажан, і дзіўна было, як мог ён у цемені ўсё бачыць. У траве ля елкі хтосьці з шамаценнем прабег.

Мо гэта быў вожык?

А мо — мыш уцякала ад раз’ятранай гадзюкі?

А мо гэта ён паявіўся, — выскачыў з любімага топкага балота і з шорганнем, ломячы вецце на кустах і дрэвах, прымчаўся і цяпер пільнымі круглымі вочкамі ўзіраўся, хто ж гэта асмеліўся паявіцца ля ягоных уладанняў? У цемры яго цяжка разгледзець, але Ран, як і людзі ўсяго роду, ведаў, які ён: сярэдняга росту, увесь пакрыты чорнай густой поўсцю, ён бегае па зямлі на задніх тонкіх, як у казы, ножках, у яго ёсцека калматы доўгі хвост, невялічкія, але затое чэпкія кіпцюрастыя пальцы на тонкіх ручках. Галава ягоная як у казы, з вострымі белымі рожкамі над вушкамі, а нос — як у вепра.

І ўсё ў яго да ладу: махаючы хвастом, ён можа падымацца над зямлёю і лётаць між сосен і елак, сваімі капыткамі ён грукоча і палохае дзяцей, вострымі рожкамі і хвастом ува сне ён казыча маладых дзяўчат, ад чаго яны ўскрыкваюць, саромеючыся ягоных брыдкіх настырных дамаганняў.

Ён і ад дарослых не адступаецца, — глухімі начамі ён кругамі водзіць чалавека па лесе ці па лузе і непрыкметна заводзіць няшчаснага ў свае ўладанні, адкуль чалавеку не выбрацца. Ён усюды паспявае і ўсюды, як тая Хлюндра, усоўвае свой вяпрачы нос: там пасварыць людзей, якія самі не ведаючы чаму, пачынаюць напітвацца злосцю і крычаць адно аднаму колкія словы, там раскідае ў будане смецце, там схавае касцяную іголку, там ні з таго ні з сяго падставіць старому чалавеку сваю ножку, і чалавек, спатыкнуўшыся аб яе, падае і калечыцца. Начамі ў лесе ён надта любіць екатаць і рагатаць, а пачуўшы тыя екатанні, у чалавека паяўляюцца дрыжыкі і ляскочуць зубы.

Ён і днём гойсае між людзей, толькі днём ён нябачны, але ўсе людзі добра ведаюць, што ён ёсцека, і таму асцерагаюцца яго, часта кажуць: ”Ідзі, што ты да мяне чэпішся, ідзі ад мяне ў сваё балота...”

Але ж у балоце яму сумна і адзінока, таму адзін, а калі з кодлай гэткіх жа, як і сам, ён неадчэпна ідзе за людзьмі. Нябачны, ён нашэптвае ў людскія вушы, каб яны нікога не слухаліся, каб кожны жыў сваім розумам, бо кожны, як ён шаптаў, сам сабе гаспадар, і таму, ні пра што не думаючы, трэба найперш займацца салодкімі гулі-вулямі... І, калі чалавек прыслухоўваўся да ягоных салодкіх нашэптванняў, калі чалавек пераставаў адганяць яго ад сябе, то ён тут жа — бэмц! — калоў чалавека рожкамі ў рэбры і ўсё шаптаў у самае вушка салодкія слоўцы: “Пойдзем, пойдзем на гулі-вулі, бо жыццё, як дым, кароткае...”. Развесіўшы вушы, чалавек і сам не бачыў і не чуў, як жа і калі ён ускокваў на яго і той вёў на гулі-вулі.

На гулях-вулях гулівудзіць хеўра, на якую ягонае кодла даўно ўселася. І якоча хеўра, і крыўляецца, і не разабраць, хто ж перад табою выпендрываецца, жанчына ці мужчына ў жаночым абліччы, выдурняецца тая хеўра перад людцамі, і ўсё ёй смешненька, над усім і ўсімі яна хі-хі ды ха-ха, над быццём і небыццём яна пасмейваецца, нікому спуску тая хеўра не дае, ні скалечанаму нямогламу чалавеку, ні праведніку, і радая яна свежаму чалавеку, крычыць, ад шчасця заліваецца: “Хутчэй валі да нас, мы цябе даўно зачакаліся. У нас усё можненька, так што давай гулівудзіць разам...”.

І чалавеча, на ўсё забыўшыся, аддаецца ў цэпкія кіпцюрастыя лапкі ягонаму кодлу, гэтае кодла носіць, водзіць і поіць няшчаснага чалавека — гулівудзіць пачынае чалавек...

А між тым ягонае кодла не спіць у шапку — насядае і насядае на людзей, як на старых, так і на малых, і кліча ў помач кодла Бяду і Нянавісць. Тыя гэтага клічу толькі і чакаюць — навальваюцца на людзей агулам. І тады ўжо — гора як чалавеку, так і ўсяму роду, беспрычынна кідаецца брат на брата, сын матку рэжа і душыць...

О-о, ён хітранькі!

Яшчэ болей, чым гулямі-вулямі, ён спакушае чалавека шчасцем, якое атрымае чалавек, калі даб’ецца сяго-таго. І вот чалавеча, убіўшы сабе ў галоўку пра сёе-тое, з дня ў дзень, з рання да змяркання плягае, недасыпае, недаядае, каб дабіцца сяго-таго. І калі здаецца чалавеку, што шчасцейка ў ягоных руках, ён зноўку — бэмц! — ці падстаўляе чалавеку ножку, каб той падаў вобземлю і выпраўляўся на Той свет, ці з рогатам адступаецца ад няшчаснага, і тады спакушаны, абдураны чалавек з жахам разумее, што шчасце ягонае — у нечым іншым, ды зноў жа — не вярнуць, не адвярнуць назад марна патрачаныя гады... І дранцвее тады чалавеча. А ён ужо зноўку тут як тут — пельку падсоўвае, супакойвае няшчаснага: “Не бойся, я цябе не пакіну...”.

Спустошаны, азіраецца вакол сябе чалавек, шукаючы падтрымкі і помачы. Камянее ён перад бясплатнай пелькаю. Гулі-вулі абрыдлі, уяўнае шчасце, як дым, развеяна... Што рабіць, чым заняцца?

О-о, як балюча яму тады!

Надыходзіць ноч і, схаваўшыся ад людзей, сябе саромеючыся, пачынае чалавек ліць слёзы з задымленых былым едкім шчасцем вачэй. Шаптаць ён пачынае, хоць каму шэпча, каго кліча ў помач, чалавек пакуль і сам не ведае. Ён шэпча, што нічога не ведае ні пра сябе, ні пра свет навакольны. Ён шэпча, што радасці і шчасця хацеў... Ён шэпча, што страшна яму ў гэтым свеце...

Пачуўшы гэты шэпт, ля чалавека Адзінота паяўляецца. Мудрая Адзінота напачатку нічога не гаворыць, яна нават і не спрабуе суцішваць чалавека, яна толькі дзеля таго і паяўляецца, каб падказаць чалавеку, што не толькі ён адзін няшчасны, што кожны з людзей хоць аднойчы ды павінен з ёю спазнацца. “Супакойся, суцішся, — нарэшце ціха вымавіць Адзінота, — вы ўсе адзінокія...”

“Я вінен... Я з імі валэндаўся... Я радасць і шчасце шукаў...” — будзе каяцца і апраўдвацца шэптам растрывожаны чалавек.

“А гэта ты ўжо не мне гавары, — будзе казаць Адзінота. — Цяпер, калі мяне спазнаў, я пакіну цябе. Цяпер Жальбе спавядайся”.

І тут жа Адзінота адступіцца, Жальбу падпусціць...

І пачне чалавеча знаёміцца з Жальбою, пра якую дагэтуль, можа, ён і не ведаў нічога — часу спазнаць не знаходзілася, бо надта сваім шчасцем быў заклапочаны...

Усё, што цяпер Ран чуў і бачыў, поўнілася няясным невядомым сэнсам, як быццам Той, які жыў наверсе, прыадкрываў таямніцу, якую чалавеку было боязна разгадваць, і таму пачуццё жаху міжвольна ахоплівае чалавека ў такія імгненні. Кажуць, што ў ціхія чорныя ночы немаўляты часта беспрычынна плачуць, а старэйшыя дзеці шчэмяцца да дарослых. Мо ўсё гэта таму, што ён неадчэпна блэндае за спінамі людскімі?..

Ран задрамаў. Ён ведаў, што не спіць, ведаў, што сядзіць ля агню і між тым дзіўным трызненнем поўніўся Ран.

Ран адчуў, што здольны лётаць. Паяўлялася такое адчуванне ў Рана і дагэтуль, але цяпер адчуванне палёту было надта вострым і салодкім. Падняўшыся ў палёце над елкаю, Ран убачыў сваіх сонных сяброў, якія соладка і сцішана спалі ля агню, ён нават і сябе ўбачыў, і агонь... Лёгкім намаганнем Ран мог пералятаць з дрэва на дрэва, — гэтак робяць птушкі. Але птушкаю Ран не быў, ён нават і рук не расстаўляў, каб падняцца над зямлёю.

Падняўшыся ўгору ён бачыў унізе сцішаныя дрэвы, травы, кусты, нават саму шырокую Пры, прыхаваную кустамі — усё было асветленым вачыма Таго, які жыў наверсе. Мякка і соладка зыбаючыся ў паветры, Ран пралятаў над травамі, а потым падымаўся ўгору. І чым вышэй Ран падымаўся, тым меншымі станавіліся дрэвы, кусты, і нават Пры зусім хавалася ў кустах — усё злівалася ў суцэльныя чорныя плямы. І вось ён ужо не мог разгледзець тую елку, дзе спалі сябры. І яшчэ вышэй падымаўся Ран, і вочы Таго ўсемагутнага станавіліся яркімі, нядобрай іскрыстай беллю разгараліся яны. І от жа дзіўна: чым вышэй падымаўся Ран, тым вастрэй адчуваў трывогу. Вось ужо аблокі грувасціліся пад ім, ужо і зямля за тымі аблокамі не бачылася. І адно і тое ж білася, пульсавала ў Рана: чаму ж гэтак боязна і гэтак холадна яму? І дзе ж знаходзіцца Той усемагутны, які качае каменне, які кідае на зямлю белыя жахлівыя дзіды?

Спалоханы вышынёю, з якой Ран мог вось-вось сарвацца, ён апускаўся ўніз, дзе былі задымленыя аблокі, дзе бачыліся дрэвы, дзе спалі сябры.

Схамянуўшыся, Ран ачомаўся. Азірнуўся вакол. Адчуў, як часта-часта татахкае сэрца. Агонь амаль схаваўся ў чорным вуголлі. Му і Галу спалі.

Трызненне было такім яркім, што Ран рукою працёр вочы. Адчуваннямі поўнілася цела, — і жах, і слодыч перапаўнялі Рана.

Бываюць яркія сны, якія чалавеку доўга помняцца. Бывае, што ўва сне ён бачыць штосьці незвычайнае, што надта ўражвае, ці то — дзіўныя агромністыя, як воблакі, збудаванні ціха плывуць і плывуць над ягонай галавою, і ў тых збудаваннях чалавек бачыць людзей, якія яму звысоку махаюць рукамі, ці то чалавек бачыць зялёныя лугі, усеяныя агромністымі яркімі кветкамі, ён нават чуе, як пахнуць тыя кветкі, там ён страчаецца з прыгожымі людзьмі, якія гавораць яму ласкавыя словы, і тады, прачнуўшыся, чалавек днямі ходзіць суцішаны, ён усміхаецца сам сабе, ён баіцца расплюхаць у сабе пачуццё шчасця, белым днём яму недаступнае.

А бываюць такія сны, пра якія чалавек саромеецца гаварыць, пра якія ён нікому ніколі не раскажа. Штосьці брыдкае, няправільнае, пра што белым днём не думаецца, рэальна напаўняе цела незвычайнымі адчуваннямі. Пасля такіх сноў чалавек ходзіць, як з завязанымі вачыма.

Бывае, што ў снах да чалавека прыходзяць людзі, якіх ён даўно не бачыў, якіх ён і не ўбачыць ніколі, але якіх ён добра ведае. І тыя людзі гавораць з чалавекам, раяць ці папярэджваюць аб нечым...

І часта думаецца чалавеку, што ў снах ён сустракаецца з іншым светам, дзе ёсць іншае жыццё...

Што ёсць сон?

Намёкі на шчасце, да якога чалавеку трэба імкнуцца?

Папярэджанні бедаў будучых?..

# Артменеджмент — гэта…

У Мінску на базе Інстытута імя Гётэ адбыўся адукацыйны праект "Культурны менеджмент у Беларусі: рэгіянальны кампанент". Для стажыроўкі ў ім былі адабраныя 10 удзельнікаў, якія прадстаўлялі розныя рэгіёны нашай краіны. У лік шчаслíўцаў давялося патрапіць і аўтару гэтага допісу.

Мне імпанавала сама місія гэтай ініцыятывы: садзейнічаць развіццю культурнай прасторы ў рэгіёнах праз павышэнне прафесійнага ўзроўню тамтэйшых артменеджараў. Трэба заўважыць, што ўвогуле культурнае супрацоўніцтва сталіцы з рэгіёнамі наладжана слаба, і мінчанам здаецца, што на перыферыі не адбываецца нічога значнага. Сустрэча з іншымі ўдзельнікамі праекта развеяла гэтыя мае перакананні: асабліва ўзрушылі віцябляне, надзвычай свядомыя ў артсферы, — тут і сталіцы ёсць чаму павучыцца. Напэўна, пераадоленне гэтай рэгіянальнай абмежаванасці ёсць ці не галоўнай перавагай дадзенага праекта.

Яго ініцыятар Аксана Валодзіна летась удзельнічала ў маштабным праекце Інстытута імя Гётэ "Цэнтр кампетэнцый для менеджэраў у сферы культуры краін Усходняй Еўропы". "Культурны менеджмент у Беларусі" стаўся ўнутрыбеларускім адгалоскам на тую падзею, да "трэнерскай" працы Аксана прыцягнула міжнародную каманду стажораў цэнтра, а таксама яго выкладчыкаў. Праект А. Валодзінай быў падтрыманы Міністэрствам культуры Беларусі і прафінансаваны Інстытутам імя Гётэ, яго партнёрам абвешчаны таксама часопіс "ART-менеджер" (Масква).

Мяркуючы па сабе ды іншых удзельніках праекта, я раблю выснову, што нашы беларускія артменеджары — асобы творчыя і ад "панурай" рэчаіснасці адарваныя. Між тым, у аснове ўсялякай дзейнасці ва ўмовах рынкавых адносін, як гэта ні банальна, ляжаць грошы, і культурнаму менеджару ад гэтага факта нікуды не падзецца. І найбольш карысным, а таксама псіхалагічна складаным для большасці ўдзельнікаў быў момант, звязаны з вывучэннем прыземленых, фінансавых асноў артменеджмента: фандрайзінг, праца са спонсарамі, планаванне бюджэту. Маючы за плячыма класічную гуманітарную адукацыю, я адчуў, як мне не хапае элементарных ведаў па менеджменце і маркетынгу — без вывучэння гэтых прадметаў немагчыма ўявіць сучасную сістэму адукацыі. Важным складнікам праекта сталася таксама псіхалагічная падрыхтоўка ўдзельнікаў — гэта датычыць вывучэння тымбілдынгу і асноў працы ў камандзе, але найперш — менеджмента зменаў, які выкладала доктар філасофскіх навук з Нямеччыны Хайке Пфіцнер. У сучасным свеце здольнасць адаптавацца і прымаць змены з'яўляецца ці не асноўным фактарам поспеху і ўстойлівага развіцця, гэтаксама як міжкультурная талерантнасць, да якой прывучалі трэнінгі спадарыні Хайке. Праца трэнераў з удзельнікамі хутчэй нагадвала фармат бізнес-адукацыі, чым акадэмічныя лекцыі, і, напэўна, якасна адрозніваўся ад звыклых курсаў павышэння кваліфікацыі.

Мэтай заняткаў і абавязкам удзельнікаў была распрацоўка ўласных сацыякультурных праектаў. Вынік паказаў, што большасць навучэнцаў імкнецца рэалізаваць свае задумы на базе тых установаў культуры, якія яны прадстаўляюць, пры моцнай дзяржаўнай падтрымцы. І гэта заканамерна: развіццё прыватнага сектара ў нашай эканоміцы яшчэ далёкае ад таго, каб фінансаваць маштабныя сацыякультурныя падзеі. Але 4 з 10 удзельнікаў распрацоўвалі прыватныя ініцыятывы, і многія задумваліся пра перспектывы свайго незалежнага існавання ў айчынным культурным асяроддзі. Гэта таксама, на маю думку, станоўчы паказчык.

У цэлым цяжка аспрэчыць той факт, што праект А. Валодзінай "Культурны менеджмент у Беларусі" надзвычай запатрабаваны. І трэба спадзявацца, ён атрымае далейшае развіццё ўжо на базе рэгіянальных структур.

Алесь СУХАДОЛАЎ,
літаратурны рэдактар Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача, куратар мастацкіх выставак

# Пад знакам якасці







Сёмае нашэсце "Тэхна-Арта" перажыла нядаўна сталічная мастацкая галерэя "Універсітэт культуры". Гэты ўнікальны выставачны праект, нязменным куратарам якога з'яўляецца дырэктар галерэі Дзяніс Барсукоў, ужо не меў на мэце, як раней, з выклікам дэклараваць права тэхнамастацтва на годнае існаванне ў беларускім культурным асяроддзі. Першыя экспазіцыі, эпатажны эфект якіх высноўваўся з энтузіязму "прасунутых" студэнтаў ды з падтрымкі знаёмых сучасных імёнаў, прызнаных не толькі ў айчыннай арт-прасторы, пераканалі нашу чуйную і крэатыўную публіку: не толькі пэндзлем і алоўкам ствараецца выяўленчае мастацтва! "Наш праект упершыню ў Беларусі актуалізаваў тэму тэхна-мастацтва, спалучыўшы ў сабе ўсе напрамкі сучаснай візуальнай творчасці, у якіх ёсць тэхнічны складнік, і стварыў з іх арганічную суцэльнасць, — расказвае Д. Барсукоў. — Сёння тэхна-арт ужо не даказвае сваё права называцца мастацтвам, ён проста з'яўляецца знакам якасці. Зусім лагічна было ў Год Якасці, абвешчаны ў Беларусі, прадставіць выстаўку пад назвай "Тэхна-Арт. Знак якасці" — тэхнамастацтва выдатнай якасці: камп'ютарную анімацыю, 3D графіку, лічбавае фота і мантаж, арт-аб'екты, створаныя з элементаў тэхнасферы, а таксама творы жывапісу ды графікі, аўтараў якіх натхніла тэхнагеннае асяроддзе нашага жыцця".

Наведвальнікаў галерэі літаральна з парога зацягвалі ў свае віртуальныя фантазіі найноўшыя камп'ютарныя гульні; сярод натоўпу гледачоў уводзіла ў зман маладое сямейства, якое насамрэч аказвалася нават не групай манекенаў, а... фота (аўтар А. Салдатава); уражвалі сваёй неўміручай сутнасцю "Траяны" (арт-аб'ект А. Зазулі); настройвалі на філасофскі лад нацюрморты з чырвонымі рыбкамі (серыя Н. Жыгамонт "Якасць жыцця ў неабмежаванай прасторы"); інтрыгаваў імклівы байкер ("За ПДР" Д. Барсукова); замілоўвала сваёй упартай энергіяй фанатка аўто ("За табой хоць на край свету" Г. Сілівончык); змушала ўсміхнуцца калекцыя касцюмаў "Па слядах Далі" (арт-аб'ект Кацярыны Бурак)... Звяртаў на сябе ўвагу кожны экспанат гэтай выстаўкі, якая, дарэчы, увайшла ў маштабны рэспубліканскі праект "Зямля пад белымі крыламі".

Святлана БЕРАСЦЕНЬ
Фота аўтара




## Радуемся разам



Да 14 лістапада ў Гомельскім палацава-паркавым ансамблі працуе перасоўная экспазіцыя "Паэт рэпартажа. Рышард Капусцінскі". Яна прысвечана памяці знанага палякa, нашага земляка, народжанага ў Пінску, выдатнага дзеяча еўрапейскай культуры, журналіста і пісьменніка. Гэты выставачны праект, які найперш быў прадстаўлены сталічнай публіцы, зладжаваны пры падтрымцы Польскага інстытута ў Мінску.

Заўтра ў Мінскім палацы культуры і спорту чыгуначнікаў адбудзецца прэзентацыя Рэспубліканскага фестывалю фальклорнага мастацтва "Берагіня". Фестываль гэты, як вядома, мае прапіску ў Акцябрскім раёне, праводзіцца пры падтрымцы міністэрстваў культуры і адукацыі Рэспублікі Беларусь, Гомельскага аблвыканкама, Акцябрскага райвыканкама, Беларускага фонду культуры, Камісіі па справах ЮНЕСКА ў Беларусі і скіраваны на дзяцей і моладзь, на іх ідэалагічнае і патрыятычнае выхаванне сродкамі нашай аўтэнтычнай народнай спадчыны. Сталічная ж імпрэза ладзіцца ў межах праекта БДУ культуры і мастацтваў — серыі этнаграфічных канцэртаў "Фальклор беларускай глыбінкі". На парадку дня заўтрашняй прэзентацыі — "круглы стол" на тэму "Традыцыйная культура і дзеці", дэманстрацыя фота- і відэаматэрыялаў, майстар-класы, выступленні аўтэнтычных і фальклорных дзіцячых калектываў, выстаўкі-продажы...

Другі канцэрт цыкла "Музычныя вечары з Аляксандрам Анісімавым" прайшоў у Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры. Праграма пад назвай "Італьянскае капрычыа" ў 1-м аддзяленні парадавала шыкоўнымі арыямі, дуэтамі і харамі з опер П. Чайкоўскага "Пікавая дама", "Яўгеній Анегін" і — яго ж "Італьянскім капрычыа". Пасля антракту гучала музыка слынных італьянцаў, сярод якіх — Дж. Расіні, Т. Альбіноні, В. Беліні, П. Масканьі. У канцэрце ўдзельнічалі аркестр і хор тэатра, спявалі запрошаныя салісткі — зорка Беларускай оперы Аксана Волкава (мецца-сапрана) ды госця з Расіі Ірына Крыкунова (сапрана). Дырыжыраваў маэстра А. Анісімаў, чыё супрацоўніцтва з Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатрам пасляхова пачалося гэтым летам і абяцае плённы працяг.

Стужка "Саюзнікі. Верай і праўдай!" расійскага кінарэжысёра Сяргея Зайцава завяршае сёння пазаконкурсны тэматычны паказ дакументальных фільмаў, наладжаны ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны падчас Мінскага міжнароднага кінафестывалю "Лістапад-2010". У гэтым фільме на працягу гадзіны гучаць успаміны ўдзельнікаў II Сусветнай вайны — ветэранаў з Вялікабрытаніі, ЗША, Расіі, Францыі, раскрываючы малавядомыя старонкі гісторыі ўзаемадапамогі народаў у цяжкую часіну.

Лаўрэатам першай прэміі і ўладальнікам Залатога медаля III міжнароднага конкурсу Ю. Грыгаровіча "Молодой балет мира", што праходзіў у расійскім горадзе Сочы, стаў Канстанцін Геронік — артыст Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі, сёлетні выпускнік Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага каледжа. У конкурсе ўдзельнічалі 43 спаборнікі з 9 краін. Гран-пры атрымаў Эльдар Сарсембаеў (Казахстан).

Лана ІВАНОВА

На здымку: адна з работ Рышарда Капусцінскага.

Фота Віктара Кавалёва

Брыка і Шусю ўпільнавала Таццяна Сівец, журналістка і паэтка. Але з 30 кастрычніка 2010 года — з дня прэм'еры "Брыка і Шусі..." — вытанчаную, далікатную прыгажуню Таццяну можна страга называць драматургам, бо і журналісты, і паэты робяцца драматургамі толькі тады, калі іх творы трапляюць на тэатральную сцэну. П'еса "Брык і Шуся шукаюць лета" — прафесійны дэбют Таццяны. Казку замовіў, прыняў і давеў да сцэнічнага ўвасаблення Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача. Рэдкі выпадак!

У казцы хапае выхаваўчых сентэнцый кшталту "дарогу трэба пераходзіць толькі на зялёнае святло" альбо "з незнаёмымі хадзіць нельга" (дзецям ды некаторым дарослым гэта і са сцэны паўтарыць не лішне). Поўна добрых і вельмі добрых учынкаў. Але "выхаваўчы працэс з мараллю" драматург адмыслова прыцішыла, а рэжысёр ператварыў у канчатковы выбар персанажаў. Рэжысёр — Ягор Лёгкін, на чым рахунку восем драматычных спектакляў і адна опера. Ён таксама і драматург, яго твор "Квакі і Квокі" мае поспех у Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі. З сёлетняга ліпеня Ягор Лёгкін — рэжысёр Беларускага рэспубліканскага ТЮГа і, выдае на тое, лідар адметнай каманды маладых акцёраў, узброеных не толькі свяжуткай акцёрскай адукацый, але і шчырым жаданнем на гэтую адукацыю не забыцца.

Разам з Брыкам і Шусяй, якая ніколі не бачыла лета, у пошукі гэтай краіны ўкручваецца шраг персанажаў: Варона згадвае, што яна ў маладосці ляцела-ляцела ды трапіла туды, Сабаку хочацца цеплыні з косткамі, Котка цаляе ў тамтэйшыя каралевы, а ў Пацука і выбару няма — ён мусіць слугаваць Котцы (а раптам яна і напраўду спрэцца ў тую краіну і дасць Пацуку спакою?). Ёсць яшчэ Хлопчык з Дзяўчынкаю, брат з сястрою, на якіх ускладзены самы прасталінейна-правільны, але і самы чалавечы ўчынак спектакля: каб Брык і Шуся паспелі за сонцам, дзеці аддаюць ім самакат, бацькаў падарунак, за які толькі што біліся-душыліся...

Чалавечыя дачыненні навакольнага свету драматург празрыста і нібыта наіўна праецыруе на казачны. У ім, далікатным, крохкім, аказваецца, ёсць недавер, падман, здрада! (Калі б не было — з чаго ж тады ўтвараць канфлікт, рухавік усялякага дзеяння?) І самота. Ды такая, што ў пошуках краіны вечнага лета сцэну і залу працінае адзіная скразная тэма пошукаў сябра, які патрэбны дзецям і дарослым усіх узростаў. Сябра знаходзіць кожны персанаж, праўда, не толькі па шчырасці, але і па разліку. Гэтыя пошукі не пакідаюць месца для выйгрышнага, кідкага змагання "бабра з аслом" (дабра са злом, перапрашаю), затое ва ўсіх без выключэння персанажаў ёсць уласны ўнутраны канфлікт і яго развязанне відавочна рухае дзеянне.

Драматург глядзіць на сваіх персанажаў з усмешкай. Усмешка рэжысёра надае ім трошкі добрай іроніі: Ягор Лёгкін вымагае выканання не пабытавага, а крыху адцягненага, нібы прыўзнятага на дыбачках, каб з гэтай вышыні выканаўцу можна было зірнуць на самога сябе, пераўвасобленага. Каб зала, аднойчы ўгледзеўшы, пільнавала гэтыя зрухі-позіркі ды ў нейкі сакрэтны момант краналася аж да суперажывання. Каб панавала атмасфера святочнага восеньскага... адыходу, заахвочаная мастаком Андрэем Меранковым і падтрыманая музыкай Леаніда Паўлёнка, — атмасфера... старых савецкіх мультфільмаў — добрых, лепшых, на ўсе часы і глядацкія пакаленні. Рэдкі выпадак!

Памятаеце, як у кардоннай каробцы ўгледзелі Чабурашку? Як у каналізацыі заўважылі чарапашак-ніндзя? А на даху — Карлсана? Магчыма, у шэраг славутасцей трапяць і тутэйшыя персанажы: проста ў гарадскім парку знайшліся Брык і Шуся. Ён смешна куляецца і падае з дрэва, прымаўляючы: "брык, паваліўся!", а яна ў лісці жыве...



# Сон пра летнюю ноч



...Пасярод пляцоўкі — адмысловае карункавае дрэва з жоўтым лісцем, асталяванае на рухомай кружэлцы — дзіцячай каруселі. Да яго вершаліны Котка ды паркавая красуня Варона ўзнімаюцца па драбінах, а сонца, рухаючыся, толькі што не чапляе абедзвюх за каўняры. Як на дзіцячым малюнку. Павольнае пасоўванне сонца пазначае змены ў часе. Хуткае кружэнне каруселі імгненна выдае патрэбныя месцы дзеяння, узнёслы настрой рашучага пошуку лета змяняе на кашэчую змову або на дваровую дзіцячую сварку, а сустрэча з хлусам-Пацуком адным паваротам кола прымушае Брыка і Шусю спяшацца... Але за сонцам яны не паспяваюць і апынаюцца ў цемры. Такой страшнай цемры не збаіцца хіба той, хто ніколі не быў дзіцем. І Брык баіцца, але загадвае Шусі трымацца за ягоную руку. І стомленая, засмучоная, спалоханая Шуся называе Брыка разумным, дужым — дарослым...

Драматург глядзіць на сваіх персанажаў з усмешкай. Усмешка рэжысёра надае ім трошкі добрай іроніі: Ягор Лёгкін вымагае выканання не побытавага, а крыху адцягненага, нібы прыўзнятага на дыбачках, каб з гэтай вышыні выканаўцу можна было зірнуць на самога сябе, пераўвасобленага. Каб зала, аднойчы ўгледзеўшы, пільнавала гэтыя зрухі-позіркі ды ў нейкі сакрэтны момант краналася аж да суперажывання.

Цяпер кожнае дзіця ведае, якімі мусяць быць у казках каты, сабакі ды Чабурашкі, а з Брыкам і Шусяй зазналі клопату і рэжысёр, і мастак спектакля. Хто яны? Якія яны? Здаецца, гэтыя фантазійныя вобразы падказалі акцёрскія індывідуальнасці. Крохкай, танклявай рагатухай Шусяй, камячком пяшчоты і наіўнасці, вызначыліся Юлія Смірнова і Таццяна Чардынцава (дарэчы, абедзве іграюць у ТЮГу Дзюймовачку). Але ў рашучы момант гэты камячок сціскаецца так моцна, што здатны... ну, калі не прабіць сцяну, дык разбіць аб яе. Шуся з'явілася з кучы лісця лёгкай, нібыта паветранай істотай, таму атрымала светлы парычок, у якім заблыталася лісце, і строй, падобны да касцюма для фітнэсу з вызначанай паласатай таліяй ды воблачкамі цюлевых рукавоў, штонікаў й гетраў. Брыка ўсё адно як "змалявалі" з лепшых роляў Аляксандра Зелянко: унутрана рухавага, датклівага, безабароннага, са своеасаблівай супярэчлівай абаяльнасцю, якая з ролі ў ролю можа мяняць "плюсы" на "мінусы" і наадварот. Кудлаты парычок з вушкамі-рожкамі, сіні камбінезон — напэўна, Брыку, які нарадзіўся вясной, падабаецца мімікрыраваць пад паркавых рабочых. Брык Аляксея Кірмуця мае іншую душэўную пабудову — не такую далікатную і гнуткую, але вызначаецца цікаўнасцю і своеасаблівай шчырай упэўненасцю. Характэрная адзнака Брыка і Шусі — наіўнае стаўленне да жыцця: у парку пагаршаецца надвор'е, і Шуся ўслед за Брыкам вырашае з гэтым... змагацца. А Брык, відаць, наслухаўся радыё на паркавых слупах...



Выканаўцы роляў паркавых насельнікаў пераконваюць не толькі пластычнай характарнасцю, але і апраўданнем адметнасці паводзінаў, якія кожнаму надала парода і прырода. Варона (Юлія Грыгарэнка) за бліскучыя пацеркі сама сябе падмануць гатовая. Пацук (Андрэй Каламіец), відаць, не адзін раз ужо ад Коткі ўцякаў, ды чарговыя ўцёкі задорага стануць, таму ён хітруе, часова скараецца, але з першай небяспекай ва ўсім вінаваціць кандыдатку ў каралевы краіны вечнага лета. Сабака (Андрэй Каралевіч і Павел Наўроцкі) дзеля справядлівасці гатовы зацкаваць-пакараць Пацука ды Котку, але забываецца на ўсё перад перспектывай сяброўства з Хлопчыкам. Насцярожаны да свету, з кудлатым аблавухам на галаве, Сабака ўзброены баксёрскімі пальчаткамі. А давер выказвае тым, што здымае пальчаткі і аддае Хлопчыку. Не як гаспадару. Як сябру.

У страшнай цемры Брык абяцае Шусі, што заўтра зноў узыдзе сонца і яны знойдуць краіну вечнага лета. Зараз жа ў Ветра распытаюць! Але ўсяведа Вецер кажа, што Шуся нараджаецца ўвосень і засынае на зіму, на вясну, на лета — да наступнае восені. І абуджаецца... іншай. Так бывае. Ёсць няўмольныя законы для жывых.

Толькі ў самы скрутны момант Котка (Алеся Гераська) шчыра прызнаецца дзецям, чаму ёй так патрэбна краіна вечнага лета: там яна будзе... самая-самая! Ёй, каралеве, там ніхто не скажа, што яна тоўстая!.. Дзеці дасціпна падтрымліваюць яе амбіцыі, але Котка прымушае сябе ўгаворваць і канчаткова згаджаецца пайсці да іх... за малако.

З прасталінейным Сабакам і хітраванкай-Коткай абыходзіцца як у казцы — Дзяўчынка забірае сабе Котку, Хлопчык — Сабаку... Вулічных (паркавых)! Якая маці такое дазволіць насамрэч? У мастацкую праўду расповед ператварае не жанр (казка), а рэжысёрскі падыход і акцёрскае стаўленне да роляў: пошукі сябра падобныя да пошукаў сэнсу жыцця. Ці, прынамсі, намагання зразумець ягоныя законы ды парадкі.

Хлопчык прагне сябра моцнага, дужага. Каб у двары баяліся. Акцёр Генадзь Гаранскі ўражвае нахабнай хлапечай самаўпэўненасцю, за якой паўстае дзіцячая крыўда на ўвесь свет, які не адпавядае ні тэлевізійным шоу, ні камп'ютарным гульням. Любым коштам яму трэба пастанавіць на сваім — хоць адабраць у сястры самакат, хоць перафарбаваць у зялёны колер Брыка. А калі за Брыка раптоўна заступаецца Шуся, Хлопчык адступаецца ад свайго намеру з палёгкай, за якой паўстае раптоўнае разуменне: Брык сам па сабе цікавы — такі, які ёсць. Без ашыйніка з шыпамі і ў натуральным выглядзе.

Ад планаў па перарабоцы Брыка Хлопчык (акцёр Аляксандр Лешчанок) адмаўляецца весела і хутка: ну, не дык не, прыдумаем іншую гульню. Галоўнае — ён, Хлопчык, будзе галоўны. Але... "Чаму з жывымі можна гуляць толькі тады, калі яны самі захочуць?" — пытаецца Дзяўчынка (Людміла Асмалоўская), і брат на хвіліну бянтэжыцца. Важкае пытанне! І глядацкую ўвагу на ім варта засяроджваць...

...У страшнай цемры Брык абяцае Шусі, што заўтра зноў узыдзе сонца і яны знойдуць краіну вечнага лета. Зараз жа ў Ветра распытаюць! Але ўсяведа Вецер кажа, што Шуся нараджаецца ўвосень і засынае на зіму, на вясну, на лета — да наступнае восені. І абуджаецца... іншай. Так бывае. Ёсць няўмольныя законы для жывых. І хоць у сяброўстве галоўнае — вернасць, гледачы ўсіх узростаў разумеюць, што ад наіўнай вернасці Брыка будучыня Шусі залежыць ніяк не наўпрост, але... залежыць! Быць ёй... альбо не быць? І ніяк не менш! ...Брык, ахоўнік Шусінага сну, застаецца побач.

Эпілог спектакля — сон Шусі. Вецер паабяцаў, што лета яна прысніць, і Шуся сніць сваё лета — тых, хто ўдзельнічаў у важных падзеях яе маленькага жыцця, якое, аказваецца, паспела набыць і важнасць, і сэнс. У прыгожым пластычным эпізодзе з'яўляюцца персанажы спектакля — аднолькава яркія і вясёлыя. Катаюцца на самакаце, скачуць праз вяровачку, выдзімаюць бурбалкі... Кружыцца карусель, ззяючы лямпачнай абламоўкай, асвятляецца дрэва і сцэнічнае наваколле, утвараючы позні паркавы вечар. Такім Шуся сніць лета і неўзабаве разумее, што... "Лета — гэта калі цёпла вось тут", — раптоўна кажа яна і дакранаецца да сэрца...

Жана ЛАШКЕВІЧ

На здымках: сцэны са спектакля "Брык і Шуся шукаюць лета".

Фота Валянціны Хасяневіча




## Слова краязнаўцы



Ірына Воднева, дырэктар Полацкага краязнаўчага музея, расказвае пра развіццё цікавасці да краязнаўства ў самым старажытным горадзе Беларусі:

— Яшчэ ў XIX ст. студэнты езуіцкай акадэміі, а пазней і вучні кадэцкага корпуса цікавіліся гісторыяй старажытнага Полацка. Новая хваля краязнаўства захлынула горад у 1920-я. Вывучаліся архіўныя матэрыялы мясцовых устаноў, збіраліся экспанаты для будучага музея, арганізоўваліся школьныя экскурсіі па памятных мясцінах, друкаваліся артыкулы на старонках мясцовага і рэспубліканскага друку. У 1926 годзе вынікам гэтай работы стала адкрыццё ў мурах Сафійскага сабора Полацкага акружнога краязнаўчага музея. Але ў 1930-я краязнаўчая праца ператварылася толькі ў збор матэрыялаў, якія ў большасці сваёй праслаўлялі новаўвядзенні савецкай улады і барацьбу з перажыткамі мінулага. У пасляваенны час сітуацыя амаль не змянілася. З-за поўнай разрухі было не да гісторыі і культуры. Толькі пачынаючы з 1950-х у Полацку зноў узнавілася вывучэнне роднага краю, і на чале гэтай працы сталі настаўнікі-энтузіясты, сярод якіх былі Іван Дэйніс, Сцяпан Клокаў, Аляксандр Маніс ды іншыя. Праўда, перавага аддавалася ізноў удзельнікам рэвалюцыйных падзей, героям нядаўніх войн і дэлегатам з'ездаў кампартыі. Але полацкая зямля захоўвае памяць не толькі пра XX ст. У сталіцы палачан-крывічоў кіпела жыццё за шмат год да гэтага. 1990-я далі нам магчымасць даследаваць практычна ўсе бакі гістарычнага мінулага.

Пачатак XXI ст. для Полацка стаў часам здзяйснення новых планаў. Штогадовыя археалагічныя раскопкі пад кіраўніцтвам Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта і Інстытута гісторыі НАН Беларусі прынеслі нечаканыя сюрпрызы і папоўнілі фонды Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка новымі артэфактамі. Актывізавалася праца па стварэнні Музея гісторыі горада, дзе вялікія экспазіцыйныя плошчы дазволяць прадставіць значна больш матэрыялаў у параўнанні з плошчамі краязнаўчага музея.

## «Постаці»: новы праект

У Гродне і Брэсце прайшлі прэзентацыі кампакт-дыска "Постаці", на якім змешчаны фільм, а таксама чатырнаццаць інтэрв'ю з вядомымі музыкамі, краязнаўцамі, мастакамі, майстрамі, паэтамі і пісьменнікамі, настаўнікамі-заснавальнікамі музеяў, якія жывуць і працуюць на Брэстчыне і Гродзеншчыне. Сярод асоб, прадстаўленых на дыску, — Алесь Белакоз, Ігар Бараноўскі, Мікалай Тарасюк, Вера Кунцэвіч і іншыя дзеячы.

Аўтары праекта лічаць, што такі дыск можа натхніць моладзь да захавання і развіцця беларускай нацыянальнай культуры. Вядомых жа людзей на Брэстчыне і на Гродзеншчыне шмат, значна больш, чым чатырнаццаць, таму ёсць падставы спадзявацца, што праект будзе мець працяг.

Чэслава ПАЛУЯН

## Музейны ўнікат

# Станцыя Вітгенштэйнская

Гісторыя Смалявіччыны цесна звязана з імёнамі многіх слынных людзей. Сярод іх — Сігізмонт Даргевіч, першы ўладальнік тутэйшых зямель, Канстанцін Астрожскі, па наказе якога была пабудавана ў былым мястэчку царква Святога Мікалая Угодніка, і магутныя Радзівілы.

Менавіта тут жыў апошні прадстаўнік магнацкага роду па мужчынскай лініі — Даменік Геранім, шчыры прыхільнік ідэй Напалеона Банапарта. Паранены і хворы, ён разам з адступаючым чужаземным войскам трапіў у Францыю, дзе ў 1813 годзе памёр.

Усё багацце атрымала ў спадчыну дачка Гераніма — Стэфанія (нарадзілася ў 1802 годзе). Але яе землі вырашана было ні ў якім разе не выпускаць з-пад уплыву Расійскай імперыі. Дзяўчыне знайшлі жаніха, вернага падданага імператара — Льва Вітгенштэйна, сына расійскага генерал-фельдмаршала Пятра Вітгенштэйна, які браў з Суворавым Прагу і хутка прасоўваўся па службе. Падчас вайны 1812 года вызначыўся як умелы камандуючы пры абароне Віцебска і Полацка. Імя гэтага героя стала агульнавядомым, а ў народзе нават з'явілася песня пра яго. Да таго ж Пётр Хрыстафоравіч праславіўся як адданы царадворац, таму прапанову цара аб жаніцьбе сына на Стэфаніі Радзівіл успрыняў як выгадную справу для сваёй сям'і.

Так гаспадаром смалявіцкіх зямель стаў Леў Пятровіч, бо жанчына ў тыя часы, выходзячы замуж, страчвала ўсе правы на ўласнасць. Доўгі час яны насілі назву "Вітгенштэйнскія". Малады Вітгенштэйн з задавальненнем прыняў ад дзяржавы прапанову пралажыць па сваіх землях, багатых лесам, чыгунку. Сплаўляць жа драўніну па рацэ Плісе было цяжка і рызыкоўна. Чыгунка магла б дапамагчы ў гандлі каштоўнай сыравінай.

І вось у 1871 годзе пабудавалі станцыю Вітгенштэйнская. Драўніну пачалі вывозіць ужо ў вялікай колькасці (да 100 тысяч пудоў за год), прытым у розныя



гарады Расійскай імперыі і за мяжу. Пастаўлялі адсюль і шкіпінар, дзёгаць, смалу. Прадукцыя Смалявіччыны карысталася попытам у многіх мясцінах.

— Матэрыял пра мінулае нашага краю збіраем па крупіцах, і не дзіўна, што мы з вялікім задавальненнем прынялі ў сваё сховішча рарытэт — каляндар за 1891 год, — зазначыла, паказваючы пажоўклыя старонкі выдання, галоўны захавальнік будучага Смалявіцкага раённага краязнаўчага музея (пакуль працуе рабочая група па яго стварэнні) Паліна Хлюпнева. — На адной з яго старонак пералічаны ўсе рэйкавыя дарогі Расійскай імперыі. Пад нумарам 48 пазначана Маскоўска-Брэсцкая. На 666-й вярсце ад Першапрастольнай і знаходзілася станцыя Вітгенштэйнская. Тут жа ўказаны цэны на білеты ў пасажырскім і паштовым цягніках. Было выпушчана некалькі падобных календароў, і вось адзін з іх трапіў у Смалявічы. Атрымалі мы яго ў падарунак ад жыхаркі нашага горада, старэйшай дачкі беларускага пісьменніка Івана Панчанкі — Наталлі, Іван Трафімавіч працаваў у райгазеце, выпусціў некалькі кніг на рускай мове, захапляўся збіраннем рэдкіх выданняў. Каляндар яму пераслаў хтосьці з расійскіх сяброў. Усяго ж мы маем каля дзесяці кніг з прыватнай бібліятэкі пісьменніка. Сапраўдная знаходка для музея — падшыўка мастацка-літаратурнага часопіса "Новая иллюстрация" за 1912 год (выходзіў у Санкт-Пецярбургу). У нумары 29 можна ўбачыць партрэт Пятра Вітгенштэйна і прачытаць тэкст песні пра яго.

Раіса МАРЧУК

На здымку: старонка часопіса "Новая иллюстрация" з партрэтам Пятра Вітгенштэйна.

Фота аўтара

# «Сеткі мае шаўковыя, ярусы мае мядовыя...»

Прафесія рыбака па сваёй старажытнасці, а значыць і сакральнасці не саступае прафесіі паляўнічага і пастуха. Ва ўсіх міфалогіях свету рыбак — гэта той, хто звязвае сваю прафесійную дзейнасць з воднай стыхіяй і хтанічнай жывёлай — рыбай.

Водная стыхія: мора, рака, возера, балота ўспрымаліся нашымі продкамі як іншасвет, свет памерлых. Нямая ж рыба ўвасабляла душу памерлага. Гэта адлюстравана ў беларускай загадцы: "На тым свеце жывое, а на гэтым — мёртвае". Да таго ж, рыба сімвалізавала і душу яшчэ ненароджанага дзіцяці. Існуе казачны сюжэт, у якім бяздзетная каралеўна, з'еўшы рыбу, нараджае дзіця. А маладая жанчына, калі бачыць у сне рыбіну, то скора зацяжарыць. У сувязі з гэтым згадваецца евангельскі сюжэт пра сустрэчу Ісуса з братамі-рыбакамі Пятром і Андрэем, якія закідвалі сеці ў Галілейскае возера. Убачыўшы братоў, Хрыстос сказаў: "Ідзіце са мной, і я зраблю вас лаўцамі душаў чалавечых".



Ілюстрацыя з Псалтыра XV ст.

Не дзіва, што рыбак успрымаўся як чараўнік і вядун, які валодае таемнымі ведамі і кантактуе з прадстаўнікамі тагасвету. У азёрных раёнах Беларусі рыбны промысел уяўляў сабою сямейную традыцыю, што пазней садзейнічала ўзнікненню рыбацкіх цэхаў і брацтваў. Каб лоўля была ўдалай і плённай, рыбаку трэба было наладзіць сувязь з гаспадаром воднай прасторы, з "царом рыб" або "рыбным пастухом". Так называлі вадзяніка. Часам ва ўяўленнях нашага народа ён перакідаецца аграмаднай рыбінай — пудовым шчупаком, пакрытым імшарынай. Вадзянік вельмі злосны і шкодзіць людзям. Калі рыбакі яго не ўлагодзяць, дзярэ ім снасці, а калі пачастуюць — гоніць у сеці шмат рыбы.

Раней на Палессі прымхлівыя рыбаловы, каб "пачаставаць" вадзяніка, рабілі так. Яны куплялі ў цыганоў непрыдатнага для працы каня. Тры дні яго рыхтавалі: адкормлівалі хлебам і канапляным жмыхамі. У апошні вечар галаву каня мазалі мёдам з соллю, у грыву ўплятаеі мноства чырвоных стужак, ногі збліталі вяроўкамі, а на шыю навязвалі два старыя жорны. Роўна апоўначы рыбакі выплывалі на сярэдзіну вадаёма і апускалі "пачастунак" у ваду. Такія рыбакі вераць, што вадзянік усю зіму ляжыць на дне і спіць моцным сном. З 14 красавіка ён прачынаецца галодным і злосным. З прыкрасці і голаду ломіць лёд, губіць дробную рыбу, а вялікая сама ўцякае ў іншыя рэкі. Калі ж рыбакі ўлагодзяць яго пачастункам — канём, то ён заміраецца і сцеражэ рыбу, пераманьвае да сябе вялікіх рыб з іншых вадаёмаў, ратуе рыбакоў ад буры і патаплення, не псуе нераты і сеткі. Пасля прынясення ахвяры рыбакі ўсю ноч гуляюць і п'юць гарэлку.

У іншых рэгіёнах Беларусі ахвярапрынашэнні воднаму боству былі не такія маштабныя. Так, на пачатку рыбнага сезона ў ваду кідалі пакрамсаную на шматкі першую злоўленую рыбіну. Пры спуску рыбацкай лодкі або яе асвячэнні гаспадар лодкі забіваў барана ці пеўня. Рабілі гэта так, каб кроў ахвярнай жывёлы пралілася на нос лодкі. Бываюць і іншыя ахвяры: пад мачту падкладаюць манетку, або разбіваюць аб карму бутэльку віна — на шчаслівы ўлоў. Відавочна, некалі падобны звычай сведчыў пра гатоўнасць людзей заплаціць воднаму цару за рыбу, якую яны возьмуць з яго ўладанняў. І яшчэ, калі рыбакі ідуць на рыбалку, яны ніколі не забываюцца плюнуць у свае лодкі і сеці. Такая прымха вядомая яшчэ з рымскіх часоў. Але мала хто з рыбакоў ведае пра тое, што сліна, паводле ўяўленняў старажытных, — сімвал чалавечай душы, а плявок — ахвяра воднаму гаспадару. Дарэчы, гэтая прымха распаўсюджана ва ўсім свеце, яе паўсюдна трымаюцца нават у нашы дні.

Але гаспадар усіх рыб можа быць не такім пачварным і злосным. Па адной з легендаў, князь рыб — вясёлы юнак з рыбіным хвастом. Ён абараняе сваіх падданых ад рыбакоў. У тых вадаёмах, дзе ён валадарыць, рыбакі толькі дарма ставяць сеці. Час ад часу рыбіны князь выходзіць на бераг, яго хвост звычайныя людзі не бачаць. І ў адрозненне ад сваіх падданых ён можа свабодна дыхаць паветрам. Любіць рыбіны гаспадар павесяліцца, танчыць на святах, жартаваць з дзяўчатамі. Аднойчы князь заседзеўся ў гасцях — на вяселлі ў адной з вёсак, і забыўся на свае абавязкі. А сярод гасцей трапіўся чараўнік, які згледзеў яго хвост і шапнуў пра тое рыбакам. Тыя адразу падаліся на Дзвіну лавіць рыбу і да ранку нацягалі яе цэлыя горы. Вярнуўся князь дахаты і даведаўся, што здарылася з ягонаю адсутнасць. Плакаў ён цэлы тыдзень так, што ўся Дзвіна жаласна стагнала і хадзіла хвалямі. Пасля ніхто ўжо не бачыў рыбінага князя. Але кажуць, што і дагэтуль ён гаспадарыць у вадаёмах Беларусі, сумленна спаўняе свой доўг.

Увогуле, наконт рыбнай лоўлі існавала безліч прымхаў і забабонаў. Так, спрыяльнымі днямі для рыбалкі ў беларусаў былі аўторак, чацвер і субота. Сыходзячы на рыбную лоўлю, не зачынялі за сабою дзверы, у адваротным выпадку сетка таксама "замкнулася" б. Пакуль рыбак быў у хаце, гаспадыня не мусіла падмятаць. Каб пашанцавала з ловам, добра было сустрэць па дарозе мужчыну, габрэя ці каго-небудзь з поўным вядром. Калі ж насустрач трапляліся жанчына або святар, можна было вяртацца дахаты, усё роўна нічога не зловіш! Шчаслівай лічылася сетка, зробленая за адзін дзень. Яе вязала ўся вёска: з ільну скручвалі ніткі, якія потым сплягалі ў сетку. Пачынаць працу трэба было на маладзік, або ў кірмашовы дзень. Лічылася, як людзі збіраюцца на кірмаш, так і рыбы будуць збірацца ў сетку. Калі не шанцавала з рыбай, то сетку прадавалі: трэба было змяніць руку. Калі ў доме быў нябожчык, то сетку выносілі першай.

Апекунамі рыбакоў лічацца святыя Мікалай, Антоні, Андрэй, Пётр і Павел. А 12 ліпеня — дзень Святых апосталаў Пятра і Паўла з'яўляецца іх святам. Святы Пётра завецца ў народзе проста "рыбаловам". Рыбакі яму моляцца, адбываюць імшу, а ў дзень яго свята месцамі існуе звычай збіраць "Пятру-рыбалову на мірскую свячу", якая і ставіцца ў храме перад абразам Святога Пятра. А на добры ўлоў чыталі такую замову: "Святыя апосталы, Пётр і Павел! Сеткі мае шаўковыя, ярусы мае мядовыя, я тут, рыба мая тут. Мора святое, дно залатое, лавіцеся і патрапляйце, і мяне не забывайце. На імя Айца і Сына, і Святога Духа. Амінь".

Ірына КЛІМКОВІЧ

# Клецкія «Карані»

Са студзеня 2009 года на старонках клецкай раённай газеты "Да новых перамог" пачаў выходзіць новы гісторыка-краязнаўчы праект "Карані", аўтарам якога я з'яўляюся. Сама ідэя рабіць штосьці падобнае ўзнікла яшчэ ў 2007 годзе, калі адзначалася 880-годдзе Клецка, аднак спатрэбіўся час для таго, каб яна ўвасобілася ў жыццё. У мастацкім афармленні рубрыкі вельмі дапамог чалавек, якога я лічу сваім сааўтарам, — мастак Анатоль Кірык. Ну і, безумоўна ж, трэба падзякаваць рэдакцыі "раёнкі" за тое, што прадастаўляла старонкі і заўсёды вытрымлівала перыядычнасць выхаду рубрыкі — раз на месяц.

Галоўная мэта праекта — паказаць, што і малыя гарады маюць багатую гісторыю. Асноўны прынцып — не паўтараць таго, пра што раней неаднаразова пісалі. Галоўнае жаданне аўтара — падштурхнуць чытача да працягу размовы.

Першы артыкул, надрукаваны ў "Каранях", быў прысвечаны лёсу кляччан, якія прайшлі вайну ў шэрагах польскай арміі генерала Андэрса. Літаральна праз некалькі дзён да мяне звярнуліся два чалавекі, якія паведамілі, што іх сваякі таксама ваявалі ў далёкай Італіі, маюць узнагароды за бітву пад Монтэ-Касіна. Так мой спіс "невядомых ветэранаў" папоўніўся новымі прозвішчамі, а звароты чытачоў пасля выхаду чарговых публікацый сталі звыклай з'явай. Штосьці ўдакладняюць, часам крытыкуюць. Апошняе прымушае да большай адказнасці, уважлівага адбору і праверкі матэрыялаў.

Адзін з артыкулаў праекта "Карані", у крыху дапрацаваным варыянце, прапануецца чытачам "ЛіМа".

Аўтар

# Ад Пінскай да Першамайскай

Напэўна, у кожным горадзе ёсць вуліцы двух тыпаў. Вуліцы ў новых раёнах, забудаваныя ладнымі, прыгожымі, часта стандартнымі дамамі, і вуліцы гістарычнага цэнтра. Менавіта ад апошніх разрастаецца горад, менавіта яны захоўваюць памяць аб мінулым, а іх дамы, якія неаднаразова дабудоўваліся і перабудоўваліся, маглі б шмат расказаць пра сваіх былых гаспадароў. Да гістарычнага цэнтра Клецка можна без ваганняў аднесці сённяшнія вуліцы Ю. Гагарына, П. Кітчанка, У. Леніна і Першамайскую. Сучасныя назвы яны атрымалі адносна нядаўна, а да гэтага называліся адпаведна Віленскай, Слабадской, Нясвіжскай і Пінскай.

Вуліца Першамайская (былая Пінская) неўзабаве адзначыць сваё 460-годдзе. Першыя згадкі пра яе сустракаюцца ў апісанні Клецка 1552 года. Менавіта ў той час горад пачаў забудоўвацца згодна з заходнееўрапейскай традыцыяй: цэнтрам планіроўкі стала Рыначная плошча (зараз плошча Маякоўскага), ад якой адыходзілі вуліцы Віленская, Нясвіжская і Пінская. Паводле інвентара 1552 года, тут размяшчалася 18 дамоў з колькасцю жыхароў 90 чалавек (прыблізна восьмая частка насельніцтва тагачаснага горада). Сваю назву вуліца атрымала таму, што ад яе пачынаўся гандлёвы шлях Клецк — Сіняўка — Лагішын — Пінск. Менавіта гэтым шляхам праганяліся гурты валоў, прыходзілі абозы ўкраінскіх купцоў з разнастайнымі таварамі: валынскімі яблыкамі, галіцкай соллю, турэцкімі спецыямі, грэцкімі арэхамі.

Інвентар 1626 года яшчэ называе вуліцу Пінскай, а ўжо наступны, 1641-га, фіксуе новую назву — Краснастаўская. Чаму адбылася такая змена? Справа ў тым, што ў першай палове XVII ст. у ваколіцах Клецка з'явілася два вадзяных млыны. Адзін з іх размяшчаўся каля сажалкі Краснастаў. Відавочна, што на гэты млын і клячане, і жыхары вакольных вёсак ездзілі часцей, чым на Пінск. Таму і вуліца, якая туды вяла, атрымала новую назву. Жыхары Краснастаўскай займаліся земляробствам. Некаторыя мелі даволі вялікія зямельныя надзелы, трымалі хатнюю жывёлу. Дакументы другой паловы XVII ст. фіксуюць агарод, абнесены частаколам; гаспадарчыя пабудовы — аборы для кароў і хлявы для свінняў. Інвентар 1685 года адзначае наяўнасць на Краснастаўскай вуліцы першай і адзінай у горадзе лазні, якая размяшчалася на прыватным падворку.

Як і ўвесь горад, вуліца перажыла спусташальныя войны сярэдзіны XVII — пачатку XVIII ст., калі Клецк палілі то маскоўскія, то шведскія войскі. У 1713 годзе на ёй налічваўся 21 пусты пляц. Дамы тут былі разбураны, а гаспадары або загінулі, або ўцяклі, ратуючыся ад навалы. Толькі праз пяцьдзесят гадоў пераадолелі наступствы войн. Паводле інвентара 1760 года на Краснастаўскай было ўжо 27 дамоў і 110 — 120 жыхароў.

У XIX ст. вуліца зноў змяніла назву і стала Радзівілімонтаўскай. Гэта звязана з тым, што ў Радзівілімонтах была збудавана новая княжацкая рэзідэнцыя. Дарога да яе пачына-



лася ад Рыначнай плошчы, потым паварочвала на вёску Бабаевічы, а ўжо адтуль — на княжацкі палац. Пазней, у пачатку XX ст., за вуліцай замацавалася назва Бабаеўская. Менавіта так яе і зараз называюць старажылы, з якімі мне давodзілася размаўляць. А вось на плане Клецка, складзеным вучнямі польскай школы ў 1932 годзе, які захоўваецца ў фондах музея гісторыі Клеччыны, яна па-ранейшаму названа Радзівілімонтаўскай. Відаць, у той час паралельна суіснавалі афіцыйная і гутарковая назвы.

Істотна змяніўся і склад насельніцтва вуліцы. У XIX — пачатку XX ст. яна была заселена яўрэямі. Па законах Расійскай імперыі ім было забаронена жыць у вёсках, купляць зямлю і займацца сельскай гаспадаркай. У Клецку яны складалі больш як палову насельніцтва. У чыншавай ведамасці 1874 года сярод жыхароў Радзівілімонтаўскай вуліцы мы знаходзім толькі адно славянскае прозвішча — Антон Дарапашын, яму належаў самы вялікі пляц; астатнія — яўрэйскія. Жыхары вуліцы займаліся пераважна рамяством, сярод іх згадваюцца: шкляр, меднік, кравец, некалькі кавалёў, мяснік і інш. Мяркуючы па ўсім, жылі гэтыя людзі небагата. Мала хто з іх мог заплаціць князю чынш за карыстанне зямлёй, большасць адносілася да ліку неплацельшчыкаў. Некаторыя па 5 — 6 гадоў былі не ў стане заплаціць за свае надзелы, расла нядоімка. Пляцы былі вельмі малыя. На кожным сённяшнім участку стаяла па 3, а часам па 4 — 5 хатак. Здаралася так, што з акна адной хаты рукой можна было дацягнуцца да сцяны суседняй. Асабліва шчыльна была забудавана частка ад Рыначнай плошчы да Татарскай вуліцы (сёння вуліца Л. Талстога).

Падчас акупацыі ў Вялікую Айчынную вайну заходняя частка вуліцы была адведзена пад яўрэйскае гета. Яна цалкам згарэла пры ліквідацыі апошняга ў ліпені 1942 года. Тая жахлівая падзея — адчайныя спробы яўрэяў вырвацца з полымя, і тое, як іх расстрэльвалі немцы і паліцаі, — надоўга ўрэзалася ў памяць клячан. Па ўспамінах сведкаў, каля лодзеж каля яўрэйскай пякарні (цяпер засыпаны) увесь быў завалены целамі забітых людзей. Дамы, якія ацалелі ў 1942 годзе, былі спалены ў ліпені 1944-га, калі ішлі баі за вызваленне Клецка. Толькі пасля вайны вуліца пачала аднаўляцца. Тады ж яна стала Першамайскай. У 1965 годзе тут налічвалася ўжо 56 дамоў.

Варта прыгадаць прынамсі двух жыхароў вуліцы Першамайскай. Казіміра Крашэўскага яшчэ памятаюць старажылы нашага горада. Быў ён адным з нешматлікіх дактароў, якія лячылі клячан у 1930-я. Працаваў у розных мястэчках Нясвіжскага павета, а з 1932 года трывала асеў у Клецку, узначальваў мясцовы аддзел аховы здароўя, займаўся прыватнай практыкай. Яго дом стаяў у самым канцы Бабаеўскай вуліцы. Адзін з пакояў быў спецыяльна абсталяваны для прыёму пацыентаў. Між іншым, менавіта з гэтага пакоя пачаўся шлях у медыцыну выдатнага навукоўца, прафесара, выкладчыка Беларускага дзяржаўнага медуніверсітэта Пятра Лабко (ураджэнца вёскі Кухчыцы Клецкага раёна). Як прыгадвае сам Пётр Іосіфавіч, у дзяцінстве ён часта хварэў, і тады бацька прыводзіў яго да Крашэўскага: "Мне падабалася, як працуе доктар, падабаўся яго белы халат. Так што жаданне лячыць людзей з'явілася яшчэ ў дзяцінстве."

У час акупацыі Крашэўскі ўзначальваў бальніцу ў Клецку і Нясвіжы. У верасні 1944 года быў мабілізаваны ў Войска Польскае. Удзельнічаў у фарсіраванні Одэра, штурме Берліна. Пасля вайны ў Клецк не вярнуўся, працаваў кіраўніком павятовай бальніцы ў Польшчы.

Прайшоў франтавымі дарогамі і яшчэ адзін жыхар Першамайскай Дарафей Чорны. Салдат-тэлефаніст стралковага палка, ён удзельнічаў у штурме Кёнігсберга, у вайне з Японіяй. Адзначаны вышэйшымі салдацкімі ўзнагародамі — ордэнам Славы III ступені і медалём "За адвагу". Вярнуўшыся на радзіму, працаваў у школе. Выкладаў геаграфію, маляванне, ствараў турыстычна-краязнаўчы гурток. Рэчы, сабраныя школьнікамі падчас паходаў, сталі асновай для экспазіцыі школьнага музея. Неўзабаве, пры непасрэдным удзеле Дарафея Чорнага, яго калег і вучняў у Клецку адкрыўся дзяржаўны гісторыка-этнаграфічны музей, а Дарафей Максімавіч стаў яго першым дырэктарам.

Сёння пра мінулае старажытнай вуліцы нагадвае дом 51, размешчаны амаль у самым яе канцы. Гэты будынак з калонамі рэзка адрозніваецца ад іншых пабудоў. Дом быў узведзены ў 1926 годзе (дата захавалася на падмурку) памешчыкам Лявонам Бярновічам з маёнтка Зубкі. Ён нейкі час быў бургамістрам горада, але жыў тут рэдка. Пасля будынак арандавала Клецкая беларуская гімназія. Увогуле, яе памяшканні — класы, інтэрнаты былі раскіданы ў розных дамах па ўсім Клецку, аднак да нашых дзён захаваўся толькі дом Бярновіча. Да таго ж, калі не памыляюся, гэта самы стары жылы будынак сучаснага Клецка.

Андрэй БЛІНЕЦ

На здымку: Лявон Бярновіч.

# Пошукі, раскопкі...

У сценах Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі стала добрай традыцыяй падводзіць прамежкавыя вынікі развіцця пэўных галін навукі на спецыяльных мерапрыемствах, адкрытых для прадстаўнікоў прэсы. Прыкладам ажыццяўлення такой палітыкі стала пасяджэнне бюро аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў, прысвечанае развіццю археалагічнай навукі за апошнія пяць гадоў.

Праявай увагі кіраўніцтва акадэміі да праблем археалогіі стала прысутнасць на пасяджэнні Старшыні Прэзідыума НАН Беларусі Міхаіла Мясніковіча і колішняга дырэктара Інстытута гісторыі Аляксандра Каваленi, які цяпер узначальвае Аддзяленне гуманітарных навук і мастацтваў. Менавіта Аляксандр Аляксандравіч адкрыў пасяджэнне, распавёў пра дасягненні гуманітарных дысцыплін. Лепшым сведчаннем плённай працы даследчыкаў сталі 34 манаграфіі, 15 дапаможнікаў, 8 брашур, якія выйшлі за апошні час, актыўнасці ўстановы — больш як 200 адказаў на лісты дзяржаўных органаў і грамадзян. Выступоўца таксама акцэнтаваў увагу прысутных на пэўных праблемах: недахоп тэарэтычных прац, слабое прыцягненне да супрацоўніцтва выкладчыкаў ВНУ, адсутнасць належнага рэцэнзавання прац калег.

З абмеркавання больш шырокіх пытанняў прысутныя перайшлі да дасягненняў і праблем археалогіі, якія прадставіла ў сваім дакладзе загадчык цэнтра даіндустрыяльнага грамадства Вольга Ляўко.

Першым стала пытанне засялення тэрыторыі Беларусі. Даследаванні, якія былі праведзены ў мінулым годзе па просьбе беларускага боку ў Галандыі, дазволілі больш дакладна датаваць храналогію першых стаянак на тэрыторыі Беларусі: Бердыж, Юравічы, Кавальцы. Наконт Юравіч зроблена высновa, што стаянка з'явілася месцам забою здабычы, то бок паляўнічым лагерам. Гэтае месца ўключана ў турыстычны агляд, прынята рашэнне аб яго музеефікацыі. Даследаванні беларускіх навукоўцаў дазволілі скласці "Звод палеалітычных стаянак" на тэрыторыі Беларусі. Калі раней былі вядомыя 15 помнікаў таго часу, дык зараз — 356 аб'ектаў. Шмат даводзіцца ўздзельнічаць беларускім археолагам у выратавальных раскопках. Напрыклад, пры будаўніцтве Гродзенскай ГЭС 30 помнікаў трапляюць у зону затаплення. Для выратавання знаходак створаны мабільныя атрады (у тым ліку з удзелам студэнтаў).

Даследаванні ў Бірулях, на Докшычыне выявілі пахаванне з канём, якое пацвярджае версію пра аседласць варажскіх дружыннікаў у раёне днярроўскай Бярэзіны. На мяжы Бешанковіцкага і Сенненскага раёнаў адначасова даследаванні Крывінскага тарфяніка. Праводзіцца вывучэнне Агінскага канала, тэрыторыі Белавежскай пушчы, дзе знойдзена каля 50 стаянак і паселішчаў каменнага веку. Актыўна даследуецца старажытны Мінск. Адна з самых цікавых знаходак адбылася падчас раскопак у Друцку — пахаванне 38 чалавек, астанкі якіх размешчаны на чатырох узроўнях згодна сацыяльнай іерархіі. Магчыма, гэта пахаванне аднаго з мінскіх княжычаў з дружынай і абслугай.

Пошукі археолагаў дазваляюць удакладніць шэраг агульнавядомых дат. Напрыклад, на тэрыторыі Полацка знойдзены арабскія дырхемы, якія датуюцца не пазней за 818 год. Нагадаю, што першае ўпамінанне Полацка ў летапісах адносіцца да 862 года. Таму, магчыма, неўзабаве нам давядзецца пераглядаць падручнікі гісторыі.

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

# Руплівца музейнай справы

1 лістапада 2010 года на 77-м годзе жыцця адышоў у вечнасць Міхаіл Пратасевіч, шчыры руплівец музейнай справы. Ён нарадзіўся 1 сакавіка 1933 года ў в. Ворат Смалявіцкага раёна Мінскай вобласці. Пасля заканчэння філфака БДУ працаваў настаўнікам, а з 1959 г. амаль напалову стагоддзя свой творчы лёс звязаў з музеямі майстроў беларускага прыгожага пісьменства. Ён працаваў у музеях Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, гісторыі беларускай літаратуры, Петруся Броўкі. Яму пашчасціла быць аўтарам канцэпцый і кіраўніком творчых груп больш як дваццаці музейных экспазіцый пра жыццё і творчасць Якуба Коласа, Максіма Гарэцкага, Кузьмы Чорнага, Петруся Броўкі. У Музеі гісторыі беларускай літаратуры ён стварыў унікальную літаратурна-дакументальную выставу "Покліч" пра трагічны лёс рэпрэсаваных пісьменнікаў. Міхаіл Іванавіч валодаў рэдкім дарам: знайсці кожнай памятцы мінулых часоў — прадмету, фотаздымку, рукапісу, кнізе — сваё месца ў экспазіцыі. Пра музейны экспанат ён распавядаў з захапленнем і перадаваў сваю апантанасць калегам. Быў адным са складальнікаў і аўтарам бібліяграфічных даведнікаў і выданняў пра музеі, удзельнічаў у падрыхтоўцы зборy твораў Якуба Коласа ў 4-х тамах — выдадзенага ў Маскве да 100-годдзя з дня нараджэння паэта. Шмат друкаваўся ў перыядычных і энцыклапедычных выданнях. Светлая памяць пра Міхаіла Пратасевіча назаўжды застанецца ў сэрцах яго ўдзячных калег і вучняў.

Тацццяна Высоцкая, Антаніна Гарон, Зінаіда Камароўская, Зінаіда Кучар, Лідзія Макарэвіч, Міхась Мушынскі, Віталь Скалабан, Тацццяна Шэляговіч

# А праект здаваўся бяскрыўдным

Час ідзе, людзі сталага веку ўсё радзей згадваюць колішнія праблемы, а моладзь нават не ўяўляе, наколькі складаным магло быць ажыццяўленне абсалютна, як па сённяшнім часе, бяскрыўдных праектаў. 4 лістапада 1975 г. — 35 гадоў таму — у рэдакцыі часопіса “Нёман” распачалася амаль дэтэктыўная гісторыя з публікацыяй ліставання Аляксандра Твардоўскага і Міхаіла Ісакоўскага. Удава Аляксандра Трыфанавіча прапанавала рэдакцыі “Нёмана” лісты паэтаў з просьбай у бліжэйшым часе іх апублікаваць — аднак яе просьба ажыццявілася зусім не так, як спадзяваліся. У гісторыі прынялі ўдзел самыя розныя асобы — ад маленькага Андрэя (унука Твардоўскага) да загадчыка аддзела культуры ЦК КПСС Васіля Шауры. Падзеі, звязаныя з публікацыяй, былі вельмі канкрэтна і падрабязна апісаныя ў дзённіку Георгія Папова, які ў 1959 — 1978 гг. працаваў у часопісе “Нёман” (спачатку адказным сакратаром, з 1966 г. — намеснікам галоўнага рэдактара).

Тэкст дзённіка цалкам пачне друкавацца ў сучасным “Нёмане” з дванаццатага нумара 2010 г. Дзякуючы запланаванай публікацыі чытач зможа атрымаць больш рэалістычнае ўяўленне пра класікаў беларускай літаратуры, даведацца пра складанасці з выданнем часопіса, пазнаёміцца з поглядамі і ацэнкамі самога Георгія Папова. Тыя ж урыўкі з дзённіка, якія прапануе чытачам “ЛіМ”, магчыма, уразяць шмат каго складанасцю грамадска-палітычнай сітуацыі эпохі “застою”, спецыфікай умоў, у якіх развівалася ўся савецкая і, у прыватнасці, беларуская літаратура. Насычанасць тэксту падзеямі, датамі, лічбамі зробіць яго цікавым для аматараў гісторыі літаратуры.

Алеся ЛАПІЦКАЯ

## Георгій Папоў

# Старонкі з дзёніка

## (гісторыя публікацыі ў «Нёмане» ліставання А.Твардоўскага і М.Ісакоўскага)

4 лістапада 1975 г.

Учора прыехала жонка Твардоўскага — Марыя Іларыёнаўна, — і мы ўтрох (Макаёнак, Жыжэнка[1] і я) хадзілі да яе ў гасцініцу “Мінск”.

Я чамусьці чакаў убачыць няхай і старую, але высокую, з адбіткам колішняй прыгажосці, жанчыну… Жонку паэта! А перад намі паўстала не поўная, але і не худая старая, зусім сівая, з абвіслымі шчокамі, з бледнымі, амаль пагаслымі вачыма.

Павіталіся. Яна запрасіла прайсці і сесці. Але ў нумары 245 меліся ўсяго два крэслы, таму ёй самой і Жыжэнку прыйшлося сядзець на ложку.

Мы перадалі ёй карэктуру перапіскі, вярнулі фотаздымкі (яна прасіла аб гэтым), паказалі некалькі знойдзеных Шакінкам картак, каб атрымаць дазвол на публікацыю.

Зірнуўшы на карэктуру, Марыя Іларыёнаўна звярнула ўвагу на загаловак “Мой слаўны, дарагі сябар”. Ён падаўся ёй у нейкай ступені прэтэнцыёзным.

— Вы разумееце, Аляксандр Трыфанавіч, як і Міхаіл Васільевіч, не пераносілі нічога прэтэнцыёзнага, ніякіх гучных слоў, выразаў… Памятаеце назвы вершаў Аляксандра Трыфанавіча: “Пра Данілу”, “Яшчэ пра Данілу”, “Пра цяля”… А вы — “слаўны, дарагі”… Пастаўце “Ліставанне двух паэтаў”, і ўсё.

Пагадзіліся, хоць мне асабіста, ды і Жыжэнку таксама, “Ліставанне двух паэтаў” зусім не спадабалася. У нас было больш па-часопіснаму.

Прыйшлося згадзіцца і з патрабаваннямі наконт фотаздымка. Ва ўступным слове, напісаным самой Марыяй Іларыёнаўнай, мы завярсталі фотаздымак маладога Твардоўскага. Яна запярэчыла: ставіць трэба фотаздымкі абодвух паэтаў, гэта значыць Твардоўскага і Ісакоўскага, — альбо не ставіць выявы ні першага, ні другога.

Падчас размовы (яна працягвалася каля паўтары гадзіны) я назіраў за госцяй. Без прычоскі, апранутая надта проста — цёмна-сіні касцюм і такая ж цёмна-сіняя камізэлька амаль да каленяў… Панчохі простыя, дзіравыя — не паспела зацыраваць, а можа, і не лічыла патрэбным цыраваць… Ногі хворыя, пад панчохамі вузлы венаў.

Узгадаўся аповед Еўтушэнкі пра Жаклін Кенэдзі. Калі ён, Еўтушэнка, быў у яе ў гасцях, зазірнуў у ванну — памыць рукі. Глядзіць — вісяць зацыраваныя і памытыя панчохі. Калі вярнуўся, ён быццам бы ўсклікнуў: “Жаклін, вы цыруеце панчохі?!”. Яна засмяялася і адказала: “А вы што, не лічыце мяне жанчынай?”.

Праўда, Марыя Іларыёнаўна ва ўсіх адносінах не Жаклін Кенэдзі, і аповед Еўтушэнкі (мабыць, і не зусім праўдзівы) узгадаўся не зусім дарэчы.

6 лістапада 1975 г.

Сустракаў Твардоўскую Аркадзь Куляшоў. Ён жа ўзяўся зладзіць для яе паездку ў Хатынь і на Курган Славы. Але паездка не адбылася — не знайшлося машыны. Куляшоў да Макаёнка: “Арганізуй!”. Мы маглі б “арганізаваць”. Але 4 лістапада выпаў снег, ехаць было слізка, і прыйшлося адмовіцца.

Гэта было чацвёртага. А пятага мы з Макаёнкам павезлі ў гасцініцу білет на цягнік.

— Падарункаў столькі набыла… Так прыемна! Вось гэта дочкам, а гэта сабе… — Яна паказала на прыгожыя плеценыя кошыкі — цукерніцы і хлебніцы, што ляжалі на ложку. Перад тым, як мы прыйшлі, Марыя Іларыёнаўна рабіла спробы запакаваць іх, засунуць адну ў адну, аднак у яе не атрымлівалася.

Я зноўку сядзеў насупраць, глядзеў на яе, і ў гэты раз яна мне падалася добрай, слаўнай, прыемнай старой. Напэўна, у маладосці яна была калі не прыгожай, то прывабнай. Інакш чым растлумачыць тое, што паэт Твардоўскі, няхай не пясняр кахання, але ўсё ж паэт, сапраўдны паэт, пакахаў яе і назаўсёды звязаў з ёй сваё жыццё і свой лёс.

Калі ехалі ў гасцініцу, Макаёнак расказаў (па словах Аркадзя Куляшова), што дачка Марыі Іларыёнаўны, Вольга Аляксандраўна[2], напісала і распаўсюдзіла ў замежным друку артыкул, у якім адмяжоўвае Твардоўскага ад Салжаніцына. Прычынай з’яўлення артыкула было тое, што Салжаніцын пачаў спекуляваць сваімі сувязямі з Твардоўскім і залічыў яго ледзьве не ў шэраг сваіх аднадумцаў.

Маці падзяляла ўчынак дачкі.

Я спытаў, колькі асобнікаў “Нёмана” ёй адаслаць. Яна адказала, што лепш за ўсё дзесяць адбіткаў і тры часопісы. Гэтага будзе цалкам дастаткова.

— Атрымліваецца чортаў тузін!

— Мне якраз падабаецца гэтая лічба! — з усмешкай заўважыла Марыя Іларыёнаўна.

Пасля я спытаўся, ці ведае яна аб форуме ў Заграбе, што адбыўся ў маі гэтага года. Аказалася, што не ведае. Я ў двух словах расказаў пра форум, між іншым заўважыў, што з дакладам пра Твардоўскага выступаў прафесар Сарбоны Леон Робель, які выказаў думку, што пры жыцці Твардоўскі не карыстаўся ў нас у Савецкім Саюзе дастатковай вядомасцю. Я запярэчыў яму, прывёў доказы.

— Як жа! — падхапіла Марыя Іларыёнаўна. — Аляксандра Трыфанавіча вельмі любілі. Калі б вы ведалі колькі мы атрымлівалі лістоў у апошнія дзесяць гадоў яго жыцця. Паспявалі адказваць толькі на кожны дваццаты ліст. І якія цёплыя, сардэчныя, шчырыя лісты! — І раптам заплакала. Была бадзёрай, нават вясёлай і раптам заплакала. Мы змянілі тэму размовы.

<…>

— Георгій Лявонцьевіч, калі Макаёнка няма, Марцэлеў[3] просіць прыйсці вас.

Апранаюся, іду. У будынку ЦК чакаю, пакуль апусціцца ліфт. Раптам падыходзіць Аляксандр Цімафеевіч Караткевіч[4].

— Як жывецца? Як працуецца?

Кажу, што бывае па-рознаму. Часам і цяжкавата. Як цяпер, напрыклад.

— Што, ліставанне Твардоўскага з Ісакоўскім захацелі апублікаваць? — смяецца.

Падымаемся на чацвёрты паверх. Заходжу да Кудраўца[5].

— Наконт ліставання? — пытаюся.

— Не ведаю, — паціскае плячыма.

Вось табе на! Загадчык аддзела навукі ЦК ведае, а работнік аддзела культуры не ведае… Ну, ды бог з ім. Ідзём да Марцэлева. Станіслаў Віктаравіч падае руку, паказвае на крэсла:

— Сядайце!

Сядаю.

— Кепскі падарунак вы робіце з’езду! — з месца ў кар’ер.

І адразу ж, не даючы мне і слова сказаць:

— Чаму рэдакцыя часопіса “Наш современник” адмовілася друкаваць лісты Твардоўскага і Ісакоўскага?

— Я першы раз чую пра гэта… Па тых звестках, што ў мяне ёсць, Марыя Іларыёнаўна, жонка Твардоўскага, нікуды, акрамя як у “Нёман”, не прапаноўвала гэтыя лісты.



Якуб Колас з М. Ісакоўскім падчас сустрэчы са школьнікамі. Першая палова 1950-х гг.

— Ну, гэта мы ўдакладнім… Трэба перанесці ліставанне на пасляз’ездаўскія нумары. Ну, скажам, на чацвёрты. Зараз яно проста недарэчы.

Я пачаў пярэчыць, казаў, што Твардоўскі — гэта такая постаць, якая заўсёды дарэчы, узгадаў пра барацьбу, якая ідзе каля яго, узгадаў і пра ліст Вольгі Аляксандраўны, дачкі паэта…

— Усё адно… Трэба перанесці… Не зняць, а перанесці… І зробіце гэта вы самі, рэдакцыя…

— Што ж, трэба дык трэба.

— Макаёнку можаце перадаць нашу размову. Жонцы Твардоўскага не тэлефануйце, няхай гэта зробіць Макаёнак. Вернецца з Гомеля, мы з ім пагаворым. — І паказаў карэктуру першага нумара часопіса “Нёман”: — Вось вашыя грахі!

Я папрасіў:

— Мабыць, я забяру… Нам жа ўсё адно трэба працаваць над нумарам, перавёрстваць…

— Не-е, гэта няхай паляжыць у нас!

…Што ж, не ў першы раз такое. Але як адрэагуе на гэта



Якуб Колас з А. Твардоўскім. 1950-я гг.

Марыя Іларыёнаўна? І што скажуць (а калі не скажуць, дык падумаюць) тыя чытачы і прыхільнікі Твардоўскага, якім мы ў дванаццатым нумары паведамілі, што павінна выйсці публікацыя? І што, наогул, значыць гэтая гісторыя? У мяне ўвесь час такое адчуванне, што ў спіну і ў твар (калі як) дзьме халодны ветрык трыццаць сёмага года…

8-15 снежня 1975 г.

Тэлефануе Макаёнак. Распавядаю яму, як усё было. Зрываецца:

— Я пайду… Я адмоўлюся… Я не хачу быць галоўным рэдактарам… Не хачу!

Калі супакоіўся, сталі цвяроза разважаць. Узгадваю, што з важнага я не сказаў Марцэлеву, — не сказаў, прынамсі, што ў дванаццатым нумары мы паведамілі аб публікацыі… Макаёнак ухапіўся за гэтую думку і вырашыў ісці ў ЦК, у самыя вышэйшыя інстанцыі.

* * *

У каго яму давялося быць — не ведаю. З размоў стала зразумелым, што ўсе на нашым баку. Нават Марцэлеў пачаў сумнявацца: ці не перабольшыў ён.

Аднак вырашаць ніхто не хоча, дакладней, ніхто не хоча браць на сябе адказнасць. Вось прыйдзе А.Т.К.[6] — ён і вырашыць, і возьме. Ва ўсякім выпадку, у Макаёнка на гэты конт ніякіх сумненняў не было.

Чакаем дзень. Чакаем другі. Чакаем трэці. Нарэшце прыязджае А.Т.К. (ён чамусьці ездзіў у Індыю), і яму адразу ж перадаюць карэктуры ліставання Твардоўскага і Ісакоўскага.

Справа была ў мінулую пятніцу. Калі я збіраўся дадому, Макаёнак сказаў:

— Я табе патэлефаную… заўтра…

І сапраўды, пазаўчора, у суботу, пачуўся званок. Бяру слухаўку. Голас у Макаёнка даволі змрочны. Значыць, нічога не атрымліваецца.

— Як настрой? Светлы, як гэты дзень? А ў мяне горш няма куды… А.Т.К. прачытаў і кажа, што трэба ехаць у Маскву — да Маркава[7], Озерава[8] і Шауры[9]. Толькі яны могуць даць санкцыю. Без іх нельга.

— А нашто ехаць? Патэлефануй Маркаву альбо Озераву, — пытанне настолькі простае, што яго можна вырашыць па тэлефоне. Ты — Маркаву, а А. Т. К. няхай патэлефануе Шауру. Для яго гэта прасцей.

— А што! Гэта ідэя! Заўтра ж звяжуся з Озеравым. Тэлефон у Шамякіна ёсць. А пасля набяру табе, распавяду, як і што.

* * *

Зараз панядзелак. Раніца. Званка дагэтуль няма. Баюся, што яго і не будзе.

Георгій ПАПОЎ

Пераклад Алеся Красіцкага

Публікацыя Алены Паповай

(Фотаздымкі прадастаўленыя Беларускім дзяржаўным архівам-музеем літаратуры і мастацтва.).

(Працяг у наступным нумары)

[1] Жыжэнка Уладзімір Аляксандравіч (1931 — 2003) — крытык, перакладчык, з 1969 г. літсупрацоўнік аддзела прозы, загадчык аддзела мастацтва, крытыкі і бібліяграфіі часопіса “Нёман”.

[2] Твардоўская Вольга Аляксандраўна — мастак тэатра і мастацкага кіно, заслужаны мастак Расіі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РФ.

[3] Марцэлеў Станіслаў Віктаравіч (1925 — 2003) — беларускі гісторык, доктар гістарычных навук, з 1965 г. загадчык аддзела культуры ЦК КПБ.

[4] Караткевіч Аляксандр Цімафеевіч (н. у 1922 г.) — беларускі гісторык, партыйны дзеяч, заслужаны работнік вышэйшай школы Беларусі.

[5] Кудравец Анатоль Паўлавіч – празаік, перакладчык, з 1974 г. інструктар, загадчык сектара мастацкай літаратуры ў ЦК КПБ, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я.Коласа за раман “Сачыненне на вольную тэму”.

[6] Кузьмін Аляксандр Трыфанавіч — беларускі грамадска-палітычны дзеяч, з лютага 1971 г. сакратар ЦК КПБ.

[7] Маркаў Георгій Макеевіч(1911 — 1991) — расійскі пісьменнік, з 1971 г. першы сакратар праўлення СП СССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР за раман “Строгавы”.

[8] Озераў Леў Адольфавіч (1914 — 1996) — расійскі паэт, перакладчык, літаратуразнаўца.

[9] Шаура Васіль Філімонавіч (1912 — 2007) — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, першы сакратар Мінскага абкама КПБ (1956 — 1960), сакратар ЦК КПБ (1960 — 1965), загадчык аддзела культуры ЦК КПСС (1965 — 1986).

# Някідкая праява мужнасці

У пастаноўцы жыццёвых пытанняў і выбары падыходаў да іх вырашэння чалавеку заўжды даводзіцца ўлічваць сілу абставін і ўласныя духоўныя магчымасці. Традыцыйная праблема "чалавек і абставіны" была і застаецца ў ліку найбольш складаных як у рэальным жыцці, так і ў літаратуры. Многае тут можа праясніць і патлумачыць літаратурная класіка як вышэйшая форма пазнавальна-адлюстравальнай эстэтычнай энергіі, хоць і само мастацкае слова літаратурнай класікі ў асвятленні і асэнсаванні гэтай праблемы крытыка і літаратуразнаўства часам недаацэньвалі, а іншы раз спрашчалі і вульгарызавалі. Асабліва такія спрашчэнні мелі месца ў трактоўцы тых мастацкіх твораў, дзе пісьменнік з улікам рэальнага стану рэчаў штучна не праспешваў чалавека да вонкавай актыўнасці, калі перашкода на пэўны, канкрэтны момант была сур'ёзнай, а самому чалавеку трэба было яшчэ падумаць, паразважаць і дзесьці нават пацярпець на шляху да здзяйснення сваёй мэты. Меў рацыю Ф. Дастаеўскі, калі гаварыў, што вялікія ісціны не прыходзяць самахоць, іх трэба выпакутаваць.



Дарэчы, ідэю валюнтарысцкай паспешлівасці і нецярплівасці пры вырашэнні важных жыццёвых пытанняў рашуча не прымала і адхіляла наша класічная літаратурная традыцыя ў асобе такіх яе волатаў, як Якуб Колас і Янка Купала. Іх слова часта было адкрыта заклікальным. Яно ў многіх выпадках несла пакутлівы боль аўтарскай душы, нярэдка было журботным і іранічным з той прычыны, што дзесьці ў іншых краінах працоўны люд станавіўся на абарону сваіх чалавечых правоў, а беларус, беларускі селянін, не дужа спяшаўся выйсці за межы вузкапобытавых інтарэсаў.

Нашы класікі былі, аднак, у высокай ступені ўважлівымі і беражлівымі да чалавека. Такі свой жыццёвы погляд яны надзвычай цесна суадносілі і ўзаемазвязвалі з мастацкім словам, пэўным чынам засцерагаючы герояў сваіх твораў ад паспешлівых, а тым болей авантурных, валюнтарысцкіх дзеянняў. Вельмі яскрава ўсё гэта праяўляецца, да прыкладу, у мастацкім сюжэце буйных эпічных твораў Якуба Коласа. Не выключана, што чытач прыняў бы і больш актыўную праяву супрацьдзеяння герояў "Новай зямлі" Міхала і Антося тым абставінам, у якіх яны знаходзяцца. Але аўтар не спяшаецца скіраваць іх на такі шлях, бо яго мастацкае слова ўлічвае канкрэтную грамадскую сітуацыю і рэальныя магчымасці таго рэальнага чалавека, які жыва прыгадваўся паэту, калі ён маляваў сваіх герояў.

Пісьменнік, безумоўна, неаднойчы задумваўся над шматпакутным лёсам беларускага народа, якому на працягу многіх стагоддзяў даводзілася жыць пад цяжкім сацыяльным і нацыянальным уціскам. І ён прыходзіў да вываду, што ў надзвычай складаных, цяжкіх умовах народ змог застацца народам, захаваць сваю мову, звычаі і жывую душу, дзякуючы менавіта таму, што ўмеў змагацца, быць гордым, непадкупным, непахісным і … умеў чакаць, цярпець, не трацячы пры гэтым надзей на лепшае заўтра. Як нам здаецца, той псіхалагічны стан і варыянт цярпення, што ўласцівы светаўспрыманню такога чалавека, можна было б назваць своеасаблівай і шмат у чым вымушанай, часовай формай "дамоўленасці" з абставінамі, якія не так проста і лёгка было з ходу перайначыць-перарабіць адпаведна сваім уяўленням аб шчасці і волі. А ў падобных выпадках вельмі важным было для чалавека не зламацца раней часу, не апусціць рукі, не расчаравацца і захаваць веру ў лепшую долю.

Якуб Колас спачувае і ў нейкай ступені нават сімпатызуе ціхмяна-цярпліваму чалавеку. Але толькі да пэўнай мяжы, датуль, пакуль гэтыя цярплівасць, ціхмянасць і непаспешлівасць не перарастаюць у рабскую пакорлівасць і не парушаюць асноватворныя прынцыпы агульначалавечай маралі і сумленнасці. Дарэчы, сумленнасць для галоўных герояў коласаўскай паэмы "Новая зямля" — паняцце надзвычай каштоўнае і важнае, а ў нечым нават святое і вызначальнае ў агульнай сістэме духоўнасці, у духоўным статусе чалавечай асобы, хоць дзе-нідзе (найбольш у побытава-гаспадарчых справах) яны могуць схітраваць, знарок прыкінуцца прасцякамі і пайсці на нейкія часовыя кампрамісы.

Цікава прасачыць у гэтым сэнсе працэс "інтэрпрэтацыі" паняццяў "цярпенне", "пацярпець", "цярплівасць" і інш. героем паэмы "Новая зямля" Міхалам. Падчас яму здаецца, што цярпенне — настолькі магутная духоўна-псіхалагічная сіла, што ў дыялогу з любымі, самымі неспрыяльнымі абставінамі гэтая сіла здольна засведчыць незвычайна вялікую вытрымку. Міхала наведвае нават парадаксальная думка-ідэя аб тым, што "цярпенне — усё", што "яно — безмежнасць", а калі гэта так, то падобная сіла быццам бы можа на нейкі момант выручыць чалавека з бяды, "даць … збавенне" і ў пэўным сэнсе стаць замеennікам незалежнасці.

Пісьменнік, безумоўна, неаднойчы задумваўся над шматпакутным лёсам беларускага народа, якому на працягу многіх стагоддзяў даводзілася жыць пад цяжкім сацыяльным і нацыянальным уціскам. І ён прыходзіў да вываду, што ў надзвычай складаных, цяжкіх умовах народ змог застацца народам, захаваць сваю мову, звычаі і жывую душу.

Аднак такія думкі ў коласаўскага героя звычайна суседнічаюць з думкамі-пытаннямі, думкамі-сумненнямі, якія шукаюць іншыя, альтэрнатыўныя рашэнні і заключаюць у сабе пафас даволі крытычных адносін да таго, каб надаваць цярпенню і цярплівасці колькі-небудзь высокі духоўна-маральны і характарыстычны сэнс. Паслухаем лепш самога Міхала. Так, на заўвагу свайго брата Антося пра тое, што дзеля набыцця ўласнага кавалка зямлі можна было б пэўны час "пацярпець" і не выступаць, не бунтаваць супроць прыніжэння ўласнай годнасці, працуючы на нялюбай леснікоўскай службе, Міхал адказвае:

…Але б вы самі спрабавалі,  
Калі б у вочы вам плявалі  
І вас агідаю, знявагай  
Па сэрцы білі, як той шлягай!  
А ты маўчы, свяці вачамі  
Перад паўпанкамі, панкамі  
І перад панскім  
розным збродам,  
Цярпеннем скованы,  
як лёдам!

Як бачым, не такі ўжо Міхал рахманы і цярплівы. Ды і брат яго Антось, што раіць часам Міхалу быць пакорным, ціхім і паслухмяным, раптам узрываецца гневам, даведаўшыся, што ляснічы без дай прычыны "слатою" чапляецца да Міхала і не дае яму спакойна жыць і працаваць:

Ото ж зараза! от халера!  
От дачакалі сабе звера!  
Прыпільнаваць  
бы дзе брыду! —  
За гітал, падлу, ды ў ваду!

У свой час І. Навуменка ў літаратуразнаўчым даследаванні "Якуб Колас. Духоўны воблік героя" (1981) зрабіў, як нам уяўляецца, цікавую заўвагу ў сэнсе вызначэння духоўнай сутнасці героя і ў сэнсе больш заглыбленага разумення ўнутранай узаемазвязанасці двух розных і шмат чым супрацьлеглых (паводле свайго метадалагічнага, праблемна-тэматычнага і структурнага ладу) светаў, уласцівых паэмам "Новая зямля" і "Сымон-музыка". "І хоць панскі ляснік, — піша І. Навуменка, — нават думкі не дапускае, што ён ці падобныя да яго могуць узяцца за зброю, якой ім нават пазычаць не трэба, мы не можам яму адмовіць у мужнасці і цэльнасці натуры. Герою ў вышэйшай ступені ўласціва мужнасць цярпення, з якой паэт звязвае мужнасць сацыяльнай надзеі… Уменне цярпець — магчыма, галоўная, вядучая рыса характару Міхала <...> Колас адчуў, што ўпартае, зацятае змаганне простага чалавека за сваё шчасце, змаганне, якое падпарадкавала сабе ўсе сілы яго душы і скончылася трагічна, перш за ўсё "высокая" гераічная тэма".

Абгрунтоўваючы гэтую думку, І. Навуменка звяртае ўвагу на тое, што ўзаемадзеянні з абставінамі ў рэалістычнай коласаўскай "Новай зямлі" і ў рамантычных паэмах Купалы маюць прынцыповы характар адрознення. "І калі Купала, — гаворыць ён, — маляваў натуры, якія адмаўляюць цярпенне як рысу сацыяльных паводзін (Бандароўна, Гусляр), паказваў герояў, якія аддаюць перавагу смерці перад знявагай, то Колас пайшоў іншым шляхам, выдатна даказаўшы, што ў шматгадовым цярпенні і імкненні пераносіць простым чалавекам здзек і знявагу ёсць мужнасць і героіка".

Цалкам пагадзіўшыся з аўтарам гэтых слоў, хацелася б, аднак, дадаць, што ў выразна акрэсленым непадабенстве ў адносінах да неспрыяльных жыццёвых абставін рэалістычных коласаўскіх герояў і рамантычных герояў Купалы ёсць паміж імі і вельмі важныя духоўна-псіхалагічныя пункты еднасці і сутыкнення. Рамантычны купалаўскі герой і асабліва той з іх, хто ўвасабляе ў сабе пазітыўны, станоўчы тып характару, выяўляе сябе звычайна нецярплівым, імпульсіўна рэзкім, рашучым, бескампрамісным у дачыненні да ўсяго таго, што скоўвае яго волю і зневажае яго чалавечую годнасць. Рэалістычны коласаўскі герой і, у прыватнасці, станоўчы герой паэмы "Новая зямля" займае ў падобных выпадках некалькі іншую пазіцыю. Ён таксама балюча рэагуе на знявагу ўласнай асобы, хоць выяўляе такую рэакцыю ў больш спакойных і, галоўнае, больш "схаваных", прытоеных, закамуфліраваных формах. Героі "Новай зямлі" Міхал і Антось, як правіла, учыняюць "суд" над сваімі крыўдзіцелямі завочна, пад дахам роднай хаты, у коле сваёй сям'і.

Для рамантычных герояў Купалы падобнае і ў шэрагу выпадкаў больш актыўнае супрацьдзеянне валявому націску на іх духоўную свабоду з'яўляецца нормай паводзін. Аднак хоць героі Купалы і Коласа па-рознаму выяўляюць тут сваю нязгоду з неспрыяльнымі абставінамі, па-

Якуб Колас быў далёкі ад іканапіснага ўспрымання беларускага селяніна і наогул беларуса, не згладжваючы і супярэчлівую прыроду характараў сваіх герояў. Народны характар у яго мастацкай інтэрпрэтацыі мае багаты спектр самых разнастайных колераў і адценняў.

рознаму пратэстуюць супраць падману і двухсэнсоўнасці, зла і несправядлівасці, збліжае іх тая рыса духоўнага свету, што ў абодвух выпадках суадносіцца, гаворачы словамі І. Навуменкі, з паняццямі мужнасці і гераізму. У рамантычнай структуры мастацкага твора такая адметнасць характару чалавека выступае ў больш адкрытых, відочных і рэзка акрэсленых адзнаках свайго выяўлення, а ў творы рэалістычнай стылёва-жанравай арганізацыі гэта асаблівасць знаходзіцца дзесьці ў глыбінях псіхалогіі і свядомасці чалавека і ў пэўным сэнсе прыглушаецца, "скрадваецца" яго штодзённымі жыццёвымі клопатамі. На паверхню ўчынку і дзеяння мужнасць і гераізм выходзяць тут звычайна ў досыць спакойных і падчас кампрамісных, памяркоўных праявах.

Такая сціплая і някідкая адзнака побытавай мужнасці чалавека па-свойму трансфармуецца і ў характарах паэмы Якуба Коласа "Сымон-музыка", хоць важныя моманты сюжэта і чалавечых учынкаў абумоўліваюцца тут ужо творчым метадам рамантызму. "Тое, што ў "Новай зямлі" жыло як мара Костуся — імкненне вырвацца ў вялікі свет думак і высакародных, высокіх пачуццяў, — у паэме "Сымон-музыка" атрымлівае вобразнае ўвасабленне. Герой паэмы Сымон, наследуючы ўнутраны свет Костуся, усёй сваёй сутнасцю прагне адшукаць шлях, які вядзе да духоўнага вызвалення чалавечай асобы…" — справядліва заўважыў В. Каваленка. Гэта таксама шмат у чым сюжэтна збліжае паэму "Новая зямля" з творам пераважна рамантычнай афарбоўкі і лішні раз падкрэслівае, што ў таленавітага, а тым болей геніяльнага пісьменніка кожны новы твор з'яўляецца працягам папярэдняга і паралельна з шэрагам іншых твораў намячае і вызначае далейшы план і перспектыву развіцця мастацкай думкі.

Для Коласа такі прынцып шырокай і глыбокай узаемакантактнасці аднаго твора з іншым з'яўляецца досыць характэрнай і натуральнай мастацкай прыкметай. Гэтую асаблівасць сюжэтнага ўзаемадзеяння мы знаходзім і ў той сэнсава-кампазіцыйнай злучанасці, якая існуе паміж паэмамі "Новая зямля" і "Сымон-музыка" і якая дапамагае нам у тыповых літаратурных з'явах глыбей разгледзець непаўторныя, своеасаблівыя, новыя і наватарскія грані.

Якуб Колас быў далёкі ад іканапіснага ўспрымання беларускага селяніна і наогул беларуса, не згладжваючы і супярэчлівую прыроду характараў сваіх герояў. Але, бадай, што ў кожным разе пісьменнік дае чытачу адчуць і зразумець, што яму вельмі блізкі і дарагі чалавек, які выяўляе сваю цярплівасць у неспрыяльных для яго абставінах толькі да пэўнага часу, і ў запасніках характару якога неўпрыкмет выспявае сіла супрацьдзеяння і супраціўлення.

Праблема духоўнай моцы чалавека і чалавечай актыўнасці, якая працяглы час займала, а дакладней, глыбока хвалявала і цікавіла Якуба Коласа і Янку Купалу, не страціла свайго актуальнага значэння і ў нашы дні. Мастацкае слова класікаў беларускай літаратуры — гэта, апроч усяго, сур'ёзны напамін сучасніку аб тым, што заснаваныя на розных валюнтарысцкіх тэорыях і адарваныя ад глыбокай думкі, глыбокага пачуцця і агульначалавечага вопыту духоўнасці мітуслівыя, уяўна актыўныя формы дзеянняў не прыносілі нічога добрага нікому, нідзе і ніколі, а часам з'яўляліся і вельмі шкоднымі. Чалавеку і чалавецтву неаднойчы даводзілася трапляць у скрутныя, цяжкія і складаныя сітуацыі, калі гэта, здавалася б, агульнавядомая, аксіяматычная ісціна заставалася па-за ўвагай.

Васіль ЖУРАЎЛЁЎ

На здымку: Якуб Колас з Янкам Купалам на карціне Івана Ахрэмчыка.

Фотарэпрадукцыя Віктара Кавалёва

# Ад вітражоў становіцца святлей…





**У адной са старадаўніх кніг прачытала, што калі чалавек глядзіць наперад, Бог здымае з яго далоні прадвызначаны пры яго нараджэнні лёс. І аддае жыццё ў яго асабістыя рукі: маўляў, будуй яго сам, як хочаш і можаш! Галоўнае ў гэтым выпадку — знайсці тую справу, якая будзе прыносіць табе задавальненне і дзеля якой ты гатовы працаваць нават бясплатна…**

Я ўспомніла пра гэта, калі сустрэлася з Людмілай Андросавай. Спачатку на рынку ў Пружанах, а потым — у яе ўтульнай кватэры ў шматпавярховым доме ў Новых Засімавічах.

Найперш жанчына прыцягнула мяне сваім некалькі незвычайным для Пружан заняткам: ужо шмат гадоў яна займаецца вырабам вітражоў. Прайсці міма апраўленых у рамкі шклінак, падобных да рознакаляровых "райскіх" птушак, было немагчыма. Побач спыніліся такія ж зацікаўленыя творчасцю мастачкі. І кожны здзіўляўся: няўжо такі цуд зроблены звычайнымі чалавечымі рукамі!

Падчас размовы з Людмілай Нічыпараўнай аказалася, што гэта не проста таленавіты і абаяльны чалавек, але яшчэ і вельмі цікавая субяседніца, клапатлівая жонка і мама, якую муж і дзеці (а ў Людмілы двое дарослых сыноў і дачка) нездарма называюць чараўніцай. Па сцвярджэнні родных, яна выдатна ўмее карыстацца сваёй падсвядомасцю, і гэта вельмі дапамагае ў жыцці. Якім чынам? Людміла на хвіліну задумалася:

— Жыццё дае чалавеку мноства варыянтаў. І выбраць самы лепшы з іх мне пакуль што ўдаецца…

Галоўны свой выбар яна зрабіла яшчэ ў дзяцінстве. Гэта мастацтва. Колькі сябе памятае, самым любімым захапленнем было маляванне. І сябры, і родныя заўсёды былі ўпэўнены, што дзяўчынка абавязкова стане мастаком. Так і здарылася: Людміла паступіла і паспяхова закончыла мастацкае вучылішча.



Талент мастака, падмацаваны ведамі, спатрэбіўся… у вайсковай часці, куды накіравалі на службу мужа-лётчыка. Калі, будучы ў дэкрэтным адпачынку, Людміла намалявала некалькі плакатаў у ленінскі пакой, ёй тут жа прапанавалі: "Ідзіце да нас працаваць!". І нават па-за чаргой выдзелілі кватэру і месца ў дзіцячым садку для маленькай дачкі.

— Тады было модна мець шмат нагляднай агітацыі,— расказвае Людміла Нічыпараўна.— Але ў свае плакаты і стэнды я старалася ўкласці хаця б кропельку душы. Таму і атрымлівалася.

Калі нагляднай агітацыі стала патрабавацца менш, жанчыну перавялі ў… механікі па ўзбраенні. Хаця абавязкі яна выконвала ўсё тыя ж: малявала стэнды і плакаты. Душу адводзіла дома: ляпіла і размалёўвала гліняныя цацкі, рабіла роспісы на шкле, малявала алеем…

Работы мастачкі — у кожным пакоі: малюнкі, густоўныя падзелкі, нават звычайны радыёпрыёмнік Людміла Нічыпараўна ўпрыгожыла рознакаляровымі каменьчыкамі. Але асаблівую адметнасць тут ствараюць вітражы: на шкле дзвярэй, на корпуснай мэблі. На сцяне ў гасцінай вітраж у танах спелай пшаніцы падсвечваецца электрычнымі лямпачкамі. Вачэй не адвесці!

Ёсць вітражы маляваныя і з выкарыстаннем разнастайных каменьчыкаў, стужачак, тыфонаў і пескаструйкі. Новым тэхналогіям Людміла Нічыпараўна навучалася на спецыяльных курсах у Маскве.

— Я люблю сваю сям'ю, дом, дзе мы жывём, працую з вялікім задавальненнем, — разважае жанчына. — І вельмі радуюся, калі людзям падабаецца. Таму так і атрымліваецца!

Узрост справе не перашкаджае. Наадварот, Людміла не развучылася здзіўляць, і сама па-дзіцячы здзіўляцца. Напрыклад, штогод у навагоднюю ноч яна выпісвае на паперку 12 сваіх самых запаветных жаданняў. А потым цэлы год выкрэслівае іх са спісу па меры здзяйснення. Смяецца:

— І яшчэ ніводнага разу не было, каб што-небудзь з пажаданняў не ажыццявілася!

У такой створанай мамай казцы, дзе галоўнымі героямі з'яўляюцца Любоў, Дабро, Пяшчота, Радасць, жывуць і дзеці Людмілы Нічыпараўны. Гэта не проста шчаслівая і дружная сям'я. Гэта — сям'я з агульнымі імкненнямі, захапленнямі і адным для ўсіх мастацкім бачаннем наваколля. Старэйшая Аляксандра працуе візажыстам у Кобрыне, Ігар сёлета пасля заканчэння сярэдняй школы паступіў у Кобрынскі мастацкі прафесійна-тэхнічны каледж, будзе мастаком-афарміцелем. У дадатак ён захапляецца музыкай, сам піша песні. Арцём радуе бацькоў першымі, але ўжо даволі важкімі поспехамі. Выпускнік Пружанскай школы мастацтваў, дзе, дарэчы, быў стыпендыятам спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі, ён з поспехам скончыў той жа Кобрынскі мастацкі каледж, быў пераможцам рэспубліканскага конкурсу (у намінацыі "Скульптура"), у будучым збіраецца ўсур'ёз асвоіць такую нялёгкую справу, як мастацкая апрацоўка каменя.

Не прамінуў Гасподзь "пацалаваць у цемечка" і мужа Людмілы Нічыпараўны. Прафесіянальны лётчык, афганец Уладзімір Сяргеевіч, выйшаўшы на заслужаны адпачынак, таксама пачаў займацца творчасцю. Ён працуе з дрэвам, выдатна ўмее выразаць лобзікам.

Ёсць у сям'і Андросавых мара: купіць у вёсцы невялікую хатку і адкрыць там сваю творчую майстэрню. У кожнага з іх грандыёзныя мары і імкненні, для ажыццяўлення якіх гарадская кватэра ўжо стала цеснаватай. А яшчэ яны мараць пабудаваць прасторны дом "на чатыры выхады" і ўсёй вялікай сям'ёй жыць разам, пад адным дахам.

— З задавальненнем буду няньчыць там унукаў і пад святло сваіх сонечных вітражоў расказваць ім казкі, у якіх заўсёды перамагаюць любоў і дабро, — усміхаецца Людміла Нічыпараўна.

Ніколькі не сумняваюся, што менавіта так у яе жыцці і атрымаецца.

Ганна ХАДАРОВІЧ

На здымках: такія кветкі бываюць толькі ў казках; у доме майстрыхі — усё незвычайнае; Людміла Андросава — каралева ў выдуманай ёю краіне прыгажосці.

Фота Аляксандра Мелеша

## У наступным нумары ЛіМ

Ужо невядома, хто і для якога выдання рыхтаваў у 1975 годзе адказы Уладзіміра Караткевіча на перадувагодную анкету. Тэкст анкеты, па вялікім рахунку, — адказ на адно пытанне: якім бачыцца Караткевічу сучасны чалавек. "ЛіМ" друкуе гэтыя развагі і такім чынам пачынае святкаваць юбілей пісьменніка. Акрамя публіцыстычнага рарытэта, чытачы знойдуць у дадатку "Кніжны свет" урывак з рамана "Хрыстос прызямліўся ў Гародні", які Пятро Жаўняровіч пераклаў на рускую мову.

З глыбінкі

## Кузя справіў наваселле

Вочы людзей ззялі шчасцем. Ні празлівы вецер, ні халодныя кропелькі дажджу не маглі сапсаваць настрой случчан, якія сабраліся на вуліцы Барысаўца каля новага пяціпавярховага васьмідзесяцікватэрнага дома. У гэты дзень члены жыллёва-будаўнічага спажывецкага кааператыва "Культработнік" атрымлівалі ключы ад свайго новага жытла.

Дзеля ўрачыстасці работнікі раённага цэнтра народнай творчасці аддзела культуры Слуцкага райвыканкама падрыхтавалі духмяны пірог. Ім шчодра частавалі навасёлаў і гасцей. Прысутнічала ў гэты дзень і традыцыйная чырвоная стужка, якую перарэзалі старшыня райвыканкама Уладзімір Даманеўскі, старшыня раённага Савета дэпутатаў Віктар Ражанец і начальнік ПМК-225 Андрэй Яновіч. Пасля гэтага рытуалу ўсе атрымалі магчымасць агледзець новае жыллё. Навасёлам па-добраму зайздросцілі — у кватэрах прыгожа і ўтульна. Акуратныя шклопакеты, модныя шпалеры, сучасныя сантэхніка і газавае абсталяванне, падключаны ўсе камунікацыі.

Здача новага дома ператварылася ў сапраўднае свята — работнікі культуры Случчыны выдатна ўмеюць гэта рабіць — з жывой музыкай, песнямі, прыемнымі сюрпрызамі. Напрыклад, у выглядзе шыкоўнага ката Кузі, якога спецыяльна на "ўваходзіны" прынесла вядучы метадыст цэнтра народнай творчасці Таццяна Яфрэмава (Кузя адразу стаў талісманам дома). А як пранікнёна і артыстычна выконвала песню таксама вядучы метадыст Таццяна Дабрынеўская! Настрой спявачкі быў зразумелы: і яна атрымала кватэру ў новым доме. Сярод навасёлаў — дырэктар Лучнікоўскай дзіцячай музычнай школы Таццяна Даніловіч, дырэктар Цэнтра мастацкай творчасці навучэнцаў Зінаіда Губановіч…

Работнікі культуры атрымалі свой дом. На чарзе — дамы для настаўнікаў і медыкаў.

Наталля СЕЛЯЗНЁВА, г. Слуцк

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь

ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі"

РВУ "Літаратура і Мастацтва"

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ





Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.

Індэкс 63856
Наклад 2967
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 11.11.2010 у 11.00

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 5451

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-4686